## Напярэдадні катастрофы
*Уверцюра*

Яны сядзелі ўчатырох моўчкі. Паўгадзіны таму яны пазнаёміліся, нават усміхнуліся адна адной добразычлівымі ўсмешкамі, за якімі дрэнна прыхавалася насцярожанасць, але далей справа не пайшла — размова не клеілася. Толькі і заставалася, што рабіць выгляд вялікай зацікаўленасці тым, як рыхтуецца месца для здымак.

— Здохнуць можна, як горача, — заўважыла Першая, якой цяжэй за ўсіх давалася няёмкае маўчанне.

Першая любіла жарты пра смерць. Любіла дражніць імі маці. «Госпадзі, калі ж я здохну», — гаварыла яна пад канец цяжкага працоўнага дня. І потым з патаемнай асалодай слухала занепакоенае: «Дзетачка, нельга так выказвацца!»

Першую ніхто не падтрымаў, але яна лёгка магла ўявіць сабе рэакцыю кожнай.

Другая, бялявая (каса да пояса, моцныя лыткі і фітнэс-бранзалет на запясці), напэўна, залупіла б нешта па-будысцку светлае і маркотнае. Адразу відаць, што яна з тых, каму заўсёды альбо «дзякуй, мне цёпла», альбо «дзякуй, мне не горача». Такія ў офісах звычайна садзяць пад кандыцыянерамі.

Пухленькая, нізенькая дзяўчынка (пра такіх праз колькі гадоў будуць казаць «ззаду піянерка, спераду пенсіянерка»), Трэцяя, відавочна, больш за іншых падзяляла нелюбоў да спякоты. Але і тая маўчала б, пакуль нехта іншы не пасміхнуўся б і гэтым смехам не прапанаваў бы належны алгарытм паводзін.

Чацвёртая. Вастраносая. Дарэчы, адзіная, чый твар быў пазбаўлены дзіцячай разгубленасці. Здаецца, яна цішком

вывучала дзяўчат, сваіх будучых саперніц. Менавіта сваіх, бо ў Першай саперніц тут не было.

— Дзевачкі, зараз будзем здымаць візіткі, — падляцеў да іх даволі малады, патрапаны жыццём мужчына, Віктар Віктаравіч, псіхолаг тэлепраекта «Мужчына выбірае», якога Першая адразу ахрысціла Вікі Вікам для зручнасці. — Вы тут паміж сабой дамовіліся, хто пачне?

«О, вядома, з гэтымі рыбамі дамовішся», — падумала Першая, а ўголас сказала:

— Ды не, балбаталі тут пра жыццё, так што час незаўважна праляцеў. Бярыце любую.

— Я пайду, — адгукнулася Чацвёртая. Першая па старой звычцы прымерыла на яе цэтлікі літаратурных цёзак: хутчэй Растова, чым Мармеладава, хоць для праекта Мармеладава была б цікавейшай.

Чацвёртую пасадзілі на крэсла, прыпудрылі, Вікі Вік нешта шапнуў ёй на вушка (напэўна, хацеў супакоіць, што было лішнім, бо вастраносая выглядала на рэдкасць упэўненай), адышоў па-за межы камер, адтуль крыкнуў:

— Гатовая?

Чацвёртая згодна кіўнула.

— Тады пачынаем!

Чацвёртая запнулася, не пачаўшы, але хутка сабралася і загаварыла роўным, пастаўленым голасам:

— Добры дзень, мяне завуць Соня Дзюба, мне дваццаць дзевяць год, я прыехала з Магілёва, каб прыняць удзел у новым рэаліці-шоу «Мужчына выбірае» на БТБ.

— Раскажыце пра сябе.

— Я выйшла замуж у сямнаццаць год за мужчыну, які падаваўся мне самым прыгожым і разумным на зямлі. Праз год у нас нарадзілася дачка, Тонечка, — узгадаўшы пра дачку, Чацвёртая пасвятлела тварам. — Праз дзесяць год я забрала дачку і пакінула мужа.

— З кім зараз ваша дачка?

— З бабуляй.

— Чаму вы кінулі мужа?

— Не сышліся характарамі, — спакойна адказала Чацвёртая, і Першая амаль што ўбачыла, як цэтлікі «Развядзёнка», «Правінцыялка», «Вечная пакутніца» расчаравана адляпіліся ад ілба Чацвёртай. Якая страта для праекта! Няма ні канкрэтыкі, ні фактаў, ні дакладных прыкладаў. Ніводная хатняя гаспадыня з тыповай беларускай кватэры, пачуўшы такую гісторыю, не схопіцца за сэрца, не паглядзіць з нечаканай расчуленасцю на свайго панурага алкаша-мужа і не вырашыць для сябе, што яна шчаслівая, што вунь як бывае ў людзей, а яе Бог мілаваў, захаваў.

— Вас біў муж? — настойваў голас за камерамі. Вікі Вік не страчваў надзеі задаволіць хатніх гаспадынь.

— Мяне не біў муж! — адрэзала Чацвёртая. На засмучаным твары псіхолага відавочна адбілася: «Шкада». Ну, не трэба так засмучацца, у нас засталіся варыянты. Здрады, напрыклад. Іншыя жанчыны (іншых мужчын чапаць не будзем, пашкадуем беларускіх гаспадынь). Можа, наляцела на паўголую суседку з ніжняга паверха, нечакана вярнуўшыся дамоў? Прачытала перапіску на тэлефоне? Убачыла інтымныя фота?

Падаецца, пакуль Першая забаўлялася прыдумваннем варыянтаў, Вікі Вік спытаў нешта, блізкае да яе прапазіцый, бо Чацвёртая зараз упарта хітала галавой і паўтарала:

— Не-не-не, ён не такі. Ён бы не стаў.

Вікі Вік збянтэжана зазірнуў у нататкі. Напэўна, шукаў прычыну, чаму жанчына можа кінуць мужа, які зарабляе грошы, не лезе біцца і не хавае ў тэлефоне нумары распусніц з подпісамі «Васіль трэці памер» і «Генадзь безадказны».

«Мой ты даражэнькі! — са шкадаваннем падумала Першая. — Свята правaленых візітак аб'яўляецца адкрытым. З пачаткам, так бы мовіць».

Але тут Чацвёртая выдала:

— Мой муж мяне не абараняў.

І Першая ўбачыла, як загарэліся, прадчуваючы эксклюзіў, Віківікавы вочы.

— Што вы маеце на ўвазе пад гэтым «не абараняў»?

А Чацвёртая мела на ўвазе вось што.

Чацвёртая выйшла замуж, як іншыя купляюць гарачую пуцёўку ў Турцыю: не думаючы, у дзікім, паляўнічым экстазе ад сваёй удачлівасці. Яна была прыгожая, але бачылі і прыгажэй, разумная, але чулі і разумней, а грошай у яе сям'і не было зусім. Толя быў дарослы, пятнаццаць гадоў розніцы, з забяспечанай сям'і. У час шпацыраў ён дурасліва шаптаў ёй на вуха, што яе постаць як пясочны гадзіннік, і непрыстойна цмокаў языком, і калі гэта было не каханне, то што тады каханне?! (У гэтым месцы Першая не вытрымала і ляснула сабе далонню па лбе — і гэтую дзяўчыну яна назвала самай адэкватнай, ратуй божа).

Адразу пасля вяселля Чацвёртая дала сабе абяцанне: абавязкова апраўдаць давер. Толя не будзе шкадаваць. Яна была нястомнай: даведаўшыся, што Толя прывячае італьянскую кухню, накупляла кулінарных кніг, бясконца выдавала новае меню кожны тыдзень. Пераадолеўшы першую агіду, глядзела порна на хуткасці 0.5 і канспектавала важныя моманты алоўкам, заточаным па-студэнцку востра: «Не кусаць, не сціскаць», «Не забываць пра язык».

Толя быў сыты і задаволены, а Чацвёртая праз два месяцы хадзіла цяжарная. Усё складвалася, пакуль іх не вырашыла наведаць старэйшая Толева сястра з Томска, Люба. Любы не было на вяселлі, яна гастралявала са сваім ансамблем народнай песні недзе ў Расіі і замест сябе прыслала паштоўку з двума галубамі. «Будзьце шчаслівыя, Толя і Соня!» На літары «С» Любіна рука прыметна задрыжала, але выправілася. Ці, можа, Чацвёртай толькі падалося?

Чацвёртая прыбрала і без таго чыстую кватэру, нагатавала страў, рэцэпты якіх знайшла ў чарговым артыкуле «Гатуем дома як у рэстаране».

Люба аказалася пышнай, сакавітай жанчынай, з доўгімі тоўстымі валасамі, з мяккім тварам і нясцерпна салодкім голасам. Пахваліла чысціню ў хаце, стол. Пасля як быццам выпадкова спытала:

— А ведаеш Тоню? Мінулая Толікава дзяўчына. Такая, скажу табе, была дзяўчына, ух! Тата фээсбэшнік, мама — загадчыца ў музеі гісторыі, дома — бібліятэка з выданнямі дзевятнаццатага стагоддзя і запасы каньяку такія, што хопіць да другога прышэсця! Ну і сабой не дурніца, зноўтакі тры мовы ведае, бацькі пастараліся, вывучылі дзеўку, як трэба... Шкада, што не атрымалася, шкада... Але ж усё да лепшага, так, Сонь?

Зараз, чакала Чацвёртая, зараз ён скажа. Ніякіх Тонь, ён кахае Чацвёртую і нікому не дазволіць яе крыўдзіць у сваёй хаце (добрай, хай не сваёй, хай хата па законе належыць мужу, але ж «усё маё — тваё», ён сам пра гэта гаварыў).

На гэтым Чацвёртая змоўкла.

— І? — зусім непрафесійна спытаў Вікі Вік.

— І ён нічога не адказаў, — скончыла Чацвёртая. Выглядала яна стомленай.

Першая таксама стамілася б: выварочваць душу перад такой няўдзячнай публікай. Але і Вікі Віка можна зразумець: не хапае перцу ў гісторыі. Ну, нічога. Накладуць зверху музыкі, здымуць ролік з акцёрамі, можа, і хопіць для пачатку.

— Наступная, — уздыхнуў псіхолаг.

Наступнай крэсла заняла бландзінка. «Яшчэ адна маркотная візітка», — падумала Першая.

— Добры дзень, — ціхенька сказала Другая і змоўкла.

«Прадстаўся», — аднымі губамі прашаптаў псіхолаг, але куды там: бландзінка і глядзець на яго не глядзела, толькі вывучала свае рукі, быццам шукала, куды запісала сваё імя, як дзеці запісваюць шпаргалкі перад кантрольнымі работамі.

Першая і рада была б падказаць, але насамрэч яна сама забылася на імя, памятала толькі, што яно было празмерна беларускае, як спецыяльна выбіралі, дзеля задавальнення ачмурэлых на адраджэнні нацыянальнай культуры гледачоў. Здаецца, пачуўшы яго, Першая нават усумнілася ў яго сапраўднасці.

Нарэшце Другая назвалася. Можа, знайшла напамін паміж сярэднім і ўказальным пальцамі.

У рускай літаратуры персанажаў з такім імем не было, а беларускай Першая валодала не надта, таму літаратурную ідэнтыфікацыю прыйшлося адкласці да сустрэчы з гуглам. Можна паспрабаваць загугліць «Яська Колас». На благі канец, «Яська Купала». Нешта павінна знайсціся.

Наступныя паўгадзіны псіхолаг безвынікова сыпаў пытаннямі:

— Як вы даведаліся пра праект?

— Як вы ставіцеся да барацьбы з іншымі дзяўчатамі за аднаго мужчыну?

— Няўжо такая прыгожая дзяўчына не можа знайсці сабе хлопца па-за межамі праекта?

На ўсе гэтыя пытанні Другая мармытала нешта безумоўна шчырае, але дакладна нецікавае. Для Першай гэта інтэрв'ю запомнілася як «бу-бу-бу, у мяне вельмі сумнае жыццё, бу-бу-бу, і я сумная, бу-бу-бу, прабачце». Прасіла прабачэння яна, дарэчы, так часта, што Першая адзначыла для сябе наяўнасць прыкмет доўгіх гадоў хатняга гвалту. «Прыгожая» і «таемная гісторыя пра цяжкае дзяцінства» — з такой камбінацыяй можна працаваць.

Нарэшце Другая адпакутавала, і паклікалі тоўсценькую. Першая не пярэчыла: лепш за ўсё запамінаюцца пачатак і канец, няма чаго мітусіцца ў сярэдзіне, тым больш тут пайшла іншая вагавая катэгорыя. (Насамрэч, тоўсценькая не была такой ужо тоўсценькай, заставалася амаль у межах проста шырокай косткі, але да яе імя Першая зноў не змагла ўзгадаць ніводнага літаратурнага персанажа, і гэта

пачало яе злаваць. Паназывалі дзяцей не зразумей як, а ты пакутуй, падбіраючы ім прататыпы.)

Псіхолаг, пачуўшы імя, таксама здзівіўся.

— А ёсць прасцейшыя варыянты? — спытаў ён у Трэцяй.

Трэцяя радасна заківала, маўляў, сказалі б адразу, што трэба прасценькае, у яе ёсць і прасценькае, яна не прынцыповая.

Пачуўшы прасценькае імя, Першая таксама ўздыхнула з палёгкай. Дзякуй Зошчанку, што б мы без цябе рабілі! Добра, цяпер можна прызнаць, што Трэцяя не такая і тоўсценькая. Так, шчокі ёсць, гэтага не адняць, але ў астатнім — была б добрая дзяўчына, калі б не жаданне дагадзіць кожнаму, напісанае на твары. «Хто гадуе ўсіх гэтых дзяўчат? — у які раз задумалася Першая. — Чаму яны вырастаюць такімі зацюканымі і няўпэўненымі?»

— Чаму менавіта ты павінна выйграць наш праект?

— Я? — здзівілася Трэцяя. — Выйграць?

Першая не вытрымала і прыдрамала. Што і патрабавалася даказаць. «Вы што, якое выйграць, я прыйшла пастаяць з боку, як стаю ўсё сваё жыццё, я, дарэчы, тыдзень не спала, калі мяне абралі, усё думала, як гэта выйшла, ці не памыліліся, бо дзе я і дзе спаборніцтвы, у мяне пажыццёвае вызваленне ад усялякага роду спаборніцтваў, я і заяўку падала, хапіўшы віна для храбрасці».

Быў бы тут Жорык, сказаў бы: «Малая, ты становішся занадта злой, трэба тэрмінова цябе пакарміць, каб не выйшла бяды». І меў бы рацыю: есці хацелася непабожна. І да Жорыка хацелася таксама: хто тут замест Жорыка будзе смяяцца з яе жартаў? Але ж яна не проста так сюды прыйшла, у яе мэта, і яна будзе трымацца.

Сваёй візіткай Першая засталася задаволеная: і тым, што сказала (Першая прыйшла адпачыць ад прыхільнікаў, тут, здаецца, будзе толькі адзін, аднаго яна яшчэ гатова вытрымаць), і тым, пра што прамаўчала (Першая — і сама

прыхільніца, толькі вось яе кумір ніколі не прыйдзе на такое шоу).

Пад канец інтэрв'ю Першая не вытрымала:

— Жаніха нарэшце пакажаце ці не? — хацця, шчыра гаворачы, хацелася не столькі пабачыць жаніха, колькі шчодра накрыты абедзенны стол.

— Усяму свой час, — загадкава адказаў Вікі Вік. — Дзякуй за візітку. Дзевачкі, не разыходзімся, трэба зняць апошняе на сёння прывітальнае відэа.

З сонечнай палянкі яны пасунуліся бліжэй да катэджа, іх жытла на бліжэйшы час. Першая бачыла раней гэты катэдж толькі на фотаздымках і зараз ціхенька пацешылася, што ў рэальнасці ён выглядаў не горш, чым на фота: а то, ведаеце, з іх бюджэтам магло быць усялякае.

— Дарагія дзяўчаты! — шырока пасміхаючыся, пачаў Вікі Вік. — Рады вітаць вас на першым на беларускім тэлебачанні рамантычным праекце, дзе кожная дзяўчына мае шанц знайсці свой лёс — «Мужчына выбірае» на БТБ! Наступныя некалькі тыдняў мы правядзём у гэтым цудоўным месцы, так бы мовіць, на ўлонні прыроды. Вас чакаюць спатканні, якія немагчыма забыць, спаборніцтвы з непрадказальным фіналам і, галоўнае, вас чакае герой нашага праекта, Уладзіслаў Зайцаў, журналіст, галоўны рэдактар часопіса «Мужчынская праўда», адзіны спонсар нашага праекта, прыгожы мужчына і, магчыма, будучы муж адной з удзельніц. Але, — тут Вікі Вік зрабіў паўзу і з ненатуральна загадкавым выразам твару абвёў позіркам дзяўчат, — але кожная з вас зможа ўбачыць Славу, толькі калі выйграе права на спатканне. Не трэба засмучацца, бо першае адбудзецца ўжо заўтра! Мы пакажам Уладзіславу вашы візіткі, і ён вызначыць тую, з кім захоча сустрэцца.

— Ой, ды хопіць! — спыніла яго Першая. — Здымкі на сёння завершаны.

## Частка першая, у якой Яська з’яўляецца то дарослая, то маленькая, то пад камерамі, то без

### *Яська дарослая пад камерамі*

На наступны дзень Яська здзівілася двойчы. Спачатку, калі псіхолаг урачыста абвясціў, што права першага спаткання выйграла Соня. Пасля — калі Соня са спаткання не вярнулася.

З таго часу гаварыць пра Соню стала нельга. Соня знікла, пакінуўшы рэчы і не пакінуўшы развітальных слоў (ці, што здавалася Яськы куды больш верагодным, развітальных слёз), і разам з Соняй знікла магчымасць успаміну пра яе. Афіцыйная версія «спатканне прайшло няўдала, Соню адправілі дамоў» не вытрымлівала ніякай крытыкі, але і не прасіла яе. Астатніх трох удзельніц вельмі строга папярэдзілі, што, калі яны па-ранейшаму маюць нейкі інтарэс, каб працягваць удзел у будаўніцтве свайго шчаслівага жаночага лёсу, трэба прытрымлівацца правіл, а правілы з гэтай раніцы такія: ніякай Соні яны ў вочы не бачылі, рукамі не кранаалі, носам не нюхалі.

Яська згадзілася, але на здымкі вячэрняй «гульні» прынесла пунсовыя Соніны пацеркі і, стоячы каля каміна, задумліва перабірала іх, нібы ружанец.

Ці расказаць іншым, што адбылося ўначы? (Ціхенькі стук аднаго ружовага каменьчыка аб другі). Паводле кантракту, яна амаль што абавязана пра ўсё паведаміць (стук больш жорсткі і гучны). Але ці не нашкодзіць гэта Соні? Ці гэта сама Соня можа ім нашкодзіць? (Палец завіс над чарговай пацеркай, але не паспеў яе кранууць).

— Дык што, Яська, хто з нас спадабаецца яму больш? — запыталася Каця.

Пакуль Яська перабірала пацеркі, Лёля з Кацяй гуляліся ў «глядзі, я ў хлам». Так Каця ўчора назвала гэтую гульню. «Зробім выгляд, што мы ў хлам, — прапанавала яна. — Два келіхі шампанскага на кожную па прынцыпе адсутнасці затрымак паміж першым і наступным, і далей хто каго пераможа па дурасці смеху і нязграбнасці рухаў».

Яська не піла, бо, па-першае, і без таго была адназначнай пераможцай гэтай гульні: ад страху перад камерамі шыю скавала так, што варочацца самастойна яна не магла. А па-другое, яна так да канца і не зразумела, навошта гэта гульня была патрэбна. Здаецца, Каці проста захацелася шампанскага, а Лёлі не хацелася сварыцца.

Каб адказаць на пытанне Каці, Яська развярнулася ўсім целам (шыя па-ранейшаму адмаўлялася працаваць), нібыта выконваючы чыйсьці загад «Круго-о-о-м, марш!».

— Я не ведаю, тут усе прыгожыя, — выбрала яна бяспечны адказ.

І дадала ў думках небяспечнае: «Акрамя мяне».

— Прыгожая — гэта якая? — па незразумелых прычынах радасна бліснулі вочы Каці. Відаць, бяспечны адказ апынуўся з падвохам.

Яська паглядзела на яе падазрона — ці не здзекуецца? А табе не зразумела, так? Прыгожая — гэта прыгожая, што тут тлумачыць. Калі Яська ў чацвёртым класе пачула за сваёй спінай, што яна «страшыдла», яна не стала даведвацца: «Страшыдла — гэта якая? Вось для мяне страшыдла — гэта такая, а для яго — іншая?» У чацвёртакласнікаў было адназначнае меркаванне па такіх пытаннях, і яно не ведала ні розначытанняў, ні літасці. Яська добра адчула гэта на сабе.

— Прыгожая — гэта калі ўсім падабаецца, — выпаліла Яська і адразу пашкадавала: так недарэчна і нязграбна прагучалі яе словы. Дарэчы, праўда часцяком так гучыць, можа, таму людзі ўвесь час хлусяць.

— Усім падабацца немагчыма, — сур'ёзна заўважыла Лёля з ноткамі прафесійнага занудства ў голасе. — І наўрад ці правільна.

Яська ведала толькі, што магчыма ўсім не падабацца, і гэта, без усялякіх спрэчак, няправільна, але вырашыла з гэтым адкрыццём не лезці.

Тым часам псіхолаг падаў за камерамі знак, што час пачынаць гульню.

— Ёсць ідэя, — уступіла Каця. — Чаму б нам не пагуляць у адну гульню?

— Якую? — паслухмяна выдала Яська сваю рэпліку. І без таго кароткая, з Ясьчыных вуснаў яна вылецела хуткамоўкай, як верш у вучня каля дошкі: хутчэй, хутчэй адмучыцца і мокрым, але задаволеным, што чарговае пасмешышча пражыта, вярнуцца да сябе за парту.

— Гульня такая: кожны на паперках піша некалькі нечаканых фактаў пра сябе, мы гэтыя паперкі пакладзём, пакладзём, ну вось, напрыклад, у гэты капялюш, — усе паглядзелі ў бок капелюша, быццам бачылі яго ўпершыню. — А потым будзем выцягваць іх па чарзе і адгадваць, дзе чыё.

Псіхолаг падняў вялікія пальцы рук уверх і заахвочвальна імі патрос. Добрая дзяўчына, умее гаварыць доўгімі сказамі і без мацюкоў, калі трэба.

— Ці можам проста пагуляць у «Кракадзіла», — заўважыла Лёля, старанна кіруючыся парады псіхолага больш жартаваць і спрачацца («два галоўныя фактары поспеху любога шоу»). У Каці, на Ясьчын погляд, выходзіла лёгка і ненатужліва, а Лёля часам нагадвала дрэннага, але руплівага акцёра: здаецца, і тэкст вывучыла, і міміку адпрацавала, а роля ўсё роўна як з чужога пляча. — Жартуюжартую, цягніце сюды свае паперкі. Душэўны стрыптыз пачынаецца.

На фразе «душэўны стрыптыз» яна няўпэўнена пасміхнулася, і Яськы палягчэла ад разумення, што не адной ёй прыходзіцца цяжка перад камерамі.

Пакуль яны рабілі выгляд, што напружана думаюць, што б такое напісаць на паперках, іх крыху паздымалі.

— Запраў валасы за вуха, — папрасіў Яську адзін з апаратараў, — быццам у задумлівасці.

Яська паслухмяна заправіла.

Кацю і прасіць не трэба было. Ёй падабралі вобраз, падобны да таго, што калісьці праславіў Алсу ў кліпе «Зімні сон»: чорныя косы з двух бакоў рэзка панявіннеўшага твару, белы вязаны швэдар замест сукенкі, шкарпэткі да сярэдзіны галёнкі таго ж колеру. Каця задумліва глядзела ў аркуш і аблізвала асадку, і Яська была б не здзіўлена ўбачыць праз некалькі хвілін напісанае на Кацiным аркушы «Вяду курсы па падрыхтоўцы Гумберт-Гумбертаў».

Не дзіўна, што Кацю здымалі адразу некалькі апаратараў і даўжэй за ўсіх.

Урэшце, наздымалі дастаткова, і гульня пачалася.

— «Бегае восем кіламетраў кожны дзень», — выцягнула Лёля першую паперку. Замаўчала на хвіліну. Напэўна, на гэтым месцы прадугледжваўся жарт, але той нахабна вылецеў з галавы, і зараз Лёля збянтэжана абводзіла вачыма пакой у дарэмнай надзеі сачыніць нешта арыгінальнае. Арыгінальнае сачыняцца не спяшалася, таму Лёля здалася і агучыла відавочнае: — Ну, гэта Яська, вядомая справа.

— А чаму не я? — наўмысна тэатральна пакрыўдзілася Каця. — Я, бывала, і прабягала восем кіламетраў.

— Калі ўцякала ад міліцыі, — нарэшце пажартавала Лёля, на Ясьчын густ, даволі няўдала. — Што, Яська, мая праўда?

— Так, — сціпла сказала Яська — майстар кароткіх рэплік. А за гэтым «так» для яе хаваўся цэлы свет.

...Першае, што бачаць Ясьчыны вочы пасля выключэння будзільніка а шостай раніцы (ніякага «адкласці на дзесяць хвілін» — гэта функцыя для гультаёў і няўдачнікаў), —

надпіс на экране тэлефона «Become a better your today». І Яська бекаміць, яшчэ як бекаміць!

Хуценька нацягвае форму і красоўкі, асцярожна выходзіць, каб не пабудзіць дзяўчынак у суседніх пакоях, пераскокваючы праз прыступкі, выбягае на першы паверх і нарэшце адчыняе дзверы ў вольны свет. Ёй тут жа ў нос б'юць тысячы ранішніх пахаў: зеляніны, кветак, нядоўгага, і тым больш каштоўнага, летняга халадку, — і акрыленая, ап'янёная гэтымі пахамі, Яська не бяжыць, Яська ляціць па дарожцы, мінаючы пасёлак, пакідаючы за спінай і тых, каго не хоча бачыць, і тое, пра што немагчыма больш думаць. Бяжыць, як бегла калісьці дзяўчына, што рэкламавала «Найк» у фільме «Чаго хочуць жанчыны»: шчаслівая ад таго, што асфальту не сорамна, што яе вусны не нафарбаваны і што яна зарабляе больш.

— Твая чарга, — Лёля працягнула капялюш.

Яська асцярожна прыняла. Нерашуча пасоўгала па капелюшы рукой, спадзеючыся, што паперкі з яе прызнаннямі пры датыканні з пальцамі ўдараць токам, і яна здагадаецца не цягнуць іх на белы свет.

— «Хоча атрымаць пярсцёнак "Ціфані" ад Славы», — прачытала Яська і нячутна выдыхнула. Пранесла. — Гэта Каця.

«Парам-парам-пам! — прапеў голас у Ясьчынай галаве на манер застаўкі "Ералаша". — А, прабачце, жарту ж не было. Дзе наша Яся і дзе жарты».

— Ну, а дзе падводачка? — разам з голасам з Ясьчынай галавы расчаравалася і Каця. — Гэтак нецікава. Дзе вось гэта: «Я думаю, гэта напісала самая стыльная і шыкоўная дзяўчына праекта, якая, безумоўна, заслугоўвае "Ціфані", прыватны самалёт і сто адну кветку...»

— Як мінімум на адну ноч, — дадала Лёля і нават пачырванела ад сваёй дзёрзкасці. Яшчэ імгненне — і дадала б: «Прабач».

— Кожны дзень у годзе, — цярпліва паправіла яе Каця. — А зайздросціць нядобра, Лёлечка. Ад гэтага, ведаеш, расце тлушч на сцёгнах. Ну, я бачу, ты ведаеш.

— Гэта не зайздрасць, так выглядае каханне да згушчанага малака, — пажартавала Лёля нарэшце ўдала.

Яська нават падумала, ці не пачаць жартаваць і ёй — калі на яе вачах робіцца такі хуткі прагрэс.

— Можа, ты б да яго на праект пайшла. У нас тут, здаецца, барацьба за іншага каханага.

— Пайду, пайду, як толькі запусцяць такі. Не мучай, цягні паперку.

Каця рашуча, не затрымліваючыся ні на секунду, выцягнула паперку і, нават добра яе не разгарнуўшы, зачытала з дыктарскай выразнасцю:

— «Бачыць эратычныя сны пра нашага псіхолага».

Яська кінула хуткі позірк на Лёлю: тая пачырванела яшчэ больш і зараз нервова аблізвала перасохлыя вусны. «Якая брудная гульня», — падумала яна, адначасова і шкадуючы Лёлю, і радуючыся, што чарговая паперка не закранула яе сакрэтаў.

— Каця, ты што мне тут чыніш, — стомлена спытаў псіхолаг па-за камерамі. — Не было там такога.

— У паперках, можа, і не было, — згадзілася Каця, — а ў Лёльчыных марах яшчэ як, Віктар Віктаравіч! Няўжо вы не заўважылі? Я на вашым месцы асцерагалася б праходзіць паблізу яе спальні ў белым халаце. Не выключана нападзенне на доктара пры выкананні службовых абавязкаў, так бы мовіць.

Каця разышлася. Калі Яська правільна разумее кірунак шоу, гэты эпізод адназначна выражуць.

— Лёля, не слухай яе, — заступіўся псіхолаг. — У Каці адно ў галаве.

— О, дык, можа, вы і самі не супраць! — раптам здагадалася Каця. — Вось гэта паварот! А вы, дарэчы, ведаеце,

што на іншых паперках напісана? Вы гатовы ўзяць такі грэх на душу? Там пасля так проста не адверцішся тыповым «Я табе перазваню». Там да раніцы ўсе вашы будучыя ўнукі будуць з выбранымі імёнамі бегаць.

Яська баялася лішні раз глянуць на Лёлю: тая відавочна зараз памірала ад знявагі. Гаротніца! Трапіла на гэты язык без касцей. Як яшчэ Яську пранясло. Але лепш рана не радавацца.

— Каця, альбо ты зараз чытаеш паперку, альбо заўтра едзеш дадому, вызваленая ад неабходнасці шукаць імя вашым са Славам унукам.

Давай, даражэнькі, наводзь парадак.

— Я гляджу, на курсах псіхалогіі пачуццё гумару не выкладалі, — працягнула Каця.

— Чытай лепш, што напісана на паперцы! Стэндапшчыца ты наша.

Каця разгарнула паперку, як трэба, хуценька прачытала пра сябе і змянілася ў твары.

— Гэта што, розыгрыш? — спытала яна разгубленым голасам у камер. — Эфект нечаканасці?

Не было падобна, што яна жартуе. Хаця хто ведае гэтую Кацю.

— Які яшчэ розыгрыш! — не вытрымаў псіхолаг і ўлез у кадр. — Паедзеш дамоў на плацкарце, будзе табе розыгрыш! Ці табе пра няўстойкі па кантракце нагадаць?

— Ну, вы самі пачытайце, — Каця працягнула яму паперку, адзіную са ўсяго капелюша напісаную ад рукі.

«Гэты праект — падман. Уцякайце, пакуль не позна», — зачытаў псіхолаг. — Стоп! Спынілі здымкі! Хто гэта зрабіў?! Чые гэта жарты?!

## *І без*

Насамрэч яны ведалі, што будзе гульня, і рыхтаваліся.

Вечарам напярэдадні здымак псіхолаг сабраў усіх дзяўчат у Ясьчыных пакоях (выбраных, як падалося Ясьцы, па прынцыпе найменшай захламленасці — усе Ясьчыны рэчы, узятыя з сабой на праект, змясціліся ў заплечнік і адтуль не высоўваліся, гатовыя ў любую хвіліну падхапіцца і выскачыць з пакоя разам з гаспадыняй). Псіхолаг прынёс капялюш, у капелюшы бялелі паперкі.

— Заўтра будзе гульня, — прамовіў псіхолаг, гледзячы чамусьці не на дзяўчат, а ў бок пустой драўлянай шафы, пастаўленай у кут ці то дзеля Ясьчыных рэчаў (і ў такім выпадку — стаяла яна там без усялякага сэнсу ў сваім шафавым жыцці), ці то каб прыкрываць зжаўцелыя шпалеры (таксама не Бог ведае які сэнс, але хто з нас можа пахваліцца лепшым). — Тут факты з вашага жыцця. Без подпісаў, дзе чый. Усё, чым вы, так бы мовіць, шчыра падзяліліся на нашых індывідуальных інтэрв'ю, — тут псіхолаг дазволіў сабе коратка крэкнуць, што на мове псіхолагаў, відавочна, азначае «можна пачынаць смяяцца». — Гульня будзе праходзіць так: адна з вас выцягвае паперку, зачытвае факт, а астатнія адгадваюць, да каго ён адносіцца. Падрыхтуйцеся зараз як трэба. Каб заўтра без істэрык. Ладачкі?

Дзяўчыны глядзелі на яго моўчкі, застыўшы ў нерухомасці, кожная на сваім месцы, успамінаючы, ці не сказалі лішняе, а калі сказалі, ці не зашмат, а калі зашмат, ці будзе яшчэ дзейнічаць віза, каб пакінуць краіну пасля заканчэння праекта і ніколі не вяртацца.

— Ладачкі, — адказаў псіхолаг, кінуў капялюш на ложак і зачыніў за сабой дзверы.

Не перабіваючы цішыні, Лёля склала паперкі ў слупок. Дзевяць фактаў, напісаных дробным шрыфтам, працягнуліся ад падушкі да канца ўзору па краі падкоўдраніка, але

для Яські яны затапілі сабою ўвесь ложак і падлогу, і яна ледзь стрымлівалася, каб не заскочыць па-кашэчы на шафу і не схавацца ад гэтага сусветнага патопу.

Вось што ляжала на ложку.

«Хоча атрымаць пярсцёнак “Ціфані” ад Славы».

«Фанатка Скрыптаніта».

«Не дачакалася хлопца з турмы».

«Бегае восем кіламетраў кожны дзень».

«Цнатлівая».

«Марыць, каб бацькі развяліся».

«Не памятае некалькі начэй са свайго жыцця».

«Пераможа ў шоу “Мужчына выбірае” на БТБ».

«Мае другую вышэйшую адукацыю па спецыяльнасці “Псіхалогія”».

— Калі я толькі паспела гэтак разгаварыцца на інтэрв’ю, — засмучана працягнула Лёля, пабачыўшы поўны спіс. — Як думаеце, на пачатку шоу будзе перасцярога «Не рэкамендуецца для прагляду асобам, маладзейшым за шаснаццаць гадоў, а таксама бацькам удзельніц праграмы?»

— Ну, не ўсім бацькам, — улезла Каця, якую, мяркуючы па рэакцыі, спіс не здзівіў і не засмуціў. — Бацькі «Цнатлівай» дакладна будуць задаволеныя.

— Толькі пакуль не зразумеюць, што «Марыць, каб бацькі развяліся» — гэта таксама пра іх дачку, — уздыхнула Лёля.

— Ты сур’ёзна? — спытала Яська, якая дагэтуль сядзела моўчкі, змагаючыся са сваімі шафавымі марамі.

— Ведаеш, калі прачынаешся а другой ночы ад таго, што бацька неспадзявана для ўсіх, улічваючы сябе, вяртаецца дадому, і адразу з вітальні крычыць на ўсю хату: «Карміць хто будзе?», марыцца рознае, і бацькоўскі развод не самая кардынальная ідэя.

Яську гэта нечаканая шчырасць і збянтэжыла, і захапіла.

— Нармальна, Лёльчык, — сказала Каця, таксама ўражаная Лёлінымі адкрыццямі. — Вядомы факт, што Талстой напісаў сваё «ўсе шчаслівыя сем'і шчаслівыя аднолькава», бо насамрэч не ведаў аніводнай шчаслівай сям'і.

Лёлі было ненармальна, але як выявілася, зусім з іншай прычыны.

— Непрыемна, што з экрана пра мяне скажуць: «Цнатлівая». Хіба прыгожа вось так, з разбегу, выдаваць палавую біяграфію чалавека?

— Яе адсутнасць, — папраўіла Каця.

— Добра, яе адсутнасць.

— Тады чаму расказала на інтэрв'ю? — запыталася Яська.

— Не хапае падолу сукенкі на ўсе жаночыя таямніцы, — весела адказала Каця замест Лёлі. — Толькі на ногі нацягнула, як бакі вываліліся. Так, Лёлечка?

— Давай я буду, — прапанавала Яська ў парыве высакародства, выкліканага няшчасным Лёліным выглядам. — Каці ўсё роўна ніхто не паверыць…

— Гэта дакладна, — хіхікнула Каця. — Чакаецца наплыў фота- і відэадоказаў адваротнага.

Яська паморшчылася. Дадала (не для Каці — той усё роўна, для Лёлі, у якой увесь твар ад хвалявання быццам паплыў уніз):

— А мне не было б сорамна за «цнатлівую». Мне сорамна зусім за іншае.

— А зараз мы ўгадаем, за што! — страпянулася Каця, заўважыўшы Ясьчыну рэакцыю на свае жартачкі. — У нас тут, ведаеш, шырокі выбар. Хочаш кароткія страты памяці, хочаш турэмнае каханне. Ваш выбар, лэдзі.

— Я бегаю восем кіламетраў, — адказала Яська, лаючы сябе, што так неасцярожна наклікала Кацін гнеў.

— І гэты факт мы не адбяром! — прытворна супакоіла яе Каця. — Але матэматычна выходзіць, што з дзевяці паперак тры прыходзіцца на кожную. Значыць, твае — яшчэ дзве, і гэта відавочна не пярсцёнак «Ціфані».

Яська маўчала.

— Давай, Яська, ты раскажаш, а мы вырашым, каму гэтую гісторыю прыпісаць. Хто вытрымае, — падтрымала яе Лёля.

І Яська расказала.

## *Яська маленькая*

Памяць ніколі не была Ясьчыным сябрам.

Асабліва ў першыя гады жыцця, якія па-здрадніцку сцерліся і не пакінулі па сабе амаль ніякіх адзнак. Ніякіх кручкоў, за якія можна было б падчапіць і выцягнуць з цёмнага балота дзяцінства хоць якую дробязь. Ніякай цётчынай парфумы, водар якой Яська пачула, калі бацькі ўпершыню прыехалі да цёткі ў Саратаў. Ніякага шамацення дрэў, што гайдаліся над Ясьчынай калыскай падчас прагулак у Лошыцкім парку. Ніякіх жудасных таямніцаў, якія падгледзела дзіцячае вока і, уражанае незразумелым, запомніла на ўсё жыццё. Не засталося нічога, што Яська магла б прад'явіць на інтэлектуальных размоўках, каб сцвердзіць прысутнасць у сябе ранніх прыкмет самапазнання.

Гэта яе не здзіўляла, бо Яська прывыкла быць горшай. «Табе трэба старацца, каб нагнаць К.», — казала настаўніца. К. тым часам прыходзіў у школу непадрыхтаваным і за перапынак паспяваў вывучыць «Я — Іван з Беларусі», на які Яська марнавала добрыя тры гадзіны, увесь час збіваючыся на «скрусе».

«Ва ўсім свеце прызналі мяне, незламанага ў буры і... і... і...»

«Скрусе, — чытала Яська ў падручніку. — Скрусе-скрусе-скрусе, што б гэта ні значыла».

За К. пастаралася генетыка, а за Яську магла пастарацца толькі яна сама. І яна старалася што было сіл.

Таму Яська заўсёды гублялася, калі чула: «Раскажыце свой першы ўспамін пра сябе».

За жыццё яна так не абзавялася ні:

— успамінам драматычным: «Памятаю, як за дзвярыма дзіцячага пакоя сварыліся бацькі. Чаканая рэакцыя аўдыторыі: «Ба, гэта дзіцё так рана спазнала трагізм жыцця!»

— успамінам мастацкім: «Гэта было такое магутнае дрэва, што спатрэбілася б чалавек дваццаць дарослых,

каб яго абхапіць. Дрэва ссеклі, калі мне было тры, і пасля я цэлы вечар праплакаў». Чаканая рэакцыя аўдыторыі: «Нясіце палатно! Нясіце пэндзлі! Заснаўвайце новы музей, у нас ёсць ідэя, у чый гонар ён будзе!»

Не, Яська з павагай выслухоўвала чужыя ўспаміны, а пра сябе казала: «Прабачце, нічога не памятаю як першае». Рэакцыя аўдыторыі: «Добранька. Добранька. Хопіць свету мастакоў, а з цябе выйдзе добры бухгалтар».

З першымі школьнымі гадамі было і лепш, і горш адначасова. З аднаго боку, Яська ўжо нешта памятала: серыял «Дзяўчаты з характарам» з неверагодна прыгожай Памэлай Андэрсан у галоўнай ролі, пад які было так прыемна паціхеньку адкусваць шакаладны батончык «Віцьба». Батончык выдаваўся адзін на дзень, і Яська валодала майстэрствам найвышэйшай катэгорыі расцягнуць невялікі батончык амаль на гадзіну. Апошні кавалачак яна з’ядала, толькі дачакаўшыся, калі гераіня Памэлы Андэрсан апусціць на галаву галоўнаму злачынцу вазу, што своечасова апынулася пад рукой.

Але ад школьных гадоў засталіся і ўспаміны, якія патрабавалі тлумачэння, а патлумачыць іх не было каму.

Асабліва хваляваў Яську ўспамін пра трусы.

Яна добра памятала, што кожны раз, прыходзячы са школы, пераапраналася цалкам, і асаблівае месца ў гэтым пераапрананні адводзілася трусам. Хатнія трусы, здаецца, нічым не адрозніваліся ад школьных, акрамя таго, што былі цёпленькія і больш утульныя, бо паслужліва чакалі Яську на батарэі ў ваннай.

Вось і ўвесь успамін. Але ён не даваў Ясьцы спакою: у чым была патрэба пераапранаць трусы? Хто гэта прыдумаў: маці ці сама Яська? І калі гэта практыка спынілася, ці гэта была Яська, якая рызыкнула і паказала школьным трусам серыял «Дзяўчаты з характарам», ці гэта маці замарудзіла і не паспела падрыхтаваць чарговую хатнюю змену?

Маці, дзякуй Богу, была жывая-здаровая, і можна было б спытаць у яе, але спытаць было страшна, каб не высветлілася, што Яська гэта ўсё выдумала. Што, калі не было ніякіх асаблівых хатніх трусоў, як гэта характарызуе Яську? Як чалавека з вычварэнскай фантазіяй ці як псіха ў стадыі рэмісіі, і ці ёсць паміж дзвюма гэтымі характарыстыкамі такая ўжо вялікая розніца?

Гэты нявырашаны ўспамін пра трусы ў канчатковым выніку ўсё і сапсаваў.

Калі псіхолаг на першых інтэрв'ю папрасіў Яську расказаць пра яе дзяцінства, яна замітусілася ў спрадвечнай спрэчцы з самой сабой: нельга гаварыць пра маленства, бо там нічога не памятаецца, нельга гаварыць пра трусы і батончык «Віцьба», каб не паставілі дыягназ загадзя, а пра што тады гаварыць, каб не паслалі, як у дзяцінстве, у бухгалтары.

Так і выйшла, што Яська расказала ім пра Вадзіка.

Пачатак гульняў з Вадзікам быў яшчэ адной чорнай плямай у Ясьчынай памяці, багатай на гэтыя плямы, як чарвівая бульба.

Калісьці быў, напэўна, першы раз, калі сусед па калідоры, старэйшы за Яську на шэсць гадоў, пастукаў у дзверы маладых бацькоў і папрасіў пагуляць з Яськай. Але гэта дакладна прыйшлося на перыяд Ясьчынага маленства, і ў такім выпадку навошта яна здалася падлетку? Нешта яна не асабліва заўважала вакол сябе цягу адзінаццацігадовых хлопцаў да дзяўчынак дзетсадаўскага ўзросту.

Тады, можа, было не так. Можа, гэта маці папрасіла Вадзіка пасядзець з Яськай, а Вадзік чамусьці не адмовіў (хаця павінен быў, як ні глядзі, павінен, бо Вадзік быў, што называлася, хуліган і неслух, і ні Ясьчына маці, ні Вадзікавы бацькі не былі для яго ніякім аўтарытэтам).

Пра гэта таксама можна было спытаць у маці, але тэма была яшчэ больш небяспечнай за трусы і абсалютна дакладна забароненай.

Так ці інакш, Яська дайшла да моманту, які, хвала чарвівай памяці, застаўся ў галаве: калідор з прыглушаным святлом, Яська ў любімым жоўтым касцюмчыку сядзіць вярхом на Вадзіку, што стаіць на карачках, і ёй і весела, і няёмка адначасова.

— Камандуй! — загадвае знізу Вадзік.

Яська, не прывучаная ні загадваць, ні катацца на кані, губляецца, і Вадзік, пабачыўшы гэта, пачынае падказваць:

— Мне прайсціся да той сцяны?

— Так, — згаджаецца Яська. Гэта было відавочна, чаму яна не прыдумала сама! — Прайдзіся да той сцяны!

І Вадзік робіць пару крокаў, а потым выбрыквае, як сапраўдны конь, і амаль даскоквае да супрацьлеглай сцяны, а Яська, ледзь не зваліўшыся ад нечаканай здрады, хапаецца за Вадзікавы валасы, і Вадзік крычыць «Ай, балюча», і цяпер не жартам, а сур'ёзна спрабуе скінуць Яську з сябе. Яська раптам разумее, што Вадзікавы валасы не найлепшая падтрымка. На долю секунды ў яе прачынаецца вершніцкі інстынкт, і яна, што той запраўскі казак, прыціскаецца ўсім целам да свайго ўзбунтаванага каня і адчувае, майка праз майку, які ён гарачы, гарачэйшы за батарэю, гарачэйшы за вячэрнюю гарбату, якую яны пілі з маці перад сном.

— Мяняемся! — крычыць знізу Вадзік, і Яська згаджаецца, пакорна апускаецца на карачкі.

— Толькі без жартачак, — просіць яна жаласліва.

Вадзік залазіць, і Яська адчувае ўсю вагу чалавека, старэйшага за яе на цэлае жыццё, а яшчэ адчувае, быццам ён і ёсць яе гаспадар, а яна пакорлівая жывёліна, і ёй ад гэтага і страшна, і сорамна, і прыкра.

— Н-о-о! — загадвае Вадзік, і Яська, прыкладаючы ўсе свае дзіцячыя сілы, паўзе, але Вадзік усё роўна незадаволены, Вадзік крычыць: «Чаму так марудна?» — і Яська, падмёўшы па засеках свой гонар, вырашае таксама крыху яго папужаць. Яна робіць нечаканы рух убок, крывячы

спіну, у спадзяванні, што Вадзік паедзе з яе, як дзіцё на кардонцы са снежнай горкі, але Вадзік не едзе, Вадзік што ёсць моцы хапаецца за Ясьчыну шыю, і Яська ўся чырванее, ёй становіцца цяжка не тое што працягваць свой манеўр, але і дыхаць. Яна матляе галавой ва ўсе бакі і хрыпіць: «Адпусці», але Вадзік яшчэ некалькі бясконцых імгненняў не адпускае, і толькі калі Ясьцы здаецца, што яна зараз рухне, ён расціскае рукі, каб ласкава, што той клапатлівы гаспадар, пагладзіць Яську па галаве:

— Добры конік, добры. Я цябе навучу, як правільна сябе паводзіць.

Яська вылазіць з-пад Вадзіка, першыя слёзы напагатове заліць вочы.

— Мне не падабаецца гэта гульня! Я іду дамоў!

— Добра, — расчаравана кажа Вадзік, — не падабаецца — не будзем. Глядзі, што я табе прынёс!

І Вадзік з кішэняў дастае чарадзейны ружовы пакунак, знаёмы кожнай неабыякавай дзяўчынцы з дзевяностых. У пакунку — набор налепак для альбома «Барбі», адной з галоўных жамчужын Ясьчыных небагатых скарбаў.

Яська, умомант забыўшыся і на дурацкую гульню, і на Вадзікавы паводзіны, нясецца ў кватэру па свой альбомчык, адначасова крычучы маці на кухні:

— Мама, мама, Вадзік прынёс новыя налепкі!

І наступныя паўгадзіны яны з Вадзікам занятыя тым, што шукаюць правільны подпіс, пад які можна наклеіць налепкі з новага пакунку, накшталт «Гэта я ў Парыжы» для наклейкі Барбі ля Эйфелевай вежы. Яська ўпершыню бачыць гэтую даволі недарэчную жалезную канструкцыю і ўпершыню чуе ад Вадзіка, што яна Эйфелева і што гэта «стопудова Парыж», таму яна яшчэ пару хвілін вагаецца: вельмі важна прыклеіць менавіта на правільнае месца, бо калі прыклеіш і зразумееш, што не тое, тады ўсё загублена, на новым месцы пераклееная нанова налепка будзе тры-

мацца горш, вылазіць за краі прызначанай для яе клетачкі, а то і зусім выпадаць з часопіса. Яська ў такіх справах навучана горкім вопытам і не жадае паўтараць памылак.

Нарэшце ўсе новыя налепкі знайшлі свае месца, усе паўторныя з вялікім жалем адкладзены ў бок (але не выкінуты, бо застаецца надзея памяняцца з кімсьці з сяброўак, якія таксама фанатычна збіраюць фотаальбом Барбінага жыцця), і толькі на гэтым этапе Ясьцы прыходзіць у галаву запытаць відавочнае:

— А дзе ты ўзяў налепкі?

Яська ведае, што адзін гэты пакунак каштуе неразумныя грошы. Прынамсі, так гаварыла мама, тлумачачы, чаму Яська не можа папаўняць свой альбомчык часцей, чым раз у месяц.

— Якая розніца! — адмахваецца Вадзік.

І так, напэўна, так (наколькі можна давяраць памяці), Яська паціху прывыкае да гэтай фразы, якая працягнецца праз усё іх з Вадзікам суседскае сяброўства.

Калі б толькі вярнуцца назад, калі б апынуцца не на шэсць гадоў маладзейшай, а на шэсць гадоў старэйшай, каб схапіць Вадзіка за плечы, каб зашаптаць яму ў вуха: «Ёсць розніца, дурань ты гэтакі, ёсць розніца!», тады яшчэ можна было б усё змяніць.

А можа, і не. У маці на паліцы стаяла адна з улюбёных яе кніг пад назвай «Пачакай, затрымайся». Так і заўсёды здаецца, што варта толькі сказаць трапную фразу, застацца на лішнюю хвіліну, затрымаць чужую руку ў сваёй руцэ, і ўсё магло б скласціся інакш. Толькі, шчыра кажучы, ці магла Яська, хоць і апыніся яна на шэсць, да хоць на дванаццаць гадоў старэйшай, стрымаць тую лютасць, якая рвалася на волю з Вадзікавых вачэй?

Цвярозы розум ведаў, што не.

Ясьчына сэрца па-ранейшаму ўпэўнена, што магло.

## *Яська дарослая і без*

— Мой хлопец сядзеў у турме, — сказала Яська, хаваючы вочы, скурай адчуваючы, як павысілася тэмпература дапытлівасці ў пакоі. — Не ведаю, можа, і зараз сядзіць. Спадзяюся, што не. Але не адмаўляю магчымасці.

— Вось хто ў нас не дачакаўся! — абрадавалася Каця. — Ну, Яська, ну ціхоня! Мяса яна не есць, гарэлку не п’е, раніцамі бегае, тут альбо намячаецца нетытулаваная Міс Дасканаласць, альбо добра схаванае ашуканства!

— Супакойся, — асадзіла яе Лёля. — Няма тут ніякага ашуканства.

— А гэта пакажа следства! — гарэзна ўставіла Каця. — А за што сядзеў твой нарачоны? Можа, яны рабавалі банкі, як Боні і Клайд! Ці перапісвалі хаты бабулек на сябе? Ты паглядзі на Яську, у яе на твары напісана «Мне можна давяраць». На такую не тое што хату перапішаш, такой можна і чаргу ў Рай даверыць, каб павартавала месца, пакуль ты збегаеш такія-сякія грашкі прыкрыць.

— Не хочаш — не расказвай, — прапанавала Лёля. — Можаш адмовіцца ад гэтых прызнанняў без усялякага сораму. Мы ўсе можам, — апошняе яна сказала больш самой сабе.

— Не, я хачу расказаць, — сур’ёзна прамовіла Яська, зараджаная мінулай Лёлінай шчырасцю. — Ён сядзіць за крадзеж, гэта праўда. Ён біў людзей і адбіраў рэчы. Яго пасадзілі на сем гадоў, і ён адседзеў іх усе. З таго моманту, як яго пасадзілі, мы больш не бачыліся.

Каця з Лёляй былі першымі, каму за столькі год Яська распавяла гэтую гісторыю. Стала надзіва лягчэй. Мабыць, ёй даўно трэба было з кімсьці падзяліцца.

— Не, я цалкам упэўнена: усё гэта таму, што мы выраслі на серыяле «Брыгада», — падсумавала Каця. — Чаго ад нас чакаць? Быў бы ў наш час «Картачны домік», павер, мы бы

твайго каханага бачылі на паседжаннях Нацыянальнага сходу.

— А потым усё роўна ў турме, — нявесела дадала Яська.

— Дык што, возьмеш ты на сябе пакінутага арыштанта? Ці скінем на Кацю?

— Не, я вазьму, — цвёрда сказала Яська. — Мне гэта важна.

— Ну і добра, — пагадзілася Лёля, — што там засталося? Фанатка Скрыптаніта, якая не памятае некалькі начэй са свайго жыцця, зразумела, не з'яўляецца вялікай тайнай...

— «Смотри я в хлам, смотри в глаза, смотри — я в ноль. Танцу-у-у-й сама-а-а», — праспявала Каця, не выказваючы ніякіх прыкмет сораму.

— Што і патрабавалася даказаць, — не здзівілася Лёля. — Засталося вызначыць нашага штатнага экстрасэнса, які паспеў прыпісаць сабе перамогу. І нешта мне падказвае, што гэта не Яська. Так, Каця?

— Я такога не казала, але, пабачыўшы вас, гатова згадзіцца.

— Але ж матэматычна не выходзіць, — крыху падумала Лёля. — Глядзі, твае: пярсцёнак, Скрыптаніт, бяспамятныя ночы.

— Мае чарнічныя ночы, — паправіла Каця.

— Ну хай будзе так. Мае: бацькі, палавая асцярожнасць... можаш так не хіхікаць? Збіваеш. І псіхалагічная адукацыя.

— Дык ты псіхолаг? — здзівілася Яська. — І працуеш па прафесіі?

— Па прафесіі, калі падрыхтоўку школьных мерапрыемстваў па тыпе «А ну-ка, паненкі» можна лічыць той прафесіяй, на якую я вучылася. Застаецца Яська. Ясь, не магу сабе ўявіць, але ці не падала табе ў час інтэрв'ю ца-

гліна на галаву? Гэта б неяк растлумачыла такія самаўпэўненыя фразы.

— Не, я такога не гаварыла. Гэта дакладна.

— Можа, гэта жарт, не? Ад арганізатараў?

— Ці правакацыя. Яны ж і так працуюць на тое, каб мы пастаянна сварыліся. Мяне надоечы некалькі разоў спыталі, ці бачыла я, колькі Каця п'е, і ці не лічу я, што гэта не варта ўдзельніцы такога шоу.

— І што ты адказала? — з цікавасцю спытала Каця.

— Што ты нічога не ясі, і калі пакінеш яшчэ і піць, твой арганізм памрэ ад абязводжвання.

— Гучыць як тост, — заўважыла Каця.

— Але табе асабіста я скажу, што патрэбны табе добры доктар.

— Можа — ты?

— Не, у мяне не наркалагічны профіль.

— Дзевачкі, — папрасілася Яська. — Можа, на гэтым і скончым? Здаецца, усё зразумела. Ролі раздадзены, рэплікі падрыхтаваны.

— О, у кагосьці па раскладзе анёльскі сон з адзінаццаці да шасці. Не смеем затрымліваць. Не забудзьцеся пасля патрымаць для нас дзверы ў Рай, а то мне са скрыняй тэкілы будзе няёмка туды пралазіць.

— Добрай ночы, Яська, — развіталася Лёля. — Выкінь усё дурное з галавы.

— Парада ад сапраўднага псіхолага! — крыкнула Каця за дзвярыма.

Дзяўчаты разышліся па пакоях.

Ясьцы не спалася. Яна сабрала доўгія валасы ў касу, змяніла дзённую майку на начную з карункамі, падзякавала ўсяму добраму, што адбылося за дзень (дзякуй за добрае надвор'е, дзякуй, што хаця б першыя паўдня не мучылася дурнымі ўспамінамі, дзякуй, што чырвоная пляма на шчацэ пабляднела і не пераўтварылася ў прышч, дзякуй,

што некалькі імгненняў перад люстэркам яна сабе падабалася — пакуль не заўважыла свежы россып рабаціння на носе); даравала ўсім, каму трэба было (як заўжды, усім, але толькі не сабе), ды сон ніяк не ішоў.

Узгадаўшы, што на некаторых сайтах у якасці сродку барацьбы з бяссоннем раяць дзве сталовыя лыжкі мёду перад сном (запіць шклянкай цёплай вады), Яська пашорхала пад ложкам, знайшла пантофлі і спусцілася ўніз, да кухні.

Дом быў ціхі, цёмны, і Яська, здаецца, упершыню задумалася, а ці ёсць тут нейкая варта ці кнопка трывогі, да каго звяртацца, калі што здарыцца? Яська з'ехала, не пакінуўшы нікому ніякіх кантактаў, пазваніла проста з таксі: «Мама, я ўдзельнічаю ў адным тэлепраекце, мяне не будзе ў горадзе некалькі тыдняў», трохі выслухала пра сябе (дарэчы, нічога новага) і на гэтым скончыла падрыхтоўчыя працэдуры. Ці не занадта гэта авантура, нават для яе?

На кухні Яська першым чынам запаліла святло. Стала неяк спакайней. «Гэта ўсё ноч надае жаху», — вырашыла Яська. Дзе яны тут хаваюць мёд?

За спінай нешта грукнула.

Яська не паспела ні піскнуць, ні павярнуцца, як нечая рука заціснула ёй рот.

— Цішэй-цішэй, Ясечка, гэта я, — сказаў нехта за Яськінай спінай голасам Соні.

Праз некалькі імгненняў рука, якая стрымлівала магчымыя гукі Яськінага рота, прыбралася.

## Частка другая,
## у якой Каця слухае Скрыптаніта,
## а лепш бы слухала Яську дарослую

— «Гэты праект — падман. Уцякайце, пакуль не позна», — паўтарыла Каця ўслед за псіхолагам. — Гучыць занадта патэтычна, як на мяне.

Ніхто болей не захацеў выказацца. Аператары за камерамі, зразумеўшы, што ў працы надышоў нечаканы перапынак, як па камандзе нацягнулі кепкі на твары і перайшлі ў рэжым чакання. Адзін, здаецца, нават пачаў пасвістваць на манер чайніка з кіпячай вадой.

— Вікі Вік, ты думай, як хочаш, але гэта не я, — Каця ўслед за выключэннем камер прыглушыла і сваю прадуманую жартаўлівасць. — Гэта нават не смешна. Пужалка, як у дзіцячым садку.

— А хто тады? — псіхолаг абвёў вачыма разгубленую Лёлю і напружаную, але не спалоханую Яську. — Хто з вас такая жартаўніца, дзевачкі?

— Я гэта не пісала, — цвёрда сказала Яська, і стала зразумела, што яна не пісала дакладна. — Але хто б гэта не напісаў, ён меў на тое падставы. Чаму вы не прызнаяцеся, што здарылася з Соняй? Якая дзяўчына пакіне дом, не ўзяўшы аніводнай сваёй рэчы?

Зайчаня да таго хвалюецца за лёс зніклай дзяўчыны, што нават адважылася на доўгія рэплікі. Там, напэўна, пульс ужо за соценку. Застаецца спадзявацца, што Вікі Вік мае пры сабе патрэбныя кропелькі.

— Віктар Віктаравіч, у Соні — дачка. У Лёлі — старыя бацькі. Каці... — тут Яська замоўкла, бездапаможна падбіраючы прычыны, па якіх Каціна жыццё таксама мела значэнне. Вельмі прыемна.

— Не мучайся, даражэнькая, — з’едліва заўважыла Каця. — Бацькі ў Каці маладыя і дзяцей няма. Можаш смела ахвяраваць.

— Такім чынам, — адышла Яська ад небяспечнай тэмы, — калі тут адбываецца нешта незаконнае, мы павінны ведаць.

— Госпадзі Божа, — пацёр лоб псіхолаг. — Толькі гэтага маралізатарства на маю галаву не хапала! Збегла ваша Соня. Разумееш? Збегла. Я сам не сцяміў, што адбылося. Мы здымалі, як звычайна. У нейкі момант Соня пачала нервавацца, адпрасілася ў прыбіральню. Мы пусцілі, мы што, нелюдзі. Дваццаць хвілін чакалі, пакуль яна там пераробіць свае неадкладныя справы. Пасля спахапіліся — а Соню як вадой змыла. Тут лес навокал — нам што яе, з сабакамі шукаць?! Хто ведае, што ёй у галаву стукнула.

— Я думала, вы правяраеце псіхалагічны стан удзельніц перад здымкамі, — улезла Лёля.

Як жа абысціся без прафесійных каментароў! Няўжо пасля ўсяго, што наплёў Фрэйд, нехта яшчэ верыць, што псіхалогія — гэта навука?

— Ды праверылі мы, праверылі, нармальны ў яе быў псіхалагічны стан! Не горш, чым у сярэднестатыстычнай жанчыны яе гадоў. Ты паспрабуй знайсці ў гэтай краіне адэкватную, з ног саб’ешся.

— Ну, дапусцім, Соня паехала дахам і падкінула гэтую цыдулку, — Каця замоўкла на імгненне, каб зрабіць чарговы глыток. — Мне неяк усё роўна. Здымаць далей будзем ці не?

— Будзем-будзем, зараз толькі грымёры табе лоб прыпудраць, каб не пужаць гледачоў жаночым алкагалізмам.

— Гэта я проста расхвалявалася, даражэнькі, — пяшчотна сказала Каця. — Табе б таксама не перашкодзіла храпнуць, дужа ты бледны.

Віктар Віктаравіч пакінуў кадр. Здымкі працягнуліся.

Яська разыграла карту «Цнатлівай», Лёля караценька падзялілася сваёй сямейнай гісторыяй. Пад канец Каця зачытала ўрывак з «Прытона» («Спроси у тех, что в мини, что с ними») і гэтым, як ёй падалося, паставіла кропку ў сённяшнім вечары.

Але за кропкі, як высветлілася, адказваў псіхолаг.

— Хачу заўважыць, што ўвесь вечар за вамі сачыў Уладзіслаў. Так, не варочаемся, вы што думаеце, ён пад канапай схаваўся, ці што! Ён сядзіць сябе ў дамку і назірае за камерамі, можаце памахаць яму ручкай.

Лёля няўпэўнена падняла руку, Каця паслала паветраны пацалунак. Яська ўрэзалася пазногцямі ў сваё запясце.

— Слава, — запытаўся псіхолаг у рацыі. — Пабачыўшы гэта дзейства, ты каго-небудзь жадаеш паклікаць на спатканне? Ці так разыходзімся? Зразумею любое тваё рашэнне, асабліва негатыўнае.

— Жадаю, безумоўна, — сказала рацыя нізкім, гарэзлівым голасам. — Добры вечар, дзевачкі. Спадзяюся, вас не моцна засмуцілі некаторыя недарэчнасці здымачнага працэсу. Мне было вельмі прыемна вас паслухаць і пабачыць.

— Так, мы б таксама не адмовіліся цябе пабачыць, — заўважыла Каця. — А то гэтыя гульні ў «Тры дзявухі пад акном» нешта надакучылі.

— І ў цябе будзе такая магчымасць, Каця, — не разгубіліся ў рацыі. — Калі ты не супраць. Заўтра. Буду чакаць з нецярплівасцю.

— Я надзену найлепшую бялізну, — паабяцала Каця. І такі пакінула за сабой апошняе слова.

Ноч Каця правяла без сноў.

Раніцай паглядзела ў люстэрка не без задавальнення. Алкаголь заўсёды меў тэрапеўтычны эфект над яе тварам. Накшталт альгінатнай маскі. Скура крыху больш бледная, чым звычайна. Але і цёмныя вочы на гэтым фоне гараць

ярчэй. Хіба што падфарбаваць вусны. Ніякага вырві-вока чырвонага, ратуй Божа, гэта пакінем цнатлівым і тым, што на трасе. Тым, каму губляць няма чаго і хто хаваў сваё багацце так доўга, што яно дэвальвавалася. Каці падыдзе далікатны, персікавы тон. Здаецца, такія вусны хочацца пацалаваць больш.

Снедаць Каця не стала: ежа атупляе, хіліць да сну, а ёй хацелася быць эмацыйна нацягнутай, як струна, вострай, тоненькай. «Як твае вейкі», — падумала Каця і ўсміхнулася сама сабе.

Слава чакаў яе на ўзлеску.

Ніхто не крычаў «Камера — матор», ніхто не гаварыў «Падрыхтаваліся!», але Каця зразумела, што здымкі пачаліся. Расправіла плечы, ішла павольна, каб паспелі паказаць буйным планам акуратныя каленкі, вытачаныя галёнкі, на адной з якіх пабліскваў залаты ланцужок на манер індуісцкіх упрыгожанняў. «Глядзі, якая я», — гаварылі яе вочы.

Калі паміж імі засталося не больш за паўметра, Слава працягнуў ёй руку, ні то спыняючы, ні то прывітальна.

— Уладзіслаў, — адрэкамендаваўся ён без усялякай на тое патрэбы.

Каця памаўчала хвілінку, вывучаючы яго. Доўгі, худы, але рукі моцныя. Непаслухмяны чуб намагаецца схаваць паўтвара, так што прыходзіцца час ад часу вяртаць яго на месца характэрным незадаволеным рухам. Скулы, як у дзяўчыны, што абкалолася гіалуронкай. Рот шырокі, тоўсты, прагны. Вочы дзікія.

— Вельмі прыемна, Слава, — адказала Каця. — Дарэчы, думала, што хоць тут будуць цалаваць рукі.

— Прабач, — сур'ёзна сказаў Слава, нахіліўся, без усялякага пазёрства ці блазнавання, узяў Кацін руку і доўга трымаў яе, прыціснутую да вуснаў, і ў апошняе імгненне,

перш чым адпусціць, моцна прыкусіў костачкі пальцаў, вострымі, як у вавёркі, зубамі.

Каця не піскнула, але штурханулася добра. Дзіўны тып.

— Тут ёсць невялікае возера ў лесе, — як ні ў чым не бывала, працягнуў Слава. — Я падумаў, было б рамантычна. Ты любіш плаваць?

— У мяне КМС па плаванні, — адказала Каця.

— Сур'ёзна? Дык ты спартсменка?

— Спартсменка. Калі не п'ю.

— Гэта даволі сур'ёзная заяўка для першага спаткання.

— Далей — больш, — паабяцала Каця.

Яны ішлі па лесе, камеры рухаліся за імі. Слава трымаў Кацю за руку, і яго рука была цёплай. Добры знак. Гэты не будзе выціраць далонь аб штаны, перш чым працягнуць яе для поціску. Каця заўважыла раней, што ўпэўненым у сабе людзям чамусьці заўсёды цёпла, нават калі іншыя просяць зачыніць акно. Грэюцца сваёй верай.

— Чаму ты выбраў менавіта мяне?

— Спадабалася, як ты спявала. Ты там самая дзёрзкая, так?

— А ты самы ідэальны, раз трапіў на гэта шоу?

— Не, — пахітаў галавой Слава. — Я тут самы дрэнны. Але ж я бачу, табе падабаюцца дрэнныя хлопцы.

Каця паціснула плячыма.

— Толькі ў кіно.

— А мы дзе? — павярнуўся па баках Слава. — Гэта і ёсць кіно. І ў кіно табе патрэбна іншае імя. Каця — занадта проста.

— Можа, Кіці? — уключылася Каця ў гульню. — Як у Талстога. Будзеш маім Левіным.

Ні хмаркі пазнавання не праслізнула па твары Славы. «Добры галоўны рэдактар, — падумала Каця, — нічога не скажаш». У той жа час, каб на кожную трэцюю старонку ляпіць рэкламу фірмовай машыны, літаратурнай адукацыі і не трэба.

— Не, мне больш падабаецца Кэт.

— Кіці-Кэт.

Ну, хоць на гэта засмяяўся.

— Мы прыйшлі, Кэт, — заўважыў Слава, ступіўшы на невялічкую паляну, схаваную ў дрэвах. — Распранайся.

З такімі жартачкамі жаночая аўдыторыя на яго не клюне. Ці клюне? Ён часткова меў рацыю ў сваіх разважаннях пра дрэнных хлопцаў. Можа, дрэнныя нам і падабаюцца не вельмі, але добрыя ўвогуле нікому не патрэбныя.

— Я спадзяюся, ты прыхапіў для мяне купальнік.

— А як жа. У нас тут здымаецца перадача для самых маленькіх.

Каця пераапранулася. Купальнік быў цэльны, але моцна адкрыты наперадзе, у такім не купацца ў лясным возеры, а валяцца на прыватным пляжы прыватнага вострава, пацягваючы кактэйльчык коштам у тыднёвы беларускі заробак.

— Нядрэнна, — ацаніў Слава.

— Здаецца, ты забыўся на слова «шыкоўна»?

Каця ўвайшла ў ваду, Слава паплыў за ёй.

— Пахвальная ўпэўненасць у сабе, — заўважыў ён.

— Хіба ты не такі?

— Ці не зашмат псіхолагаў у нас на адно тэлешоу? Але твая праўда. Я такі. Умееш плаваць без ног?

Ён схапіў яе за ступні, і Каці прыйшлося прыкласці ўсе намаганні, каб вырвацца. Вырваўшыся, яна моцна залупіла яму ступнёй па носе і паплыла на іншы бераг.

Слава не даганяў. Калі Каця павярнула назад, яна заўважыла, што ён паспеў выбрацца на сушу і нешта там корпаецца ў траве. Зацікаўленая, яна выйшла з вады.

— Калі ў мяне заўтра распухне нос, іншыя дзяўчаты падумаюць, што я да цябе чапляўся, а ты бараніла свой гонар.

— У дрэнных хлопцаў заўсёды нешта не так з носам. Гэта нам?

На траве была паслана кароценькая покрыўка, застаўленая талеркамі з садавінай. Збоку сціпла стаілася бутэлька віна.

Слава сеў на краёчак, паляпаў далонню па дзесяці сантыметрах побач з сабой.

— Сядай, Кэт.

— А большай покрыўкі ў вас не знайшлося?

— Не хвалюйся, дарагая, я сёння добра паснедаў.

Каця прысела побач, даткнуўшыся мокрым сцягном да яго валасатага сцягна. «Занадта валасаты, — падумала яна. — Амаль як жывёліна. Мабыць, грузінскія карані».

Слава разліў віно (чырвонае, як трэба, падыходзіць да страў з мяса і незгаворлівых дзяўчын на першых спатканнях), працягнуў ёй келіх.

— За дзёрзкіх дзяўчын, — прапанаваў ён.

— І дрэнных хлопцаў.

Яны выпілі. Слава пацягнуўся па вінаградзінку, зрабіў рух каля Кацінага твару. Каця не разнімала вуснаў.

— Я хачу цябе пакарміць, — папрасіў Слава.

— Заядаць віно садавіной шкодна для здароўя, — заўважыла Каця. — Я сур'ёзна. Садавіна пачынае брадзіць, і праз гэта потым баліць галава.

— А вось гэта фраза зусім не кінематаграфічная.

Памаўчалі, думаючы кожны пра сваё.

— Як там іншыя дзяўчаты ў доме? — запытаўся Слава. — Раскажы пра іх.

— Ты мяне паклікаў пра дзевачак пагаварыць?

— Проста цікава.

— Ну слухай. Лёля — з тых, хто ўсё жыццё стараецца быць добрай і разважлівай. А гэта дрэнна ўплывае на колер твару. А Яська, Яська табе спадабаецца. Такая славянская прыгажуня. Доўгія светлыя валасы, акруглыя грудзі, вочы зацюканага кацяняці. Здаецца, са стакгольмскім сіндромам.

— Гэта што? — не зразумеў Слава.
— А ты дакладна галоўны рэдактар? — нарэшце спытала Каця.
— Я думаў, ты спытаеш, ці дакладна я прадзюсар, — пажартаваў Слава.
— А пра Соню я хацела б ад цябе пачуць.
На гэтым спатканне спынілі, Кацю са Славам расцягнулі ў розныя бакі на інтэрв'ю.
«Як табе Уладзіслаў? Адказвай поўнымі сказамі!» «Што ты адчувала, калі ён пацалаваў тваю руку?» «Што здарылася ў вадзе?»
Каця адказвала: жартуючы, дзе трэба, звужаючы вочы, дзе трэба. Дзяўчына, якая падабаецца ўсім хлопцам. Дзяўчына, якую не любіць ні адна жанчына.
Пасля інтэрв'ю Слава падышоў да яе.
— На сёння здымкі завершаны, Кэт. Але калі хочаш, мы маглі б яшчэ правесці час у мяне ў катэджы.
— Гэта тое, што я думаю? — спытала Каця.
— Толькі калі ты думаеш пра дзве бутэлькі чырвонага сухога. Мне таксама патрэбны перапынак ад роляў.
Каця згадзілася. Акрамя іншага, цікава было паглядзець на яго жыллё.
Катэдж быў падобны да таго, дзе жылі дзяўчаты, што знадворку, што ўнутры. Два паверхі, злучаныя лесвіцай. Першы пакой — спальня Славы, па-спартанску чыстая і прыбраная. Мабыць, рыхтаваўся.
У другім абсталявана лабараторыя. Трэці — зачынены на замок.
— Гэта адсюль ты сочыш за намі? — спыталася Каця, зацікаўленая лабараторыяй.
— Я не проста сачу, я рэжысірую. Жарт. Пайшлі ўніз.
Яны спусціліся, Слава адкаркаваў бутэльку віна, паставіў два келіхі на падлогу і сам размясціўся на дыване.
— Спадзяюся, гэта пакрыўка падабаецца табе больш.

Каця ўзяла свой келіх, села на дыван, прытуліўшыся спінай да канапы. Слава моўчкі разглядаў, як яна п’е.

— Вось як, значыць, выглядаюць прыхільніцы Скрыптаніта.

— А ты думаў — як?

— Я думаў, у іх няма пашпарта і будучага.

— Глупства. Ты чуў яго тэксты? Яны мудрэйшыя за цябе і мяне.

— Гэта якія, напрыклад? «Твоя сука такая тупая, что хочется выстрелить? Твоя сука так низко летает, что моя сука — истребитель?»

— Мне прыемна, што ты азнаёміўся з вытокамі. Так, і гэты тэкст мудры.

Каця скончыла з першым келіхам і наліла сабе наступны. Па целе прайшла добра пазнавальная хваля гарачыні.

— Ведаеш, на адным з канцэртаў я стаяла так блізка, што магла б сцягнуць з яго штаны, калі б пажадала. Стаяла, дарэчы, пятую гадзіну, на такія канцэрты трэба прыязджаць значна раней, калі хочаш апынуцца каля сцэны. Было накурана, цесна, на спіну ціснулі, але ён спяваў пра «истребитель» і глядзеў мне проста ў вочы. Можаш не верыць. Я ведаю, што дзяўчаты часта выдумляюць сабе такія рэчы. Ім нават плакаты іх куміраў рэгулярна падміргваюць. Але я табе кажу, мы глядзелі вочы ў вочы цэлую песню, і я ўсё пра яго зразумела.

— Тады што ты робіш тут, прасветленая? Навошта табе гэта барацьба за маё сэрца? Я не паэт.

— Мяне Жорык накіраваў, калі хочаш ведаць. Сказаў, гэта мой шанец.

— Які яшчэ Жорык? — здзівіўся Слава. — Я толькі з адным тваім мужыком утаймаваўся, а тут другі вылез. Так з табой будаваць адносіны? У перапынках паміж іншымі?

— Жорык — мой сябра. І адносіны ў нас сяброўскія.

Ну, і амаль што не схлусіла.

Жорык. Надзейны, верны, адзіны сапраўдны сябар на ўсё жыццё. Яны жылі на адной лесвічнай пляцоўцы, але доўгі час Каця амаль не заўважала яго, як не заўважала многіх, хто глядзеў на яе знізу ўверх у сляпым спадзяванні злавіць яе мітуслівы позірк.

Па-сапраўднаму яны пазнаёміліся толькі ў школе на перапынку.

— Файныя красоўкі, — сказаў ён, прысеўшы на падаконнік, дзе Каця праседзела апошнія дзве гадзіны, пустымі вачыма гледзячы на школьны двор. Як тут было не пасябраваць з чалавекам з добрым густам.

Жорык заўсёды быў блізка, заўсёды падтрымліваў, нават калі Каця памылялася. Рэдкі тып. Людзі чамусьці думаюць, што функцыя сяброўства зводзіцца да таго, каб у час заўважыць, што ты кацішся на дно, і зрабіць табе заўвагу. А як пагладзіць па галоўцы, дык ручкі занятыя. Дык вось у Жорыка рукі заўсёды былі свабодныя.

У адказ Каця даравала Жорыку яго маленькія слабасці. Напрыклад, манію пераследу.

— Не супраць, калі я адключу тэлефон? — пытаўся Жорык пры сустрэчы. — Каб не падслухалі лішняе. Зноў сёння нешта барахліла падчас размовы — спрабавалі падключыцца, казлы. Ты прыкінь, яны могуць праслухоўваць, нават калі ты не размаўляеш па тэлефоне.

Каця не пярэчыла. Жорык выключаў тэлефон, і яны дзве гадзіны абмяркоўвалі ўплыў песень «Многоточие» на іх дзяцінства. І ні адна зацікаўленая казліна не чула падрабязнасцей гэтай размовы.

Адна з сустрэч была асаблівай.

Каця толькі ўладкавалася на першую працу, кансультантам у аддзел бытавой хіміі ЦУМа: чатыры гадзіны штодзённа, акрамя нядзелі — неабходная ахвяра для студэнткі, бацькі якой не падтрымліваюць цягу дачкі да канцэртаў расійскіх наркаманаў. Памятаючы высокую мэту,

Каця мужна цярпела тупых, прыкрых цётак у вясёлкавых пухавіках з іх бясконцымі пытаннямі:

«Дзевушка, а чым адрозніваецца зялёны ёршык за 3 рублі ад блакітнага за 5?»

«Спытайце ў Рамана Карцава».

«А чаму няма абадкоў на ўнітаз? Каторы раз заходжу, а абадкоў няма. Як мне абыходзіцца без абадкоў? Не, крэмавы мне не патрэбны. На крэмавым сядзіце самі. Мне патрэбны белы. Чысцюткі белы, як у туалеце Прэзідэнта, разумееце?»

«Не магу дапусціць думкі, што такім людзям, як Прэзідэнт, патрэбна хадзіць у туалет».

Увечар пасля аднаго з такіх дзён Каця дамовілася пагуляць з Жорыкам у парку. Па дарозе купіла літровы пакет «Старай келлі», з якога пачала піць яшчэ ў метро.

— Хочаш соку? — спытала яна ў Жорыка пры сустрэчы.

— Ды, напэўна, не.

— А ты захаці, — загадала Каця і працягнула яму пакет. У восеньскай цемры Жорык адпіў не гледзячы. Здушыўся. — Такі ў цябе сок, значыць. Спадзяюся, ты не частавала ім дзяцей, якія праходзілі побач.

— Не, іх і без мяне споіць беларуская рэчаіснасць.

Яны гулялі па парку Перамогі, адтуль незаўважна апынуліся пад мостам на Нямізе (чортавым мостам — як з таго часу назвала яго Каця). Пад гэтым мостам яны спыніліся, пра нешта жартуючы, і тут «Старая келля» ў Каці саспела, каб сказаць:

— Я хачу цябе пацалаваць.

Не, шчыра кажучы, Каця думала пра гэта не раз: як гэта — цалавацца з Жорыкам. Ён прывабны, гэта праўда, і, напэўна, ёсць нейкія дзяўчаты, прысутнасць якіх у сваім жыцці ён сціпла замоўчвае. Не, шчыра кажучы, віно толькі падкрэсліла звычайную Кацін у дапытлівасць.

Жорык нахіліўся, паслухмяна паткнуўся вуснамі ў яе вусны, і з першага імгнення гэтага пацалунку Каця зразумела, што значыць, калі кажуць: «Цалавацца, як з братам».

Прытрымліваючыся пацалункавай ветлівасці, Каця прачакала хвіліну. Пасля адхілілася і, стараючыся не сустракацца позіркам, каб незнарок не выдаць ступень свайго расчаравання, прапанавала:

— Пойдзем далей?

І яны пайшлі.

Раніцай Каця расплюшчыла вочы з поўным адчуваннем чалавека, які ўчора, напіўшыся, танцаваў на стале і званіў дырэктару з прывітальнай фразай: «Слухай сюды, паскуда!» Лепш бы яна званіла дырэктару.

Пасля заняткаў Жорык патэлефанаваў ёй і балбатаў як ні ў чым не бывала («Як ты, малая? Бачыла “Versus Battle”? Гэты насаты хлопец у хіпстарскай кашулі далёка пойдзе, ёсць у мяне такое прадчуванне. Блін, ты чуеш гэтыя пстрычкі? Эй, вы, працаўнікі нябачнага фронту, калі вы мяне чуеце, ведайце, што вы парушаеце маё канстытуцыйнае права на прыватнасць перагавораў! Малая, я лепш вечарам да цябе зайду»).

І Каця са страхам чакала вечара, але і вечарам усё было, як звычайна.

«Значыць, ён адчуў тое самае, — падумала Каця. — І таксама прамаўчаў, каб не раніць мой жаночы гонар. Ну, яшчэ тыдзень для вернасці, і можам пачынаць з гэтага жартаваць».

А праз тыдзень Жорык даслаў ёй фота таго месца, дзе яны пацалаваліся, з подпісам «Чарадзейны мост».

«Так, сняжынкі прыгожыя», — адказала Каця, якая ў той момант вырашыла, што болей ніколі, ніколі не будзе піць. І цалаваць лепшых сяброў.

На наступныя некалькі тydняў Жорык знік. Ён не тэлефанаваў, але не тэлефанавала і Каця. Калі верыць урокам

псіхалогіі, ім трэба было б усё абмеркаваць і закрыць гештальт. На думку дваццацігадовых, лепш было праваліцца скрозь зямлю і ляцець да самага яе цэнтра.

Каця сумавала страшэнна. Няма з кім падзяліцца, няма з кім пажартаваць, няма каму расказаць пра цётак у рознакаляровых пухавіках.

Таму калі аднойчы вечарам яна ўбачыла родную макаўку на ўваходзе ў аддзел ЦУМа, яна паляцела да яе як на крылах. Чорт з імі, з братэрскімі пачуццямі, можа, ён проста не ўмее цалавацца. Каця яго навучыць, Каця — дыпламаваны спецыяліст у гэтай галіне.

— Здароў, малая, — сказаў Жорык. А вочы дадалі: «Я ўсё зразумеў. Мы не будзем да гэтага вяртацца». — Ты чула пра Скрыптаніта?..

— Значыць, сябра, — паўтарыў Слава, каб выцягнуць Кацю з успамінаў, у якія яна, відавочна, паглыбілася. — Жорык-сябра. Вясёлая ты дзяўчына, Кіці-Кэт.

— Так, гэта яго план. Першы крок да майго шчаслівага саюзу са Скрыптанітам. Спачатку я здымаюся ў гэтым шоу, дзе сэрцы няўдачніц шукаюць мужнае мужчынскае плячо, а знаходзяць плюс сто тысяч новых падпісчыкаў і рэкламны заробак у «Інстаграм». Пасля, абяззброеныя маёй прыгажосцю і дасціпнасцю, мяне запрашаюць весці ранішняе шоу на кабельным расійскім канале. Ну, і адтуль адзін плявок да Скрыптаніта ў якасці запрошанага госця.

— Трохходовачка, значыць. А раптам ты яму не спадабаешся? — зацікавіўся Слава, быццам забыўшы, што павінен адчуваць сябе ашуканым у гэтай пралічанай схеме.

— Спадабаюся. Памятаеш, што я казала пра «Истребитель»? Нам патрэбны адзін штуршок.

— Я думаў, ён наркаман.

— За апошнія тры гады ў яго выйшлі два альбомы, і абодва — цалкам асаблівыя і не падобныя ні да чаго.

«Ни одного аналога, а только копии». Калі гэта дзякуючы наркотыкам, то, можа, час іх выпісваць замест вітамінаў.

— Што ж, — заўважыў Слава. — Самае месца сказаць, што маё сэрца разбітае. Адна збегла, другая прыйшла з карыслівымі мэтамі. Хто там казаў пра «па статыстыцы на дзесяць дзяўчатак...»?

— Думаю, на ўвазе меліся толькі страшненькія.

Слава адкаркаваў другую бутэльку віна.

— До-о-бры вечар, — сказала Каця.

— Што? — не зразумеў Слава.

— Быў у мяне адзін знаёмы, які кожнае адкаркаванне новай бутэлькі суправаджаў гэткай фразай. Бывала, мы з ім дахадзілі да пяці добрых вечароў. Ну, зразумела, не ўдваіх. У добрай кампаніі.

— Каця, яшчэ аднаго твайго мужыка я сёння не вытрымаю. Пакінем на заўтра, добра? Трымай келіх.

Каця пайшла па келіх, на імгненне запнулася, быццам нешта вырашаючы.

— Цікаўнасць калі-небудзь мяне загубіць, — сказала яна сабе і пацалавала Славу ў вусны.

## Частка трэцяя, у якой Яська дарослая шукае Соню ноччу і днём, а Яська маленькая няправільна выкарыстоўвае нажніцы

Яська спазнялася.

Пачуццё было дзіўным, нязвыклым. Незразумела, як такое магло здарыцца: яна заўсёды разлічвала час, заўсёды прыходзіла раней, нават калі ведала, што давядзецца чакаць, што спяшацца няма куды. І тут, на такую важную сустрэчу, дзе, можа, стаіць пытанне жыцця і смерці, Яська спазнялася. Колькі хвілін засталося, адна, дзве? Яська перайшла на бег, углядаючыся падслепаватымі вачыма (мінус 2.75 на кожнае вока ўдзень, мінус бясконцасць у начной цемры), ці не стаіць удалечыні Соня, ці не пераступае нецярпліва з нагі на нагу, ці не прыглядаецца, як і сама Яська, шукаючы знаёмы твар.

На дарозе насамрэч нехта стаяў. Яська бачыла толькі спіну, роўную, выцягнутую струной, нерухомую. Ясьцы хацелася закрычаць: «Соня, я тут, Соня, я блізка!» Але крычаць было нельга, могуць пачуць, перашкодзіць. Ад занадта хуткага бегу дыханне збілася, сэрца шумна, незадаволена пульсавала, у жываце паколвала. Дарога ніяк не заканчвалася, адлегласць паміж Яськай і Соняй, здавалася, застыла ў пастаяннай велічыні і не хацела памяншацца.

«Я зараз», — Ясьчын мозг, у такт сэрцу, пульсаваў адзінай думкай. — «Я зараз. Я зараз. Я паспею».

Заныла левая нага, бегчы стала цяжэй. Яська патрэсла нагой, давай, адыходзь, не да цябе зараз, знайшла час балець! Але боль не праходзіў, і Яська, пакорліва прыняўшы, што бегчы далей няма ніякай магчымасці, заскакала, як магла, хутка на адной назе.

«Соня, — позіркам прасіла Яська. — Соня, павярніся».

Пад ступню трапіў неспадзяваны каменьчык, і Яська рухнула тварам у дарожны пыл, адчуваючы, як знямелая нага вяртаецца, як па ёй бягуць выратавальныя дрыжыкі.

Яська расплюшчыла вочы, спалохана зірнула на гадзіннік. 1.10. Да прызначанай сустрэчы дваццаць хвілін.

Ледзь не праспала.

Яна хуценька паднялася, паправіла вопратку, коратка, кіруючыся старой звычкай, зірнула ў люстэрка, правяраючы, ці не тырчаць валасы, ці не размазалася туш. Зразумела, для Соні выгляд Ясьчыных валасоў ці твару значыў няшмат, але для Яські па-ранейшаму важна было выглядаць ахайна. Ахайнасць азначала кантроль, упэўненасць. Я кірую сітуацыяй, мы гуляем па маіх правілах.

«Ну, з Богам!» — падумала яна і тузанула за ручку. Дзверы засталіся зачыненымі. Яська патузала яшчэ некалькі разоў, імкнучыся захаваць цішыню, але ручка не паддавалася. Заклінавала яе, ці што. Заўсёды працавала добра: новыя дзверы, новыя ручкі. Што магло здарыцца?

Галоўнае не панікаваць. Пятнаццаць хвілін. Яна паспее.

Яська націснула плячом на дзверы, яшчэ больш напорыста накінулася на ручку. Зусім не так нягучна, як на пачатку, ахвяруючы цішынёй, толькі б выбрацца. Безвынікова. Дзверы стаялі намёртва.

Не раздумваючы доўга, Яська падбегла да акна. Зразумела, другі паверх, але блізка пажарныя сходы, можна паспрабаваць спусціцца па іх. Не так і высока, не так і страшна. Усё атрымаецца.

Яська адцягнула шторы і ў першае імгненне нават не ўцяміла, чаму за акном не відаць ні плота, ні лесу, ні месяца. Толькі акуратны цагляны мур проста за аконнай рамай.

Замураваная ў сваім пакоі.

Яська прысела на ложак. Дзіцячыя страхі, здавалася, даўно схаваныя, забытыя, закруціліся вакол яе зачарава-

ным карагодам. «Ты не выйдзеш, не выйдзеш, не выйдзеш, — пелі яны ёй проста ў вушы. — Ты застанешся тут». Яська спрабавала спрачацца, устаць з ложка, вярнуцца да дзвярэй, але страх скоўваў, не даваў рухацца. Ложак здаваўся адзіным плытом пасярод штармавога мора, і Яська забралася з нагамі на посцілку, абхапіла калені выратавальным кругам рук і схавала ў іх твар.

### *Яська маленькая*

Вадзік заўсёды смяяўся з таго, якая Яська баязліўка. Напужаць яе было лягчэй лёгкага: варта было толькі кінуць пластмасавага павука ў валасы ці начапіць карнавальную маску тыгра і падскочыць да Яські са звярыным рыкам — яна адразу пачынала трэсці галавой, вішчаць, затуляць твар рукамі, прасіцца: «Вадзік, ну, хопіць, ну, спыніся». Вадзік, удосталь нагледзеўшыся на Ясьчыну паніку, спыняўся, але пасля вёў з ёй доўгія выхаваўчыя гутаркі.

— Вось дурная, чаго ты баішся? Гэта проста маска. На, ты апрані. Паспрабуй мяне напужаць.

Яська паслухмяна апранала, адчуваючы сябе чамусьці не страшным, дзікім зверам, а недарэчнай дзяўчынкай, якая начапіла мамін станік, а ваты падкласці забылася. Маска непрыемна пахла пластмасай, нітачка, дзякуючы якой яна трымалася на твары, націрала за вушамі, і галоўнае, Яська ў масцы заставалася той самай нікчэмнай Яськай, здольнай толькі напужацца, а не напужаць.

«Р-р-р-р-р», — няўпэўнена рыкала яна і скрукаванымі пальцамі лезла да Вадзікавага твару. Вадзіку дастаткова было ляснуць зубамі, каб яна спалохана адсунула руку, заныла з-пад маскі:

— Так нячэсна! Ты павінен баяцца.

— А ты навучыся спачатку пужаць, як трэба.

Яська старалася, але, як і з іншай вучобай, выходзіла дрэнна. Ды і, шчыра кажучы, яна не бачыла нічога цікавага ў тым, каб навучыцца прафесійна пужаць людзей. Асабліва Вадзіка. Вадзік — сябар, найлепшы сябар, і яна ставілася да яго са ўсёй сваёй шчанячай адданасцю.

Калі Яська перарасла свой страх дзіцячых цацак, Вадзік забыўся на павукоў і прыдумаў цікавейшую гульню.

Спачатку яны размаўлялі. Яська — седзячы вярхом на старой і па гэтай прычыне адкамандзіраванай у калідор

тумбе, Вадзік — проста на падлозе, каля Ясьчыных ног. Гэтыя размовы ніколі не датычыліся школы, бацькоў, іншых маркотных побытавых пытанняў.

— Я хацеў бы ўмець кантраляваць думкі людзей, — казаў Вадзік.

— Гэта як? — здзіўлялася Яська.

— Напрыклад, гіпноз. Чула пра такое? Я, дарэчы, купіў кніжку, — і яны ішлі да яго ў кватэру, дзе Вадзік паказваў тоненькую кніжачку.

— Вось я яе прачытаю і змагу прымусіць цябе рабіць усё, што пажадаю, — хваліўся ён.

Яська ставілася да кніжачкі з недаверам.

— Калі б такая кароценькая інструкцыя магла навучыць гіпнозу, усе б хадзілі гіпнатызёрамі.

— Згодны, — ківаў Вадзік. — Тут патрэбен яшчэ талент. І я адчуваю, што ён у мяне ёсць.

Часу ад часу яны правяралі практычную каштоўнасць кнігі і памер Вадзікавага таленту на Яськы.

Яна сядала ў крэсла, Вадзік займаў пазіцыю насупраць, трымаючы сашчэпленыя замком рукі каля грудзей, пільна гледзячы ў Ясьчыны вочы.

— Я твой гаспадар, — павольна і сур'ёзна казаў ён.

Яськы хацелася рассмяяцца, але было няёмка, таму яна сядзела моўчкі, высілкам волі стрымліваючы куткі вуснаў.

— Паўтары, — загадваў ён.

— Ты мой гаспадар, — паўтарала Яська наўмысна нудным голасам, усім сваім выглядам сцвярджаючы адваротнае.

Вадзік не здаваўся.

— Вазьмі са стала нажніцы, — загадваў ён.

Зацікаўленая, што ён прыдумаў, Яська брала са стала нажніцы.

— Выражы ў сваім касцюме дзірачку.

Яська адразу раззлавана адкідвала нажніцы:

— Ты дурны, ці што! Мяне бацькі заб'юць. Я не буду рэзаць мой любімы касцюм!

— Ты павінна слухацца, — настойваў Вадзік. — Ты сама прызнала, што я твой гаспадар.

— Я прызнала не напраўду! Гэта ж гульня, — яна зрабіла спецыяльны націск на слове «гульня», каб падкрэсліць усю недарэчнасць Вадзікавых патрабаванняў. — Ты павінен загадваць нешта нармальнае! Падысці да акна, узяць у рукі мішку. Такія правілы.

— Гэта мая гульня, Яська, адкуль ты можаш ведаць правілы! — злаваўся і Вадзік.

— Тады сам і гуляй у сваю гульню! — пакрыўджаная, Яська падымалася з крэсла і накіроўвалася да выхаду.

Вадзік куляй вылятаў за ёй, паспяваў на адно імгненне апярэдзіць і павярнуць ключ у замку з супрацьлеглага боку. Яська кідалася да дзвярэй, крычала, лаялася, але безвынікова: Вадзік і не збіраўся выпускаць яе са сваёй кватэры.

Праз некалькі хвілін у пакоі званіў тэлефон.

— Ало, — падымала трубку Яська.

— А я зараз у тваёй кватэры, — павольным голасам злачынца гаварыў Вадзік. — Як ты думаеш, з чаго мне пачаць у першую чаргу?

— Вадзік, — адказвала напужаная Яська. — Не трэба. Выпусці мяне.

— Спачатку я парэжу твае школьныя сшыткі… Ці, можа, не рэзаць? Рэзаць — бесчалавечна. Я проста дапішу туды ад сябе пару слоў. Пад апошнім хатнім заданнем. Каб тваёй маці было весялей правяраць практыкаванні.

— Памятаеш, я ўчора дапамагла табе сабраць падручнікі ў школу, — ціснула на жаль Яська. — Ты мог спазніцца, калі б не я.

— Памятаю, Ясечка. Учора ты была добрай дзяўчынкай. Але сёння аслухалася. Мы проста абавязаны прыду-

маць табе пакаранне. Так і будуецца паслухмянасць, а як ты думала?

— Ведаеш, тое, што ты робіш, зусім не гіпноз! — злавалася Яська. — Я ўпэўнена, што ў тваёй кніжцы пра такія метады нічога не гаварылася!

— Тады, можа, ты мела рацыю, і я набыў не такую ўжо добрую кніжку. Трэба будзе прыдумаць лепшую... О, глядзі, хтосьці на стале пакінуў грошы. Напэўна, мне? Як клапатліва з іх боку.

— Гэта мае грошы, гэта маці мне пакінула! — крычала Яська. — Вадзік, супакойся! Мне зусім не смешна! Пусці мяне дамоў!

Такія размовы маглі весціся па гадзіне, пасля чаго Вадзік ў рэшце рэшт адпіраў дзверы, лавіў з парога сваімі здаровымі далонямі вострыя Ясьчыны кулачкі, накіраваныя на Вадзікаў твар, глядзеў на яе па-добраму, смеючыся:

— Ну, цішэй-цішэй, бач, тыгрыца! І маска не спатрэбілася.

І Яська расслаблялася, выдыхала: побач з ёй быў зноў той Вадзік, якога яна ведала, разумела. Гульня скончылася, яны вярнуліся на свае пазіцыі, Вадзік — зноў найлепшы сябра, моцны, дарослы абаронца.

Праз некалькі дзён пасля чарговага раўнда дурной гульні Яська сядзела дома, на кухні, старанна выводзячы літаркі ў хатнім практыкаванні. За акном грымнула, Яська скаланулася ад нечаканасці і запэцкала чарніламі жоўты світар. Той самы, які складаў разам з шортамі любімы жоўты касцюмчык. Усхваляваўшыся, Яська пабегла ў прыбіральню, дастала татаў адэкалон, пачала хуценька церці запэцканае месца. Чарнілы размазваліся, але не сыходзілі. Засмучаная, раззлаваная сваёй памылкай, Яська, трымаючыся бессэнсоўнага ўнутранага загаду, дастала з кухоннай паліцы нажніцы, паднесла да світара і выразала запэцканы кавалачак тканіны. Потым, ачуняўшы, падышла

да люстэрка. З дзірачкі высоўвалася бледная дзіцячая ключыца. Світар выглядаў канчаткова, беспаваротна загубленым.

Слёзы падкаціліся да вачэй, Яська выбегла з кватэры, забарабаніла ў суседскія дзверы:

— Вадзік, Вадзік, я сапсавала касцюм, я не хацела, што мне цяпер рабіць?!

Вадзік адчыніў, спачатку не разумеючы, усхвалявана пераводзіў позірк з Ясьчыных мокрых вачэй на маленькую дзірачку над грудзямі і, толькі ўцяміўшы, што здарылася, расплыўся ў найшчаслівейшай усмешцы, моцна прыцягнуў Яську да сябе:

— Яська, маленькая мая, — шаптаў ён расчулым, крыху дрыжачым голасам. — Павер мне, павер, так — лепш.

Яська падняла галаву з каленяў, зірнула на гадзіннік. 2.00. Падхапіўшыся, падбегла да дзвярэй, страсянула ручку з усіх сіл. Дзверы лёгка адчыніліся. Насцярожаным позіркам яна абвяла калідор, шукаючы нешта ці некага, хто мог быць адказны за зачыненыя раней дзверы. Калідор быў пусты, цьмяны, але ўтульна гарэла лямпачка, асвятляючы мяккі, ворсісты дыван на падлозе.

Няўжо такі праўдападобны сон? За імгненне яна падскочыла да акна, адцягнула шторы. Цагляны мур знік. Плот, лес, месяц — усё, як трэба, усё на сваіх месцах. Каля плота стаіць цёмная постаць. Соня! Значыць, яшчэ чакае!

Яська зашмаргнула шторы, амаль што ў два прыскокі апынулася на першым паверсе, вылецела з катэджа, абабегла дом.

Цёмная постаць знікла. За плотам Яська пачула спалоханы крык.

Страціўшы раўнавагу, Яська пабегла па дарозе на край пасёлка, спатыкнулася, павалілася, як у нядаўнім сне,

але тут жа паднялася. Праз некалькі хвілін яна ўперлася ў зачыненую на замок браму.

Яська ніколі дагэтуль не выходзіла з катэджа ў такі час і не ведала, што нанач браму зачыняюць. Цяпер, каб трапіць у лес, трэба было альбо пералезці цераз плот, вышэйшы за Ясьчыну галаву, альбо шукаць варту ці каго іншага, хто трымае ключ ад неспадзяванага замка.

Яська выбрала другі варыянт і пабегла да крайняга доміка, дзе начавала ўся працоўная група праекта.

На ўваходзе ў катэдж стаяў псіхолаг. Апрануты ў нязвыклыя трэнікі і белую, расцягнутую ў падпахах майку, з цыгарэтай у руцэ, ён нечакана нагадаў тыповага суседа-выпіваку, недыпламаванага, але шчодрага на філасофскія разважанні спецыяліста па чалавечай душы.

— Віктар Віктаравіч! — кінулася да яго Яська. — Трэба адчыніць браму! У лесе крычала жанчына, — Ясьцы хапіла розуму не ўдакладняць, якая менавіта. — Трэба тэрмінова бегчы туды!

Замест адказу псіхолаг з асалодай зацягнуўся цыгарэтай, пасля працяжна выдыхнуў. Некалькі бясконцых імгненняў яны назіралі, як дым разносіцца ў паветры і знікае.

— Яся, — спакойна сказаў ён, з выгляду крыху незадаволены тым, што Яська не знікла ўслед за дымам. — Ну куды бегчы? Табе проста падалося.

— Нічога мне не падалося! — раззлавалася і Яська. — Кажу вам, я чула крыкі!

— Ну, не ведаю, можа, варона якая гаркнула, — прапанаваў іншае бязглуздае тлумачэнне псіхолаг. — Мы пойдзем тую варону шукаць, каб даведацца, што яе жыццю нічога не пагражае, ці што? Чаму ты ўвогуле не спіш у такі час? Зноў твае жахі?

Яська і забылася, што на інтэрв'ю паспела расказаць яму яшчэ і пра жахі.

— Так, — згадзілася яна. — Зноў дрэнь прыснілася. Я выйшла падыхаць, і...Слухайце, ну паверце мне, я ўпэўнена, што чула не птушку, я яшчэ адрозніваю чалавечы крык ад птушынага.

— А я ўпэўнены, што ўсе твае «сяброўкі» спяць сабе спакойна ў сваіх пакоях, і крычаць у лесе не было каму.

— А раптам Соня? — не вытрымаўшы, спытала Яська.

Псіхолаг нахмурыўся.

— Соня збегла, — нагадаў ён. — Хутчэй за ўсё, спужалася публічнасці шоу. Навошта ёй насіцца па начным лесе?

Яська замаўчала, падбіраючы словы. Не ведаю, навошта. Соня сама адказала б на гэта пытанне сёння ноччу ў 1.30, калі б Яська не праспала. Але яна праспала, і цяпер адбылося нешта зусім дрэннае, і брама зачынена, і Яська нічога не можа зрабіць.

— Вось што, — сказаў псіхолаг. — Калі табе так страшна, можаш пераначаваць у маім пакоі, а я пасплю на канапе ў гасцёўні. Добра? І калі мы зноў пачуем крык, мы адчынім браму.

Яська яшчэ хвіліну пастаяла, паглядзела на псіхолага з безвыходнай просьбай у вачах. Не, не верыць. Не дапаможа. Калі і ёсць у Соні на каго спадзявацца, дык толькі на Яську.

— У колькі адчыняюць браму? — спыталася Яська.

— У шэсць гадзін раніцы прыязджае кухар. Пасля яго прыезду браму не зачыняюць.

— Дзякуй, — адказала Яська і, адыходзячы, кінула няшчырае, — добрых сноў.

— І табе, і табе, — задумліва паўтарыў псіхолаг, гледзячы ёй услед.

...У пяць хвілін на сёмую прыязджае машына, і шлях да свабоды адкрыты. У Яські ёсць некалькі гадзін: аб адзінаццатай у Каці спатканне, і блукаць па лесе будзе нязручна.

Раніцай лес выглядае звыкла, такім Яська бачыла яго не раз у час сваіх штодзённых прабежак. Яна ходзіць ад дрэва да дрэва, углядаючыся ў шаты, вывучаючы зямлю пад нагамі. Яна шукае намёкі, шукае сляды, якія маглі б прывесці яе да Соні, але сама не ведае, што хоча знайсці. Абрывак сукенкі на галінцы? Засохлыя кроплі крыві на зямлі? І што, калі яна знойдзе, што яна будзе з гэтым рабіць?

У глыбіні душы Яська ведае, што спадзяецца знайсці не кроў, не белую хусцінку, не прывід зніклай дзяўчыны — яна спадзяецца знайсці Соню, можа, параненую, але жывую, але цалкам, без падзелу на кроў і сукенкі.

Толькі лес нячулы, лес не жадае выдаваць сваіх тайн.

Яська блукае яшчэ некалькіх гадзін, час ад часу крычыць «Со-о-о-о-ня», і лясное рэха падхоплівае крык і весела разносіць яго па прасторы. Ніхто не адгукаецца.

Стомленая, расчараваная, яна вяртаецца ў катэдж.

З кухні даносяцца галасы. Яська ціхенька падыходзіць бліжэй, прыслухоўваецца.

— Не, пра Соню мы з ёй не размаўлялі, — кажа Лёля, і голас у яе здзіўлены. — Сапраўды, хацела ноччу бегчы ў лес?

На кухні з ёй, мусіць, моўчкі пагаджаюцца, бо Лёля працягвае:

— Шчыра кажучы, я не здзіўлюся, калі апынецца, што ў яе праблемы з галавой. Яна крыху... дзікаватая.

— Сур’ёзныя дзіцячыя траўмы, — тлумачыць голас, у якім Яська пазнае голас псіхолага. — Парушэнні сну, якія могуць суправаджацца галюцынацыямі. Шкада, што яна ні з кім тут не дзеліцца, магло б дапамагчы.

— Ну вы тут панавыбіралі, вядома! — фыркае Лёля. — Адна, здаецца, з вітцэльзухт-сіндромам, другая з галюцынацыямі. Трэцяя...

Яська не даслухоўвае, адыходзіць ад кухні, падымаецца на другі паверх. Можа, псіхолаг мае рацыю. Можа, яна...

таго. Чаму Соню бачыць толькі яна адна і толькі ноччу? Ці не блытае Яська яву і сон, ці не патрэбна ёй дапамога псіхолага, хай той жа Лёлі?

Але хтосьці напісаў гэтую цыдулку. Хтосьці жывы, не з Ясьчынай галавы, напісаў: «Гэты праект — падман. Уцякайце, пакуль не позна». Няхай гэта не Соня, няхай Соня збегла, спужаўшыся камер, публічнасці, чорт ведае чаго. Але хтосьці іншы застаўся і здзекуецца. Камусьці патрэбна, каб Яська распсіхавалася, мабыць, каб збегла ўслед за Соняй.

Ці не вядзе Лёля з Кацяй падвойную гульню? Ці не выжываюць яны такім чынам саперніц? Але дзеля чаго, дзеля Славы, якога да сённяшняй раніцы не бачыў ніхто з іх? Дзеля славы, папулярнасці ад перамогі ў шоу? Ці вартая ўзнагарода гэтакай подласці?

Не, як ні круці, а з Лёляй размаўляць нельга. Толькі прыглядацца, толькі прыслухоўвацца. Трымаць сябе ў руках. І, пажадана, асабліва пасля апошніх некалькіх сутак, спаць па начах.

## Частка чацвёртая, у якой Лёля выйграе ў конкурсе на самага дрэннага чалавека, а Яська канчаткова становіцца дарослай

Раней у Лёлі не хапала часу на сябе. Яна заўсёды бегла, і хаця маршруты руху не змяняліся, Лёля ўмудралася спатыкацца кожны раз на тых жа самых месцах.

Бегла на працу, бо падымалася позна, добра калі пасля пятага напаміну будзільніка, доўга снедала, не выпускаючы з рук тэлефон, і, як магла, адцягвала той момант, калі давядзецца нацягнуць на сябе твар дарослага чалавека. Таго самага дарослага чалавека, які працуе ў дзяржаўнай установе, не ходзіць дома ў шкарпэтках з кутасікамі і спіць, як Барні Сцінсан, у піжамнай версіі касцюма.

Лёля нацягвала гэты твар з пачуццём брыдкай неабходнасці, бо так рабілі ўсе, але часам яна прыкідала, хто быў той першы, хто вырашыў, што дзяцінства ў чалавека ў пэўны момант заканчваецца, і з прыходам гэтага моманту няшчасны чалавек павінен апранацца і паводзіць сябе так, каб усе бачылі, што паміраць яму нястрашна, бо жыццё і без таго не прыносіць яму ніякай асалоды. Дакладна пра першага было зразумела дзве рэчы: ён валодаў неверагоднай здольнасцю да пераканання і быў страшэнным мудаком.

З працы Лёля бегла па крамах, бо ніяк не магла дарасці да таго ўзроўню планавання, калі складаеш спіс патрэбных прадуктаў на тыдзень, купляеш усё згодна са спісам у нядзелю і наступныя сем дзён ходзіш пад'еўшы і спакойны за заўтрашні дзень як мінімум у харчовым плане.

Не, Лёля складала спісы, яшчэ як складала, гэтымі спісамі («Прадуктовы спіс», «Спіс бліжэйшых пакупак на

восень», «Спіс пакупак, каб палепшыць дрэнны настрой», «Спіс суцяшальных дробязяў, калі не хапае грошай на пакупкі з іншых лістоў») была пазавальвана ўся кватэра, але ў адзіны момант, калі такі спіс быў патрэбны, калі Лёля заходзіла ў супермаркет і зачаравана глядзела па баках, ён ніколі не трапляўся пад руку. У выніку Лёля купляла наўздагад, па памяці (здаецца, скончыліся макароны, здаецца, у той новы рэцэпт курыцы, які яна знайшла ў інтэрнэце, патрэбна папрыка), вярталася дамоў і бачыла два поўныя пачкі макаронаў, выціснуты да краёў цюбік зубной пасты і аркуш з рэцэптам, у якім не было ніякай папрыкі, затое былі паніровачныя сухары.

Скончыўшы з крамай, Лёля бегала па хаце: згатаваць ссабойку на заўтра, абыходзячыся без паніровачных сухароў, пачысціць вопратку, бо чорт Лёлю падаткнуў набыць чорнае паліто, на якое чапляецца кожная валасінка з кожнай нялысай галавы ў грамадскім транспарце, паглядзець апошні «Вдудзь», каб быць у тэме, каб адчуваць сябе жыхаром сваёй эпохі, а не бясконца адсталай ад свайго стагоддзя цёткай, якая цыруе мужавы порткі пад нудлівыя песенькі «Залатога грамафона».

Час раставаў, цямнела, і Лёля клалася спаць стомленая, але незадаволеная, бо дзень зноў прайшоў дарма, бо яна так старалася, бегла, рабіла, але нічога не паспела, бо ўся яе актыўнасць накіравана толькі, каб падтрымаць сваё матэрыяльнае жыццё, бо нічога з таго, што яна рабіла ці будзе рабіць на мінулым, на гэтым, на наступным тыдні не будзе тым, што яна прыгадае, паміраючы, з думкай: «Не, усё ж такі пажыла».

І тут гэты праект, як падарунак, як адзіны шанц на ўсё жыццё: глядзі, табе не трэба працаваць, не трэба гатаваць вячэру, не трэба планаваць, як нянудна правесці выхадныя: усё нагатавана, напрацавана, напланавана за цябе, ты толь-

кі будзь сабой, займайся сваімі думкамі, сваімі пачуццямі, разважай і разбірайся, толькі не саромся камер, не хавайся за канапамі падчас здымкаў, і ўвесь астатні час твой.

Вось як атрымалася, што ўпершыню з універсітэцкіх гадоў Лёля з вялікай увагай угледзелася ў люстэрка і была страшна, глыбока здзіўленая.

Усе свае юнацкія гады Лёля саромелася, што ў яе занадта дзіцячы твар. Такі твар, якому ніколі не прададуць піва ў краме без пашпарта. Такі твар, якому прадаўшчыца нагавіц заўсёды скажа: «Глядзіце, чорныя, са стрэлкай, нічога лішняга, і настаўнікі ў школе не будуць лаяцца». Такі твар, на які, калі і паглядзіць зацікаўлена дарослы мужчына, то толькі той, што ходзіць у плашчы на голае цела па дзіцячых пляцоўках.

І гэты твар за тыя некалькі год, што Лёля не звяртала на яго асаблівай увагі, раптоўна, без пісьмовых папярэджанняў і трывожных сігналаў, беспаваротна пастарэў. Гэта быў той жа, дзіцячага манеру твар, але пацьмянелыя вочы, сетачка тоненькіх качыных лапак ад кожнага павека, бляклая скура нікога больш не прымусяць памыліцца: «Вазьміце ваша піва, у сэнсе, вы не хацелі, я бачу, вам трэба».

Высветлілася, што ўсе тыя гады, што Лёля з тварам не праводзілі шчырых сустрэч, ён жыў сваім жыццём, перажываў, не высыпаўся, валачыўся па непрыемных справах, і кожная з гэтых падзей пакідала на ім свае сляды.

Даволі балючае адкрыццё. Асабліва на фоне іншых твараў. На фоне твару Ясечкі, які адкрыта пыхаў здароўем, правільным харчаваннем, удумліва пабудаваным рэжымам дня. На фоне твару Каці, які, хай і дарослы, але вытачаны, арыстакратычны, манкі: жанчыны з такім тварам і ў шэсцьдзясят прыцягваюць да сябе ўвагу. Лёлін твар быў недадуманы, недапрацаваны ні прыродай, як у выпадку Каці, ні валявымі высілкамі, як у выпадку Яські. Калі і быў у Лёлі перыяд жаночага росквіту, то яна паспяхова яго

прапусціла. Напэўна, стаяла ў чарзе ў краме. Ці гартала навінавую стужку.

Тым больш дзіўна, што нягледзячы на здраду з боку свайго арганізма, нягледзячы на ўласную недасканаласць на фоне іншых дзяўчын Лёля была надзвычай шчаслівая і ўдзячная праекту: хай непрыгожая, хай Слава ніколі ў яе не закахаецца, але ёй застаўся вольны час, якога, можа, больш ніколі не будзе, ёй застаўся Віця (Віктар Віктаравіч у афіцыйных размовах, але яны амаль з першых дзён з такімі размовамі скончылі), ёй засталася дзіўная гульня са зніклымі дзяўчатамі і жахлівымі запісачкамі, і яна будзе атрымліваць асалоду ад усяго гэтага па максімуме, бо, да чаго б не прывяла гэта гісторыя, наўрад ці ў далейшым жыцці Лёлю чакае нешта цікавейшае.

У дзверы пагрукалі.

Лёля адклала люстэрка (праўда, не вытрымала і кінула ў яго апошні позірк, а раптам на секундачку твар зменіцца і падміргне ёй нечаканай ранішняй прыгажосцю? Вынік: 1-0 на карысць бязлітаснай рэальнасці).

За дзвярыма стаяў Віця.

— Я зайду, ты не супраць? — спытаў ён, пераступіўшы парог раней, чым вымавіў пытанне.

Напрактыкаваным вокам знайшоў крэсла, у якое сядаў у папярэднія свае візіты, прысеў, крыху паварочаўся, шукаючы ўтульную пазіцыю, нарэшце замёр, паклаў далоні па-школьнаму, на калені, і паглядзеў на Лёлю.

— Цікавая прычоска, — кінуў ён костачку двум Лёліным абаранкам, якія яна ўсталявала на сваёй галаве, узяўшы ў якасці мадэлі вобраз фаўна з «Лабірынта фаўна». Абаранкі кінуліся на костачку, завіхляўшы хвосцікамі.

— Дзякуй, — сказала Лёля, вырашыўшы не ўдакладняць сваю прычосачную сваяцкасць са старажытнарымскімі багамі.

— Я насамрэч па справе, — не стаў доўга цягнуць Віця. — Атрымаў я крыху ад начальства.

Па яго твары было відаць, што гэтае «крыху» ледзь не знесла яму галаву.

— Кажуць, што дзяўчыны ў кадры заціснутыя. Не раскрываюцца, як трэба. Не распавядаюць сакрэтаў. Што наш глядач альбо памрэ ад нуды, альбо паспее пераключыць канал, што, зразумела, горш за смерць. Трэба нешта рабіць.

Лёлі было прыемна, што Віця з такімі важнымі заданнямі звяртаецца да яе, разлічвае на яе інтэлект, знаходлівасць. Прыемна і няёмка, бо ніякіх ідэй у Лёліну галаву не прыходзіла, акрамя таго, што цікава, чаму Віця такі руды, чые гэта карані, можа, брытанскія ці фінскія, і як бы лепш спытаць, не прыцягваючы ўвагі да прычын свайго інтарэсу.

— І што ты прыдумаў? — асцярожна спытала Лёля, стараючыся выглядаць зацікаўленай у размове, сур’ёзнай, сабранай.

— Я спачатку падумаў, што, можа, проста ўсіх напаіць, але начальства кажа, што п’яныя жанчыны не адпавядаюць ідэалогіі нашага канала. Мы ж не ТНТ які.

Цікава, паводле законаў генетыкі, ці моцныя ў рудых гены? Вось, напрыклад, калі маці брунетка, а бацька руды, ці народзіцца ў іх такі ж, як бацька, прыгожы залаты хлопчык, з россыпам рабаціння па твары, з вейкамі пшанічнага колеру?

— Зусім не ТНТ, — услых падтакнула Лёля.

— Пасля я зразумеў, што нам патрэбны нехта першы. Разумееш? Нехта, хто плясне гэтым парывам шчырасці, які падхопяць іншыя дзяўчыны. Ну, як заўсёды бывае: варта аднаму выказацца, што ён прыкідваўся, калі плакаў на бабуліным пахаванні, і паляціць хваля шчырасці, як гарачая бульбіна, ад аднаго да другога. Кожны захоча паказаць, што ён яшчэ горшы, што ён плакаў, калі бабуля памірала

і не памерла, што ён плакаў увогуле таму, што ў яго ёсць бабуля, а не плэйстэйшн.

— Гучыць разумна, — кажа Лёля, у думках вырашаючы, ці было б весела назваць сына Віцем, як у скандынаўскіх сагах: Віктар, сын Віктара, унук Віктара, праўнук... дарэчы, а як звалі прадзеда?

— Тут мне і патрэбна твая дапамога, — перайшоў Віця да самага галоўнага. — Трэба, каб ты дала пачатак гэтым парывам шчырасці. Трэба брыдкая гісторыя з твайго жыцця, ад якой усім будзе няёмка, пакуль яны не паб'юць тваю шчырасць яшчэ большай шчырасцю. Ёсць у цябе такая гісторыя?

Лёля неахвотна пакінула мары пра залатых хлопчыкаў, якія бегаюць па іх сумеснай кватэры і зіхацяць ружовымі дзіцячымі пятачкамі.

— Я аднойчы нахаміла бабулі ў аўтобусе, калі яна папрасіла саступіць ёй месца.

Віця скрывіўся. Не тое, зусім не тое.

— Падманвала маці, калі казала, што кладуся спаць, а сама ехала на танцы.

Віця пахітаў галавой.

Лёля прапанавала яшчэ некалькі варыянтаў сваіх страшэнных злачынстваў, пакінутых без пакарання. Ні адзін з іх не быў прыняты. Крыху памаўчаўшы, Віця сказаў:

— Не хацелася б здавацца дакучлівым, але памятаеш тую гісторыю, якую ты расказвала ў час нашых інтэрв'ю да праекта? Пра бацьку і распіску? Там, здаецца, было нешта пікантнае...

— Я не буду пра гэта гаварыць! — падхапілася Лёля. — Пакуль мая маці яшчэ глядзіць тэлевізар.

— Ну-ну, цішэй, цішэй, — загаварыў Віця сваім прафесійным, супакойвальным тонам. — Ну, паглядзіць маці, і што? А ты ёй скажаш, што ўсё няпраўда, што мы, паскуд-

ныя тэлевізійшчыкі, спецыяльна папрасілі выдумаць дзікіх гісторый дзеля піяру праекта. Такое наша тэлебачанне, нельга верыць нікому.

Лёля сядзела моўчкі, кінуўшы ўсе сілы, каб не расплакацца. Не, не, не, яна расказала Віцю, бо хацела яму расказаць, бо ён быў такі чулы, так добра яе разумеў, а гэтыя «Міс Я-Падымаюся-А-Шостай-Раніцы» і «Міс На-Калені-Халопы», яны не зразумеюць, а яшчэ больш не зразумее маці, яна верыць тэлебачанню, яна кожны выпуск праграм з Малахавым глядзіць з валяр'янкай, пра што тут казаць!

Віця ўзяў яе за руку, пяшчотна пагладзіў уздоўж кісці.

— Не ведаю, што і рабіў бы тут без цябе! Хто б іншы мог мне дапамагчы? Не Яська, вядомая рэч! І не Каця. Дзякуй Богу, што ты ёсць, такая разумная, такая смелая, такая шчырая.

— Ты проста хочаш, каб я зрабіла, што табе трэба, таму кажаш такія рэчы, — тоненька прапішчала Лёля, бо дыханне перахапіла, бо скура на месцы Віцевых дотыкаў загарэлася, закалолася, як пры алергічнай рэакцыі, і думаць, аналізаваць, прымаць самастойныя рашэнні рабілася ўсё цяжэй.

— Я кажу, што думаю, — адказаў Віця, падымаючыся. І, ужо стоячы на парозе, спытаўся:

— Згодна?

І Лёля падарыла яму сваё «згодна» лёгка, упэўнена, як дораць зусім іншыя «згодна» ў зусім іншых абставінах. Якая розніца, што будзе пасля праекта. Тут, проста зараз, адбываецца найлепшы перыяд яе жыцця.

Вечарам усіх удзельніц сабралі ў гасцёўні на першым паверсе. Абвясцілі, што плануюцца здымкі, будзе праведзена гульня, правілы якой яны даведаюцца пазней.

Лёля, падрыхтаваная з раніцы, цяпер спакойна сядзела на канапе, з цікавасцю назірала за дзяўчатамі.

З незадаволенасцю адзначыла, што Каця пасля спаткання выглядае занадта натхнёнай: вочы блішчаць, быццам туды паўкручвалі лямпачкі з большай колькасцю ват, валасы кучаравяцца, быццам побач не беларускі лес, а трапічны. Ох, відаць, кепскія справы, што для Яські, што для Лёлі, калі Каця зацікавілася хлопцам і ўключылася ў барацьбу. У той жа час, не моцна і хацелася, забірай свайго Слаўку, нараджайце з ім сваіх ідэальных дзяцей-арыстакратаў, пестуйце сваё пачуццё сарказму і высакамернасць, яна, Лёля, таго жаніха не бачыла і не хочацца цяпер.

Затое ў Яські свет у вачах, наадварот, нехта выключыў: сядзіць сябе з краёчку, глядзіць вачыма звераняці на падрыхтоўчы працэс, перабірае танюткімі пальцамі сваю касу Васілісы Прыгожай. Што, Ясечка, не падрыхтаваная дзіцячая псіхіка да дарослых тэлеперадач, не вытрымліваюць нервы жыцця ў жаночым калектыве: вунь, жудасныя прывіды пачынаюць мроіцца, у лес па начах цягне. Па-добраму ўзяць бы тую Ясю ды адправіць дахаты, ну не закахаецца ў яе Слава, нават глядзець не стане, асабліва пасля Каці, але законы тэлебачання жорсткія — хтосьці павінен быць ахвярай.

За камерамі пачулася каманда падрыхтавацца. Лёля выраўняла спіну, праміргалася, каб вочы не так слязіліся ад яркага святла. Пачалі!

— Дарагія дзяўчаты! — уступіў Віця ў поле зроку камер. — Сёння мы вырашылі правесці гульню па матывах, так казаць, класікаў. Хто з вас чытаў «Ідыёта» Дастаеўскага?

Кацiна рука адзінока памахала ў паветры.

— Добра, тады для астатніх раскажу: галоўная гераіня кнігі, Настасся Філіпаўна, падчас аднаго са сваіх прыёмаў правяла з гасцямі гульню асаблівага роду. Кожнаму ахвотніку прапанавалася распавесці пра свой самы дрэнны ўчынак за ўсё жыццё. Тое, за што больш за ўсё сорамна.

Тое, што не патанула ў памяці пад грузам іншых дрэнных учынкаў. Нешта не абавязкова страшнае ці крымінальна каральнае, але важнае менавіта для самога ўдзельніка. У Дастаеўскага ад гульні вызваляліся жанчыны, што, на нашу думку, было зроблена дарма, таму сённяшнім вечарам мы вырашылі выправіць несправядлівасць і даць магчымасць жанчынам выказацца.

Віця скончыў гаварыць і высакародным позіркам «Белы мужчына выступае за права голасу для жанчын» абвёў дзяўчат.

«Не пераігрывай!» — папярэдзіла яго Лёля позіркам у адказ.

— Гэта споведзь, падрэ? — спыталася Каця, для якой гульня ў позіркі з Віцем не ўяўляла ніякай цікавасці.

— Для споведзі, Каця, тут занадта многа людзей і ніхто з іх не святар, — адказаў Віця. — Гэта гульня, але паводле строгіх правілаў: трэба быць вельмі, вельмі шчырым.

— Я без праблем, — адмахнулася Каця. І то праўда, што б яна ні расказала, наўрад ці хто будзе занадта здзіўлены. — Я толькі хвалююся за Яську, наперад пройгрышная для яе гульня атрымоўваецца. Ну што яна раскажа? Дазволіла сабе паспаць на гадзіну болей? Зірнула на чыпсы ў супермаркеце і забылася зморшчыцца?

— Хвалюйся за сябе, Каця, — папрасіла Яська. Вочы зверанядці блікнулі і пагаслі.

— Думаю, кожнаму хоць за нешта, а вельмі сорамна, — падагульніў Віця і пакінуў кадр.

Час Лёлі падаць голас.

— Я магу пачаць, — прапанавала яна.

Каця ледзь не падскочыла на канапе.

— О, глядзіце, каманда ціхушнікаў вырываецца наперад! Што ж, мусіць, гэта не тое спаборніцтва, дзе хацелася б змагацца за прызавыя месцы. Давай, Лёля, нашы па-

гардлівыя позіркі і непрыхільныя каментары напагатове і толькі чакаюць патрэбнага моманту.

— Лёля, ты памятаеш? Можаш нічога не расказваць, калі не хочаш, — нагадала ёй Яська яе ж словы.

— Дзякуй, Яська, — шчыра сказала Лёля. «Але які ў мяне выбар...» — дадала яна пра сябе. — Гэта адбылося напачатку другога года маёй вучобы ў Мінску ...

## *Лёлін самы дрэнны ўчынак*

Лета пасля першага курса Лёля праводзіла дома з бацькамі, у Баранавічах. Нуднае, самотнае, бясконцае лета. Лёля рвалася ў Мінск, да бурлівага, непрадказальнага інтэрнацкага жыцця, па якім яна так сумавала, седзячы ў кватэры, зрэдку высоўваючы нос, каб схадзіць у кіно ці сустрэцца з былымі аднакласнікамі. Ні кіно, ні аднакласнікі не радавалі, і Лёля была шчаслівая толькі па начах, калі ў думках выкрэслівала яшчэ адзін дзень да першага верасня.

Прыкладна за два тыдні да Лёлінага ад'езду бацька зноў запіў, і дома пачаліся чарговыя штовечаровыя скандалы.

Не тое, каб Лёлі гэта было ў навіну. Бацькі сварыліся і раней, сварыліся столькі, колькі Лёля сябе памятала, кідаліся самымі страшнымі, самымі крыўднымі словамі, пхаліся ў калідоры: кожная такая спрэчка непазбежна скончылася сінякамі, якія потым выкарыстоўваліся ў якасці галоўнага інструмента націску: глядзі, што ты нарабіла, у мяне шнар застанецца. Але ўсё тое было да Мінска, да Лёлінага шчаслівага вызвалення, да таго, як яна даведалася, што можна жыць інакш: спаць па начах, не прыслухоўвацца, як адчыняюцца дзверы, не ацэньваць, наколькі цвярозыя татавы крокі, не чакаць з жудасцю першых татавых слоў, якія выдадуць яго, нават калі дзверы адчыніліся лёгка, а крокі гучалі ўпэўнена.

Лёля сама ад сябе не чакала, што яна настолькі адвыкла. З дзікасцю яна назірала за тым, да чаго яшчэ год назад ставілася як да непрыемнай, але непазбежнай часткі сямейнага побыту: усе так жывуць, нічога асаблівага, няма на што звяртаць увагу.

Новая Лёля не хацела мірыцца і цярпець: ёй здавалася, варта толькі ўзяць справу ў свае рукі, варта толькі падштурхнуць забуксавалы аўтамабіль іх сямейнага жыцця,

і ён пакоціцца сам, лёгенька, як з горачкі, шчаслівы і ўдзячны за той невялічкі штуршок, падораны яму Лёляй.

Дачакаўшыся нядзелі, калі бацька праспаўся і яшчэ не паспеў пацапацца з маці, Лёля сабрала ўсю сям'ю на кухні і пачала «штурхаць».

— Тата, — вырашыла яна абысціся без лішніх уступных слоў, — давай мы цябе закадзіруем.

Тата, не звыклы да таго, што Лёля мае да яго прэтэнзіі, не тое што прапазіцыі, першыя імгненні маўчаў, і толькі відаць было, як пухнуць яго вушы, наліваючыся гневам.

— Кадзіруйцеся самі! — гнеў з вушэй падаў сігнал галасавым звязкам. — Усе п'юць, я не больш за іншых. Давай тваю маму тады закадзіруем для пачатку.

— Коля, ну што ты такое гаворыш! — не вытрымала маці. — Ды колькі я п'ю, у мяне страўнік слабы, ды каб я піла, як ты, я даўно памерла б, у мяне здароўя няма столькі піць!

— Ага, ага, — недаверліва казаў тата, даходзячы да шаленства. — А ў тым месяцы з суседкай, не памятаеш? Паўбутэлькі выйшла! Было б і болей, калі б я не спыніў.

— Ды хіба гэта я, гэта Люська, ты сам ведаеш, яна п'е за двух мужыкоў, я што ёй, забараніць магу?

— Вось вас удзвюх з Люськай і на кадзіроўку! — весела зарагатаў тата.

Лёля моўчкі назірала за прыкрай спрэчкай і толькі здзіўлялася, як гэта магчыма, што вось ёсць тата, які аб'ектыўна вінаваты, якому трэба нешта рабіць са сваімі дурнымі звычкамі, а ён не бачыць сам, не верыць сваёй сям'і ды яшчэ і займае такую наступальную пазіцыю, яшчэ мае нахабства раіць маці, якой становіцца дрэнна ад некалькіх келіхаў віна, кадзіроўку. Тата-тата. Сорамна.

— Добра, — умяшалася Лёля ў спрэчку. — Добра, тата. Калі жадаеш, можам закадзіравацца ўсе ўтрох. Калі табе так будзе лягчэй.

Тата не чакаў такога павароту. Ён з разгубленай усмешачкай паглядзеў на маці («З глузду з'ехала дзеўка»), але маці не падтрымала яго жартаўлівага позірку, маці сказала:

— А што, я згодная. Мне без розніцы.

— І я згодная, — сказала Лёля.

— Вось удзвюх і едзьце! — паспрабаваў зноў выйсці на жартачкі бацька, але жарт патануў у насцярожаным маўчанні. — Не, ну вы нармальныя, як вы сабе ўяўляеце: мы прыедзем утрох у клініку, закадзіруйце, калі ласка, нашу сям'ю алкашоў? Ды калі хто даведаецца, а яны даведаюцца, што тут, адна вялікая вёска, ды мяне на смех падымуць усе! Як я буду ў вочы людзям глядзець, ты пра гэта падумала, разумная ты наша мінчанка!

— Я не бачу іншых варыянтаў, — цвёрда настойвала Лёля. — Калі адзін ты не хочаш, добра, паедзем усёй сям'ёй.

— А ты вочы разуй і адразу ўсё ўбачыш, не бачыць яна!

— Не хамі дачцэ!

— А што яна мяне вучыць, дзіцё малое, знайшлася мне настаўніца! Такіх настаўніц мы хуценька дзягай з нябёс на зямлю апусцім!

Лёля сядзела расчараваная: нічога не выходзіла, татава сумленне, замураванае тысячамі чарак, не адгукалася ні на якія Лёліны пстрычкі.

— Тады давайце напішам распіску, — у адчаі прапанавала яна.

— Якую яшчэ распіску? — здзівіўся тата.

— Такую. Я, імя, прозвішча, абяцаю ў бліжэйшы год не браць у рот ні кроплі, дата, подпіс. Кожны напіша. І кожны распішацца.

— Год — гэта неяк... занадта, — няўпэўнена працягнуў бацька. — У мяне дзень нараджэння ў красавіку. Што мне цяпер, і на свой дзень нараджэння не выпіць!

— Давайце на паўгода, — прапанавала маці. — Паўгода — таксама добры тэрмін.

— Тата?

Тата доўга маўчаў: нібыта падлічваў шкоду, якую нанясе яму цвярозае жыццё, нібыта ацэньваў, ці вартая яго сям'я такой сур'ёзнай ахвяры. Лёля сачыла за гульнёй ценяў на татавым твары, спрабавала прачытаць, на чыю карысць схіляюцца шалі: ці дастаткова іх з маці вагі, каб пераважыць звычайную радасць адказу ад балючых думак і ўспамінаў, якую, напэўна, знаходзіў бацька на дне бутэлькі.

— Ды давайце, давайце. Станем сям'ёй непітушчых, чорт вас бяры, — нарэшце выказаўся тата.

Лёля ўміг, яшчэ не верачы свайму шчасцю, прыцягнула альбомны аркуш, акуратна вывела ўверсе пасярэдзіне «Распіска», напісала першай сваё абяцанне, працягнула тату.

— Хай маці спачатку напіша, — убраў рукі за спіну тата.

Напісала і маці. Тады тата неахвотна ўзяў аркуш, вывеў няўпэўненыя літары, доўга трымаў ручку над паперай, перш чым паставіць подпіс.

— Можа, напаследак?.. — з надзеяй пачаў ён, але ўбачыўшы твары жонкі і дачкі, уздыхнуў, распісаўся і, засмучаны, сышоў курыць на балкон.

— Думаеш, атрымаецца? — з недаверам спытала маці.

— Застаецца толькі спадзявацца.

Астатнія дні да ад'езду Лёля толькі і рабіла, што нагадвала тату пра яго слова, сапраўднае мужчынскае слова, якое ён даў сваёй сям'і, што ў іх ёсць пісьмовае пацверджанне яго слова і што, калі тата не вытрымае, грош цана ўсяму, што ён кажа.

Тата чырванеў, бурчаў: «Адчапіся, без цябе ведаю!», дамоў вяртаўся злы, але цвярозы.

Поўная надзей, Лёля з'ехала ў Мінск.

А ў Мінску ўзгадала, што палову першага курса яна з суседкамі па інтэрнацкім пакоі толькі і рабіла, што ганяла па вечарах чырвонае паўсалодкае і журавінавыя настойкі.

Але абяцанне ёсць абяцанне.

У першы вечар, калі суседкі скідваліся на бутэльку, Лёля цвёрда сказала:

— Я буду піва. Безалкагольнае.

І атрымала, зразумела, шэраг самых розных жартаў у свой бок. Не, не цяжарная. Не, не пашчуся. Не, не залічана ў Школу Юных Прынцэс. Усе сяброўскія жарты перакрываліся тэлефоннымі размовамі з маці, у якіх тая рупліва дакладала: не п’е, амаль не сварацца, купілі дыван.

На нядзелю пасля першага тыдня вучобы суседкі запланавалі вялікае святкаванне. Усе раптам узгадалі, што не адзначылі пачатак другога курса, і трэба тэрмінова выпраўляцца.

Лёля сумна пацягнулася ў краму па другое безалкагольнае піва. Шчыра кажучы, раней яна не ведала, якая гэта брыдкая дрэнь. У словазлучэнні «безалкагольнае піва» праўда — толькі пра адсутнасць алкаголю. Піва там паказана намінальна, для прыгажосці. А па факце, быццам квас, які доўга стаяў у бочцы на сонцы, забрадзіў, пасля ў яго нагадзілі мухі, пасля яго налілі ў брудныя бутэлькі з-пад іншага сапсаванага квасу і зверху наляпілі этыкетку «Нулёвачка». З добрым прыбыццём у свет цвярозасці, просьба ванітаваць па-за крамай.

У той жа час, чаму яна, Лёля, абавязана сябе абмяжоўваць? Ці гэта ёй патрэбна дапамога нарколага? Ці гэта яна, п’яная, колькі год завальваецца дамоў па начах і правакуе скандалы?

Ды і тата ў Баранавічах. Тата не ўбачыць. Лёля пазвоніць загадзя, скажа, што кладзецца спаць раней, каб выспацца перад заняткамі, і ніхто ніколі не даведаецца, чым яна займалася тым звычайным вечарам нядзелі.

Усё атрымалася, як Лёля і задумвала: ніхто ніколі не даведаўся. У тую ноч яна напілася страшна, так, што на наступны дзень давялося прагуляць пары, бо ў галаве гудзела, трашчала і пазвоньвала, і нават дайсці з пакоя да душа здавалася актам неверагоднай мужнасці. Правёўшы некалькі дзён на мінералачцы і салатах з садавіны, Лёля сур'ёзна паабяцала сабе больш не піць, як пазваніла маці і праз слёзы залямантавала, што бацька вярнуўся дамоў п'яны.

— Пагавары з ім! — прасіла яна. — Нагадай, што ён нам паабяцаў! Мы ўсе паабяцалі!

І Лёля з цяжкім каменем на сэрцы размаўляла з бацькам, вычытвала, заклікала да сораму, ціснула на пачуццё віны.

А сама пра сябе цвёрда ведала, што калі і ёсць сярод іх вінаваты, той, каму павінна быць сорамна, то гэта не тата: тата занадта дарослы, тату не выправіць адзінкавай акцыяй, тату трэба лячыць. Іншая справа — Лёля. Першай парушыла сваё слова, надала іх распісцы танны выгляд, дазволіла сабе тое, супраць чаго сама і змагалася. І калі ёсць у свеце справядлівасць, то акурат з ёй Лёля цяпер і сустрэлася.

Лёля скончыла і зацікаўлена заазіралася па баках: ці правільна яна расставіла акцэнты, ці праняла дзяўчатак, як трэба. На дзіва, ёй было зусім не сорамна, наадварот, падчас апавядання яна разышлася і нават шкадавала, што гісторыя такая просценькая, што дрэнны ўчынак яе такі немудрагелісты, такі, калі добра падумаць, бяскрыўдны. Захацелася распавесці больш, каб убачыць перакошаныя твары, тыя самыя пагардлівыя позіркі, якімі пагражала Каця. Адразу ўзгадаліся і іншыя гісторыі, якія хаваліся ў памяці, маскіруючыся пад забытае, а тут паднялі галовы, вылезлі на свет, як птушаняты, з раскрытымі дзюбамі, патрабуючы ад маці ежы, яшчэ, яшчэ.

Лёля ўзгадала, як на свой дзясяты дзень нараджэння паклікала да сябе сяброваак, а бацька не хацеў пакідаць хату, і яны ўсю раніцу сварыліся.

Лёля крычала: «Ты хочаш сапсаваць мне свята!», а бацька спачатку крычаў: «Са сваёй жа хаты гоняць, зусім страх страцілі!», а пасля вырашыў змяніць тактыку і заявіў, што ён, так і быць, пойдзе, але толькі пасля таго, як Лёля вып'е з ім за сваё здароўе. Узгадала, як, пачуўшы бацькавы словы, хуткай, злой дзіцячай рукой перакуліла шклянку віна, як лямантавала маці: «Коля, што ты робіш, яна ж зусім дзіцё!». А Лёля тым часам разумела, што хай яна і дзіцё, але п'е з бацькам не ад адчаю, п'е не ў спадзяванні, што бацька стрымае абяцанне і пакіне кватэру. Яна п'е, бо разумее, як дзіка, як брыдка яны з бацькам глядзяцца з боку, і як, ёй, Лёлі, хочацца апусціцца на самае дно той брыдкасці. Лёля ніколі ні ў чыіх вачах не выглядала дрэнным чалавекам, і зараз амаль што ўпершыню ў жыцці падумала, што можа і дарма, што ёсць у дрэнным своеасаблівая асалода, якой ёй не хапала.

— Цікавейшага ўчынку не знайшлося, так? — расчараваная працягнула Каця. — Я, дарэчы, думала, што гісторыі пра кадзіроўку ў прыстойнай кампаніі не распавядаюць.

«Гэта ты сябе прыстойнай кампаніяй лічыш?» — злосна падумала Лёля, але першая думка перакрылася іншай, больш важнай: няўжо нічога не атрымалася, і Лёля праваліла Віцева заданне? Дурная, дурная галава! Палезла са сваімі дзіцячымі злачынствамі. Лепей бы нешта выдумала!

— У мяне таксама бацька... — ціха сказала Яська, запнуўшыся на дзеяслове. — Не, не так зразумела!.. У сэнсе, не тое, што твой бацька дрэнны, а мой лепшы, не, я проста хацела сказаць, што мне таксама было непрыемна, і я цябе разумею.

— Дзякуй, — сказала Лёля. Можа, і не праваліла. Хаця б на пяцьдзясят адсоткаў.

— Прабачце, што адчуваю сябе лішняй на сходзе дачок ананімных алкаголікаў, — улезла Каця. — Мне, на жаль, няма чым тут пахваліцца. Можа, у каго прыхавана больш уражвальная гісторыйка? Хацелася б, ведаеце, таксама расчуліцца. — І яна выразна паглядзела на Яську.

Яська маўчала. Лёля пра сябе падбурхторвала яе: «Давай, давай!», але твар трымала безэмацыйным: глядзі, я ад цябе нічога не патрабую, усё робіцца выключна згодна з тваімі жаданнямі.

— Добра, — сказала Яська. Лёля ледзь прыметна выдыхнула. Пранесла, пранесла, Віця, ты будзеш мной задаволены. — Усё роўна мы распачалі гэтую гісторыю. Хай яна нарэшце скончыцца.

## *Яська маленькая становіцца дарослай*

Ясьцы было трынаццаць, калі яны ўпершыню сур'ёзна пасварыліся.

Вярнуўшыся са школы дадому ў той вечар, Яська адразу пачула нядобрае: з кухні далятаў гучны бразгат ці то відэльцаў, ці то лыжак, якія, здавалася, не складалі ў шуфлядку звычайным чынам, а шпурлялі раззлаванай рукой ва ўяўную мэту.

— Ведаеш, што твой Вадзік нарабіў? — спытала маці ў Яські замест прывітання, калі тая адважылася асцярожна зазірнуць на кухню.

Яська прамаўчала, бо варыянтаў у яе галаве было болей, чым матчыным вушам трэба было чуць.

— Украў два мае слоікі з гуркамі! — не стала доўга трымаць інтрыгу маці. — Уяўляеш! Ён думаў, я не ведаю, колькі я ўкруціла слоікаў! Ён думаў, я такая дурная, што не заўважу!

Маці трымала свае слоікі ў шафе ў калідоры. Да сённяшняга вечара шафа ніколі не замыкалася, не было такой патрэбы: калідор дзялілі дзве сям'і, і ў слоікавым сэнсе ў іх не было сакрэтаў адна ад адной. Цяпер, прыгледзеўшыся, Яська заўважыла рэшткі габлюшкі на падлозе, а пасярэдзіне шафавых дзвярэй — свежы замок.

— Можа, гэта не ён узяў, — асцярожна выказала меркаванне Яська.

— Ён-ён! — матчыны вочы бліснулі паляўнічым агнём. — Я, як нястачу заўважыла, адразу да яго бацькоў пайшла! Кажу, ваш сынок, больш няма каму! Яны спачатку аднекваліся, маўляў, здаліся ім мае гуркі, у іх і без таго прадуктаў поўны халадзільнік. А я тым часам у сметніцу пад ракавінай зазірнула, бачу — ляжыць накрыўка, на якой «16» маёй рукой выведзена. Ну, ты ведаеш, я заўсёды год пішу, каб не зблытаць свежыя ўкруткі са старымі. Я ім тую

накрыўку пад нос сунула, кажу, а гэта што, таксама з вашага халадзільніка? Яны глядзяць, як два бараны: на мяне, на Вадзіка, на мяне, на Вадзіка. Той не вытрымаў і прызнаўся. Яшчэ, ведаеш, з такой пагардай растлумачыў, што ў яго з сябрамі было свята, і ён часова пазычыў гурочкі і, натуральна, збіраўся назаўтра купіць нават не два, а чатыры слоікі і паставіць на месца, а я тут ўчыніла немаведама што! Галоўнае, ты толькі ўяві, я кажу гэтым гора-бацькам, ваш сын крадзе, а яны што, яны хоць бы вокам міргнулі! Як сядзеў яго бацька на канапе перад тэлевізарам, так там і застаўся. Што гадавалі, тое і атрымалі.

— Я з ім пагавару, — ціха сказала Яська, адчуваючы, як горача стала шчокам падчас мацінай гаворкі, як пабег па спіне тоненькі, ліпкі цурчок поту. — Я яму растлумачу.

— Пагаворыць яна, не смяшы мяне! — маці ажно падскочыла ад такой прапазіцыі. — Хлопцу дзевятнаццаты год, а яна яго вучыць сабралася! Не, Яська, больш ніякіх перагавораў, я табе забараняю. Хай бацькі з ім размаўляюць. Ці міліцыя. Я думаю, нядоўга засталося да іх сустрэчы.

Яська згадзілася. Добра, мама, добра, ніякіх перамоваў, ніякіх Вадзікаў. Трэба думаць пра вучобу, трэба трымацца далей ад дурных кампаній.

А назаўтра, ледзь дачакаўшыся, калі бацькі сыдуць на працу, Яська паляцела да суседскіх дзвярэй, закалаціла шалёна кулакамі па драўляным вушаку, як калісьці калаціла, знаходзячыся па другі бок.

Вадзік адчыніў, сонны, заўважна прыпухлы пасля ночы.

— Што здарылася, малая? — бесклапотна спытаў ён, паціраючы вочы.

— Ты ведаеш, што здарылася! — захліснула Яську былым матчыным гневам. — Гуркоў табе не хапала, ну! Схадзілі б у краму, перабіліся б памідорамі! Не, трэба было палезці да маёй маці! Хіба ты не ведаеш маю маці? Ды ў яе

кожнае печыва ў вазачцы падлічана, ты б толькі месцамі тыя слоікі памяняў, яна і тое заўважыла б!

— Цікавая прамова, — заўважыў Вадзік, не выказаўшы, аднак, тварам ніякай зацікаўленасці. — Яська, маленькая мая, ты лаешся на мяне за гуркі? За два слоікі не самых добрых гуркоў? — І ён рассмяяўся, быццам гісторыя выходзіла смешная, быццам заклікаючы пасмяяцца з гэтакай бязглуздзіцы разам з ім.

Яська пачакала, пакуль ён нарагочацца. Чакаць давялося доўга. Відаць, Вадзік не губляў надзеі, што Яська не вытрымае і далучыцца. Скончыўшы смяяцца, Вадзік рэзка стаў злы.

— Гэта ўсё? — спытаў ён.

— Гэта ўсё, — адказала Яська і адвярнулася. За спіной грымнулі дзверы. Яська вярнулася дахаты і ціхенька зачыніла свае.

Наступныя некалькі тыдняў яны не размаўлялі. Вадзік, чамусьці перакананы, што іх канфлікт з Яськай вычарпаны мінулым кароткім дыялогам, спрабаваў грукаць у дзверы, калі Ясьчыных бацькоў не было дома, тэлефанаваць, падпільноўваць яе на лесвічнай пляцоўцы.

Яська мужна трымалася: не адчыняла дзвярэй, не затрымлівалася на лесвіцы, не падымала слухаўку, убачыўшы суседскі нумар. Не тое, каб яна вырашыла з ім парваць, не, яна чакала, змагаючыся са смуткам і сумневам, што Вадзік зразумее і неяк прыгожа, чароўна выправіцца.

Хутка Ясьцы давялося пабачыць чароўнае Вадзікава выпраўленне: выходзячы з ліфта, яна твар у твар сутыкнулася з новай Вадзікавай сяброўкай — доўгай, фігурыстай дзеўкай з моднай асіметрычнай грыўкай, пад якой хавалася паўтвара. Ясьчыны паўтвара, тым часам, былі схаваныя за тоўстай, нязграбнай зімняй шапкай, якая спаўзла на вочы і прымяралася, ці не працягнуць свой пераможны шлях да носа. Вадзік, які адначасова адчыняў дзверы і заляцаўся

да грыўкі, на Яську не звярнуў ніякай увагі і нават ляпнуў бы дзвярыма перад яе носам, калі б грыўка іх клапатліва не падтрымала:

— Асцярожна, задушыш дзяўчынку, — засмяялася яна, прапускаючы Яську наперад.

Яська стралой праляцела да сваёй кватэры, падзякаваўшы шапцы, што тая схавала пачырванелыя ад пагарды вушы.

Яшчэ праз месяц, калі Яська сур'ёзна забараніла сабе ўсялякія думкі пра Вадзіка, раннім зімнім вечарам ён зноў пагрукаў у дзверы.

— Хто там? — па-дурному спытала Яська, быццам маглі быць варыянты.

— Яська, — застагналі пад дзвярыма. — Яська, мне так дрэнна, здаецца, я паміраю.

Не паверыўшы, але ўсё роўна спужаўшыся, Яська адчыніла дзверы і ў першы момант нікога не ўбачыла. Толькі параўёўшы позірк на падлогу, яна заўважыла Вадзіка, які валяўся на парозе, апрануты ў белую кашулю. Кашуля была разарваная на спіне, са спіны тырчала сякера, ад якой па ўсёй белай паверхні былі раскіданы чырвоныя плямы.

Хвіліна спатрэбілася Ясьцы, каб апрытомнець ад першага прыступу жаху, прыгледзецца і зразумець, што сякера ўсаджана не ў спіну, а ў драўляную дошчачку, прыматаную да спіны, што чырвоныя плямы не кроў, а, хутчэй за ўсё, гуаш, і, галоўнае, што Вадзік не паміраe, а зноўку здзекуецца.

Гэтую хвіліну Вадзік уважліва, прагна назіраў за Ясьчынай рэакцыяй.

— А ты яшчэ кахаеш мяне, малая, — задаволена адзначыў ён. — Ат, якое расчараванне для тваёй маці.

— Прыдурак! — сказала яна, зачыніўшы дзверы.

З гэтага моманту Ясьчына памяць зноў здраджвае ёй. Здаецца, хадзіла ў школу, вучыла ўрокі, наведвала валей-

больную секцыю па выходных. Здаецца, разам з бацькамі ездзіла на мора, там з кімсьці цалавалася ў гарачай начной цемры: у галаве ні засталося ні вобраза мора, ні вобраза недарэчнага хлопца. Здаецца, згарэла на сонцы так, што апошнія дні прачыналася, абсыпаная з ног да галавы акраўкамі спаленай скуры. Ці, можа, гэта згарэла маці, а Яська з руплівай аднастайнасцю абдзірала ёй спіну па вечарах? Дні праходзілі па датычнай, быццам сонечныя прамяні зімой, не пакідаючы ад сябе ні цяпла, ні добрых успамінаў.

Такім чынам Яська дайшла да таго вечара, калі адна з сябровак, якімі яна паспела абзавесціся ў сваіх больш-менш удалых спробах забыць старых сяброў, патэлефанавала ёй з нечаканымі навінамі.

— Уяві, мяне цяпер бацька будзе сустракаць са школы! — заявіла сяброўка такім тонам, быццам адна думка пра сустрэчы з бацькам выклікала ў яе неймаверныя пакуты. — Я яму кажу: «Тата, мяне ў школе засмяюць», а ён такі: «Хай смяюцца, мне здароўе дачкі даражэйшае». Ну, я, зразумела: «Якое яшчэ здароўе, я з другога класа вяртаюся дамоў адна», а ён: «Цяпер сітуацыя змянілася». Карацей, выцягнула я з яго, што там за сітуацыя. І ведаеш, што? Кажа, у нас на раёне завялася банда! — тут голас сяброўкі сарваўся на захоплены піск дзіцяці, якое вырасла ў роўных долях на матчыным малацэ і серыяле «Бандыцкі Пецярбург». — Тата кажа, яны падлавілі сына яго калегі, Віцьку. Ну, Віцьку, ну з дзясятага «Б», Віцька-Слановыя-Вушы, памятаеш? Дык вось, яго абакралі і пабілі! І, галоўнае, Віцька — хлопец разумны, ведаў, што з бандзюкамі лепш не спрачацца, ён адразу ім усё аддаў, нават «Нокію» сваю даражэнькую, а завадатар банды ўсё роўна быў незадаволены, і як пачаў лупцаваць Віцьку бітай, што ён дагэтуль ляжыць у бальніцы з кучай пераломаў, і, напэўна, з псіхалагічнай траўмай. Так што я такая: «Добра, тата,

добра», а то яшчэ, праўда, зламаюць нос, і куды я потым са зламаным носам, хіба што вершы пісаць!

— А твары... твары бандзюкоў Віцька бачыў? — ціхенька запыталася Яська.

— Не, якія твары! Цёмна, ды і яны не дурні, маскі паапраналі.

— Можа, яны не з нашага раёна? Можа, і не з нашага горада!

— Як жа, не з нашага! — пакрыўдзілася за гонар роднага горада сяброўка. — Тата сказаў, не адзінкавы выпадак. Вядзецца следства. Шманаюць зараз усіх пацаноў як трэба.

Яська хуценька скончыла размову. Пасядзела перад тэлефонам, паразглядала рукі.

Не можа быць. Адна справа — павукі ў валасы, гуркі ў суседскай шафе, іншая — пабіць чалавека! Не, ён не такі, ён не стаў бы. Вельмі захацелася пабегчы да Вадзіка, зазірнуць у вочы, спытаць: «Гэта ж не ты, не ты?» Убачыць здзіўленне, хай і крыўду: як яна магла падумаць, ды што ён зусім жывёліна якая бязмозглая, каб рабіць такія рэчы, ды гэта ўсё Ясьчына маці, развяла са сваімі гуркамі важданіну, так ён цяпер ва ўсіх злачынствах свету вінаваты!

Пабегчы Яська не пабегла, але і без справы сядзець не стала. Па-першае, дачакаўшыся, калі суседзі сышлі на працу, а Вадзік — у тэхнікум, абшукала калідор, залезла ва ўсе шафы, ва ўсе пыльныя куты па-за шафамі, сунула нос ва ўсе падазроныя цэлафанавыя пакункі. Чыста, ніякіх слядоў, ніякіх знаходак, акрамя аблезлых вусцілак і спісаных сшыткаў. Па-другое, завяла дзённік Вадзікавых вяртанняў дадому. Дзённік вёўся з перабоямі, хаця Яська і тырчала дні напралёт каля акна, назіраючы за падзеямі ў двары, але час ад часу ў пакой заглядвала маці, і прыходзілася адцягвацца, імітаваць няспынную вучобу. Іншы раз Вадзік вяртаўся зусім позна, і такія дні Яська абводзіла ў чырвоны кружочак, каб потым разведаць, ці не адбывалася ў той час

ніякіх нападзенняў. На жаль, сяброўка больш не вярталася да балючай тэмы, а самой Ясьцы спытаць было страшна.

Але мітусіцца, як высветлілася, не было чаго, бо праўда кінулася Ясьцы ў вочы, не пытаючыся яе жаданняў.

У адзін дзень, выходзячы з ліфта, Яська заўважыла Вадзіка, які, спяшаючыся, спускаўся з лесвіцы. Яны жылі на дзясятым паверсе, таму адзінае месца, куды Вадзік мог хадзіць, каб потым спускацца, было дахам. Люк, які вёў на дах, запіраўся, але ключы былі ў многіх, у тым ліку і ў Ясьчыных бацькоў. І ў Вадзікавых.

Яська, зрабіўшы выгляд, што нічога не заўважыла, нырнула да сябе ў кватэру. Без мітусні, але хуценька, каб Вадзік не паспеў зазірнуць ёй у вочы, не паспеў пачуць, як шумна грымкае сэрца, прадчуваючы непазбежнае, яна праскочыла ў калідор першай, першай зачыніла дзверы ў кватэру. Дома Яська хуценька знайшла ключ, які бацькі нават не хавалі, не чакаючы ад сваёй дачкі правіннасцей горшых за нядбайна выкананую хатнюю працу, і засела каля дзвярэй, чакаючы. Прайшла гадзіна. Вадзік не пакідаў кватэры. Яська рашылася. Апранулася, як на вуліцу, шапка — куртка — зімовыя боты, для праўдападобнасці накінула на плячо блакітны заплечнік, каб, калі сутыкнецца з Вадзікам у дзвярах, зрабіць выгляд, што ідзе кудысьці па звычайных справах, ніяк не звязаных з дахам.

Вылезла на дах незаўважанай. На вуліцы дзьмуў моцны вецер. Яську трэсла, ці то ад холаду, ці то ад думкі, што раптам на дах выйдзе Вадзік, убачыць яе і пакарае, каб непанадна было, каб не ўтыркала свой нос, куды не трэба, каб слухалася дарослых. Ці раптам ён выйдзе на двор, зірне на дах і заўважыць Яську!

Спуджаная сваёй фантазіяй, яна апусцілася на каленкі і папаўзла па бітуме. Нагам стала яшчэ халадней, але Яська, стараючыся не думаць пра холад, пра небяспечную вышыню, уважліва ўглядалася ў кожны сантыметр пад са-

бой. Прапаўзла каля некалькіх расхістаных, парыжэлых ад часу антэн, напэўна, пакінутых на даху яшчэ да Ясьчынага нараджэння. Ледзь не ўспарола калена пагнутым цвіком, які валяўся на бітуме, чакаючы нечую голую ступню ці летуценную спіну.

Толькі і знаходак, што гэты цвік ды пара-тройка недапалкаў: дастаткова, каб правесці строгую размову з жыхарамі дома наконт парадку ў месцах агульнага карыстання. Недастаткова, каб зразумець, што рабіў на даху Вадзік.

Амаль супакоеная, трымаючыся на адным жаданні давесці справу да канца, Яська падпаўзла да вентыляцыйнай шахты і заўважыла на яе паверхні жалезную пятлю, а на пятлі — прыматаную тонкую лёску, якая ўваходзіла ў шахту і хавалася недзе ў яе глыбіні. Яська, дзеля цікавасці, пацягнула за лёску і пачула, што на канцы лёскі вісіць нешта цяжкае. Яна прыпаднялася для зручнасці і пачала намотваць лёску на руку. Праз хвіліну ў яе руцэ апынуўся чорны, непразрысты цэлафанавы пакунак.

Хваля дрыжыкаў прайшла па Ясьчыным целе. Радасць знаходкі (яна не дурніца, яна змагла, яна знайшла) змяшалася з неразуменнем, што правільна зрабіць далей. Не развязваючы пакунак, яна акуратна вярнула яго на месца. Выпаўзла з даху, як магла, ціхенька зачыніла люк. Збегла па лесвіцы ўніз, прэч ад дома, прэч ад небяспечнага пакунка. Дабегла да таксафона, заазіралася па баках, ці не глядзіць хто.

Людзі вакол адварочвалі твары ад ветру, хаваліся ў шалі, у шапкі, спяшаліся да дому ці па справах і не звярталі ніякай увагі на Яську. Тое, што трэба.

Яшчэ некалькі хвілін Яська вагалася. Яна не вагалася б, калі б справа была толькі ў справядлівасці, калі б адзінае, чаго жадала Яська, гэта пакараць злодзея і пасадзіць яго ў турму, калі б яна адчувала неабходную здраду выключна як свой грамадзянскі абавязак. Але не было ў яе ніякіх

грамадзянскіх пачуццяў у адносінах да Вадзіка. Былі зусім іншыя, выпешчаныя першымі дзіцячымі гадамі. Вось Вадзік залазіць ёй на спіну, не шкадуючы, націскае нагамі па баках: «Но, конік!» Вось Яська плача, зачыненая ў Вадзікавай кватэры, а ён, упэўнены ў сваёй сіле і праваце, нешта вярзе пра справядлівае пакаранне за яе непаслухмянасць. Вось яны гуляюць у карты, і Вадзік страшна мухлюе і пасля выйгрышу кажа: «Я заўсёды на крок наперадзе». І тут наперадзе апынулася Яська. Ёй не трэба зараз ляцець з усіх ног, каб паспець зачыніць дзверы кватэры перад Вадзікавым носам. Яна можа зачыніць іх па-іншаму і на куды даўжэйшы тэрмін. Яна можа выйграць. Ён жа сам кожны раз паўтараў, гэта толькі гульня. Толькі гульня. Яго час выкручвацца.

Яська падняла трубку, упэўнена набрала лічбы: «Добры дзень, я знайшла падазроны чорны пакунак на даху дома. Думаю, гэта звязана з тымі абрабаваннямі, якія адбываліся ў апошні час. Я магу назваць адрас, але не магу назваць імя».

Пакінуўшы таксафон, Яська доўга цягалася па дварах, баючыся вяртацца дамоў, баючыся ўбачыць вынік сваіх дзеянняў. Прамерзшы да самых касцей, яна адважылася павярнуць да дома і ў познавячэрняй цемры сутыкнулася з Вадзікам, якога ў кайданках выводзілі з пад’езда.

Уцягнуўшы галаву ў плечы, Яська неадрыўна назірала за ім, пакуль ён не заўважыў. А заўважыўшы, не ўсміхнуўся так, што ў Яські адлягло ад сэрца. Ён разумее. Ён не злуецца.

— Ты будзеш чакаць мяне, Ясечка? — паспеў крыкнуць ён, пакуль раззлаваны міліцыянт не націснуў яму на галаву, каб хутчэй садзіўся ў машыну і не пужаў дзяцей.

Машына ад’ехала. Яська яшчэ пастаяла каля пад’езда, змерзлая да таго, што ўжо і не адчувалася, спустошаная, быццам машына вывезла яе жывы стрыжань, механізм,

якім яна прыводзілася ў рух, як лялька нашчадка Туці. За хвіліну яна вырашыла, што з’едзе ад бацькоў, як толькі скончыць школу. Ніколі не вернецца. І ніколі не ўзгадае.

Амаль усё атрымалася. Яська скончыла школу, зняла кватэру, паступова скараціла частату сустрэч з бацькамі, хаця і давялося наслухацца і пра дзіцячы эгаізм, і пра адрэзаную лусту.

І толькі бясконцыя, дакучлівыя жахі, не знішчальныя ніякімі пігулкамі, пракрадаліся ў кожную яе ноч, каб нагадаць, каб падкрэсліць, што Яськы ніколі не стаць сапраўдным пераможцам.

## Частка чацвёртая, якая ніяк не можа скончыцца

Мінулы нядоўгі алкагольны вопыт падказваў Лёлі, што ёсць ночы, пасля якіх лепш не прачынацца. А калі меў неасцярожнасць прачнуцца — лепш не прыпамінаць, чым скончыўся ўчарашні вечар, калі не хочаш, каб па ўсім целе прайшлі дрыжыкі гідлівасці да самога сябе. Цікава, ці адчуваў тое самае бацька, калі прачынаўся раніцай на канапе, апрануты ў памятую кашулю (бо п’яныя ставяцца да ідэі распранацца нанач, як звычайныя людзі да чысткі зубоў зубной ніткай — эфектыўнасць працэдуры занадта перабольшана ў параўнанні з прыкладзенымі высілкамі). Ці ўспамінаў ён учарашні дзень з пачуццём сораму і няёмкасці, ці даваў сабе зарокі, што тое быў апошні раз, што больш ніколі, што сёння будзе дзень, з якога пачнецца яго новае, чыстае-светлае жыццё. Самае светлае. Самае чыстае.

Лёля такія зарокі давала. Не толькі, калі піла (гэтыя часы скончыліся хутка, без усялякіх намаганняў сілы волі: у адзін момант Лёлін арганізм перастаў успрымаць алкаголь, мацнейшы за дваццаць градусаў, муціла нават ад паху крэпкіх напояў, так што Лёля без асаблівага расчаравання перайшла на келіх віна ў святочныя дні). Але пачуццё гідлівасці ад пагана праведзенага дня прыходзіла да яе і пасля цвярозых вечароў: сумленне, якое прыснула вечарам і дазволіла Лёлі крыху пабыць самой сабой, раніцай прачыналася дасканала інфармаваным пра ўсе дурныя Лёліны ўчынкі і грызла з поўнай сілай — як усякая істота, якой далі добра выспацца.

Прачнуўшыся раніцай пасля дзіўнай гульні ці то па матывах класікаў, ці то па матывах шалёнай фантазіі сцэ-

нарыстаў, з зарокаў Лёля і пачала: госпадзі божа, больш ніколі, ніколі не імкнуцца выглядаць горш, чым ёсць насамрэч. Не смакаваць свае грахі, як смакавала ўчора, апавядаючы пра свой самы дрэнны ўчынак. Ёсць дакладны ўзрост, пасля якога нямодна быць дрэнным, пасля якога дзеці прыбіраюць са сваёй мовы мацюкі, здымаюць з ног армейскія чаравікі і пачынаюць абсталёўваць кватэру згодна з прынцыпамі хюге — і Лёля даўно пераступіла гэты ўзрост. Шкада, што розуму ад гэтага так і не набралася.

Затое як мудра зрабіла Каця! Трэба павучыцца. Праспявала просценькую гісторыю, як накарміла хамячка навагоднім аліўе, без усялякай задняй думкі, акрамя жадання падараваць дурной жывёліне навагодні настрой, як потым плакала, калі праз два дні хамячок памёр, як пахавала яго ноччу на могілках каля школы — побач з незнаёмай бабуляй з добрымі вачыма, калі фота на помніку не хлусіла. Недарэчная, смешная гісторыйка. Самае сур'ёзнае, што пасля яе мог вырашыць для сябе Слава — ніколі не дарыць хамячкоў іх з Кацяй будучым дзецям.

Ясьчына гісторыя выйшла куды больш шчырай, але таксама не дрэннай — «мама, я пакахала бандыта». Стары сцэнарый, нічога новага: добрыя дзяўчынкі, дрэнныя хлопчыкі, справядлівасць святкуе перамогу.

І Лёля. Са сваёй няёмкай, непрыгожай праўдай. Са сваім сямейным побытам, ад якога ўсе прыстойныя людзі, вырастаючы, адракаюцца: аднапакаёвыя кватэры, бацькі-п'яніцы, васямнаццацігадовае глупства — гэта ўсё было не з імі, з іншымі, працей уладкаванымі людзьмі. Прыстойныя людзі адразу нараджаюцца прыстойнымі альбо паспяхова сціраюць з памяці тыя часы, калі былі не-. І гэта правільна і не сорамна: бо як жыць, калі памятаеш, хто ты ёсць насамрэч, адкуль ты ўзяўся і дзе твае карані, як не паміраць кожнае імгненне ад сораму, роспачы і зайздрасці. Лепш забыцца.

Пасля конкурсу, як і ў ранейшыя разы, Слава выступіў па рацыі з невялікай прамовай.

— Дзякуй, дзевачкі, за вашу адкрытасць. Ідэальных людзей не існуе, ёсць не да канца шчырыя. Я быў бы вельмі расчараваны пачуць, што нехта тут прэтэндуе на пасмяротную кананізацыю — такіх самотных дзяўчат мне хапіла і да пачатку гэтага праекта. Але ж мне трэба добра падумаць, каго паклікаць на наступную сустрэчу: хто быў адначасова і самы шчыры, і не самы бессаромны — наперадзе незвычайнае спатканне, і мне важна не памыліцца. Заўтра вы даведаецеся пра маё рашэнне. А пакуль — добрых сноў і шукайце раніцай белы канверт.

У сне Лёля знаходзіла белы канверт бясконцую колькасць разоў. Пакінуты на драўлянай тумбачцы побач з ложкам, прыткнуты за люстэрка ў прыбіральні, акуратна пакладзены пасярэдзіне дывана на выхадзе з пакоя. Кожны раз, прачынаючыся ад кароткага сну, Лёля з расчараваннем разумела, што, па-першае, да раніцы яшчэ далёка, па-другое, раніцай ёй пасля такіх прызнанняў чакаць няма чаго. А канверты ўсё роўна працягвалі сніцца.

А палове на восьмую ў дзверы пагрукалі. Лёля паднялася з ложка, не вельмі добра разумеючы, ці яна прачнулася, ці гэта чарговая версія канвертавага сну. Схіляючыся да другога варыянту, яна нават не стала папраўляць валасы ці праціраць вочы: у сне можна трохі пабыць і феміністкай.

За дзвярыма стаяў Віця, па баках ад яго — два апаратары.

— Дарагая Лёля, шчаслівыя паведаміць, — пачаў ён з шырокай усмешкай на твары, але прыгледзеўшыся да Лёлі больш уважліва, усмешку падцёр і звярнуўся да апаратараў. — Хлопцы, спынілі здымкі. Наша дзяўчына тут крыху не падрыхтаваная.

— Ды мы бачым, — зарагатаў адзін з іх, але хуценька спыніўся, атрымаўшы ад Віці лёгкі штурхель. — Вядомая справа, раніца.

Лёля тым часам зрабіла крок назад і, выцягнуўшыся дыяганалькай, паспела вычапіць кавалак свайго адбітку ў люстэрку. 2:0 на карысць бязлітаснай рэальнасці.

— Дайце мне пяць хвілін, — папрасіла Лёля і зачыніла дзверы.

Праз сорак хвілін здымкі пачаліся. Хай Лёлінай рэакцыі на ўрачыстае ўручэнне канверта і не хапала патрэбнай ступені праўдзівай нечаканасці, але ж яна стаяла ў напрасаванай піжаме, каўтуны ў валасах былі расчасаныя, а лішкі смятаннай маскі пакінулі яе твар.

У гэтай мітусні Лёля не паспела нават як след парадавацца. Як не круці, а яна перамагла ў конкурсе, хай і перамога была з прысмакам сораму, яна ідзе на спатканне і хутка пабачыць таямнічага Славу, які, можа, і паспеў закахацца ў Кацю, але цэлы дзень правядзе з ёй, з Лёляй. Замест радасці Лёля тыпова па-жаночы хвалявалася, што Віця, пабачыўшы яе раніцай без макіяжу і прычоскі, больш ніколі не зірне на яе з той праніклівасцю ў позірку, з якой часам глядзеў раней.

— Выхад праз гадзіну, — паведаміў Віця па сканчэнні здымкаў. — Форма адзення — smart casual.

— Я хацела сукенку, — нясмела заўважыла Лёля. — Я спецыяльна яе рыхтавала, там такія рукавы валанчыкамі...

Віця цяжка ўздыхнуў. Памаўчаў. Позіркам спытаў, ты жадаеш са мной пра гэта пагутарыць? Услых жа толькі паўтарыў: «Праз гадзіну» і выйшаў з пакоя.

Лёля выкарыстала час так эфектыўна, як магла. Першыя пятнаццаць хвілін паўсхліпвала. Потым, узгадаўшы, што ад слёз набрынаюць мяшкі пад вачыма, пабегла шукаць патчы і кроплі для вачэй, адначасова перабіраючы ў галаве змесціва шафы: што магло б сысці за smart casual і пры гэтым не саступіць па рамантычнасці вобразу сукенкі з рукавамі-валанамі.

Праз гадзіну Лёля выйшла з катэджа, і валанчыкі на яе плячах гулліва падскоквалі, паўтараючы яе рухі.

На выхадзе Славы не знайшлося, але знайшлася машына, у якую пасадзілі Лёлю і павезлі ў невядомасць.

— Куды мы едзем? — асцярожна спытала яна ў кіроўцы.

— Сюрпрыз, — адказаў кіроўца і павялічыў гучнасць радыё, напэўна, каб больш не чуць Лёліных пытанняў.

У машыне было горача, і Лёліны рукі хутка сталі ліпкія ці то ад спякоты, ці то ад хвалявання. Чамусьці падумалася, што гэтаксама везлі на спатканне Соню, і дзе цяпер тая Соня. Але ж Каця вярнулася. І яна, Лёля, вернецца. Сукенка з рукавамі-валанчыкамі адназначна павінна праграміраваць рэальнасць на святло і дабро.

Высадзілі Лёлю каля двухпавярховага будынка, абгароджанага металічным плотам. За некалькі метраў ад яе стаялі аператары, а за імі пераступаў з нагі на нагу чарнявы хлопец са звязкай паветраных шароў у адной руцэ і напханым нябачным змесцівам пакункам у другой.

На браме будынка Лёля прачытала, што прывезлі яе ў інтэрнат. Які пераможца, такі і прыз, што тут зробіш.

— Я так разумею, усе гэтыя падарункі не мне, — пажартавала яна, падыходзячы да хлопца. Дадала ў вочы цяпла, каб праз іх не так відавочна адбівалася расчараванне.

Слава нават не ўсміхнуўся ў адказ. Толькі ветліва і халадна прывітаўся, растлумачыў для гледачоў, што прыехалі яны ў дзіцячы дом, што ў пакунку — дазволеныя суровымі інтэрнацкімі правіламі цацкі і садавіна і што ён будзе вельмі шчаслівы, калі Лёля дапаможа яму падараваць некалькі гадзін радасці бедным дзецям.

Валанчыкі на Лёліных плячах відавочна паніклі.

— З задавальненнем, — ціха адказала яна. — Дзеці — кветкі жыцця.

Слава кінуў на яе позірк, на самай глыбіні якога мільганула іскрынка весялосці, але ўслых спытаў сур’ёзным тонам:

— Бывала раней у дзіцячых дамах?

— Не, — шчыра адказала Лёля. І ўслед дадала няшчырае: — Але ж заўсёды хацела пабываць.

І нават сама пачула, якім хлуслівым і падхалімскім выйшаў яе адказ. Але праўда прагучала б яшчэ горш.

Насамрэч да дзяцей Лёля ставілася з асцярожнасцю. Нават да бяспечных, з бацькамі. Чорт іх ведае, пра што з імі гутарыць, як гуляцца. У кампаніях, дзе былі дзеці, Лёля заўсёды стаяла, як лялька са зламанымі ручкамі — не ведаючы, куды сябе падзець, адчуваючы сваю поўную, канчатковую несумяшчальнасць з маленькімі, мітуслівымі жывёлінамі, з гэтымі іх дзіўнымі пытаннямі, баязлівасцю незнаёмых дарослых, няведаннем простых правілаў чалавечых паводзін. «Будуць свае дзеці — зразумееш!» — казала маці, але Лёля час ад часу сумнявалася ў гэтай неадменнай праўдзе: а раптам не? Чаму іншыя разумеюць, не маючы яшчэ сваіх, а Лёлі толькі дзіка, і непрыемна, і вечна хочацца збегчы?

Пра інтэрнат і гаварыць няма чаго. Ад дзяцей з інтэрната Лёля чакала толькі самага кепскага: азлобленыя твары пакінутых зверанят, дарослыя слоўкі, якімі будуць кідацца шасцігодкі, а ёй, дваццаціпяцігадовай, прыйдзецца сарамліва апускаць вочы, тыповая дзіцячая бязлітаснасць, памножаная на два (па колькасці адсутных бацькоў), прыкрая бядняцкая хітрасць, шчодра выкарыстаная, каб атрымаць лішні шарык ці зефірку.

— Гатовая? — спытаў Слава, уважліва гледзячы на Лёлю.

Лёля кіўнула, і яны пайшлі.

Унутры будынак нагадваў дзіцячую паліклініку: тыя ж блакітна-ружовыя сцены з малюнкамі зайчанят, толькі без шапак з чырвонымі крыжамі на макаўках, той жа пазнавальны пах казённага памяшкання. Лёля скаланулася, уявіўшы, што дзеці праводзяць тут год за годам, пакуль

не атрымліваюць сваё афіцыйнае права на ўцёкі. Калісьці Лёля не магла дачакацца, калі збяжыць са свайго дома, але на фоне інтэрнацкіх дзяцей яна выглядала б проста дурной дзяўчынкай-падлеткам, якая бунтавала супраць бацькоў, не разумеючы, якое гэта шчасце, калі ёсць супраць каго бунтаваць.

Пакуль Лёля прыходзіла ў сябе, Слава выслухаў прывітальную прамову дырэктара, раздаў падарункі і за лічаныя хвіліны паспеў схіліць дзяцей на свой бок. Яна толькі заняла звыклую пазіцыю «я не ведаю, куды дзець свае рукі», а ён ужо гуляў з нейкімі пацанамі ў футбол, нешта прыемнае крычаў маленькім дзяўчынкам, якія назіралі за ім з разяўленым ад захаплення ротам, смяяўся і запаўняў сваёй весялосцю ўвесь пакой.

Лёля і сама назірала за ім вачыма, якія мала чым адрозніваліся ад вачэй маленькіх дзяўчынак.

Ёсць хлопцы не горшыя і не лепшыя за іншых: тыя ж рукі-ногі, можа нават нос бульбінай ці вушы тарчма, але чуецца ад іх першабытная моц, упэўненасць. Пра такога ведаеш, што яго рука заўсёды будзе наперадзе, што за яго не прыйдзецца тэлефанаваць на працу ці запісваць на прыём да тэрапеўта ў паліклініцы. Такі хлопец, пра якога марыць кожная дзяўчынка, зняволеная ў сваёй уяўнай вежы: прыйдзе, забярэ, а табе застанецца толькі абмахваць пышныя грудзі карункавым веерам.

Рукавы-валанчыкі на Лёлінай сукенцы акрыялі. «Трэба нешта рабіць!» — вырашыла яна. Выбрала вачыма дзяўчынку з самым мілым тварам, якая здавалася на дзесяць сантыметраў вышэйшай за кошт двух гіганцкіх бантоў, кожны — большы за мужчынскі кулак. Падышла да яе, няёмка прысела, на імгненне пашкадаваўшы, што не надзела шорты: рамантычныя сукенкі слаба падрыхтаваны да сядзення на падлозе.

— Як тваё імя? — спытала Лёля першае, што прыйшло ў галаву. Здаецца, так пачынаюць гутаркі з дзецьмі.

Дзяўчынка паглядзела на Лёлю спуджанымі вачыма і нічога не адказала. Лёля занервавалася.

— Мяне завуць Лёля, — працягнула яна, шукаючы прыкметы разумення на дзіцячым твары. Можа, яна хворая? Можа, яна не ўмее гаварыць? — Запомніла? Ці... ці табе цяжка?

У позірк дзяўчынкі дадалося адценне, якое Лёля не зразумела.

— Можа, пагуляем? — за спінай у дзяўчынкі Лёля заўважыла лялек і пацягнулася па іх праз дзіцячы плячук. — Якія з іх твае?

— Ніякія, — адказала дзяўчынка і заплакала. Лёля мітусліва заазіралася па баках, ці бачыць Слава яе аглушальны правал. Слава па-ранейшаму ганяўся за мячом і, здаецца, зусім не глядзеў у Лёлін бок. У іншым выпадку, такое абыякавае стаўленне вельмі сапсавала б ёй настрой, але цяпер гэтая наўмысная ці выпадковая няўважлівасць здавалася неверагодным шанцаваннем.

— Зефіркі! — амаль ускрыкнула Лёля. — Будзеш зефірку? Мы прывезлі многа!

Дзяўчынка перастала плакаць, але, як высветлілася, не ад вялікай любові да кандытарскіх вырабаў.

— Фламастары, — кіўнула малое ў бок дзяўчынак, якія нешта захоплена малявалі за сталом новенькімі, прывезенымі Славам прыладамі. — Пойдзем маляваць. — І яна, учапіўшыся ў Лёлін рукаў, пацягнула яе да стала. Лёля рушыла ўслед, трымаючы на твары велізарную зацікаўленасць. Маляваць яна не ўмела. Ну, можа, ад яе гэта і не патрабуецца. Можа, дастаткова будзе толькі хваліць.

— Што будзеш маляваць? — спытала Лёля, калі яны ўладкаваліся за стол.

— Маці, — адказала дзяўчынка і нават кінула на Лёлю хуткі здзіўлены позірк. Што за недарэчныя пытанні?

— Добранька, — згадзілася Лёля. Не спрачацца ж з дзіцём! Хаця, здаецца, кветкі ў яе атрымоўваліся лепш.

— Гэта твой жаніх? — спытала другая дзяўчынка за сталом. Лёля не здзівілася, пачуўшы дарослыя інтанацыі ў яе голасе.

— Не толькі мой, — шчыра адказала яна, і дзяўчынкі засмяяліся.

— У нас тое самае, — заўважыла ўсё тая ж дзяўчынка з дарослым голасам. — Выбіраеце сабе каго?

На хвілінку Лёля разгубілася. Размова нагадала ёй яе стары страх кансультантаў у краме. «Добры дзень, магу я нечым вам дапамагчы? Нам прывезлі новых дзяцей, найвышэйшы гатунак, думаю, разбяруць за некалькі дзён, хапайце, пакуль яшчэ засталіся».

— Не, — паматала галавой Лёля. — Мы… так.

Дзяўчынка з бантамі на імгненне заціхла над паперай, а пасля хуценька скамячыла свой малюнак. Лёля паспела пабачыць толькі крываватую фігуру, апранутую ў сукенку з рукавамі-воланчыкамі.

— Тады навошта?

Прапазіцыя «Падарыць бедным дзецям некалькі гадзін шчасця» ніяк не вязалася ні з тварамі дзяўчынак за сталом, ні з самой Лёляй як меркаванай праваднiцай добрых пачуццяў.

— Я не ведаю, — прызналася Лёля, быццам знаходзілася не ў кампаніі дзяцей, а ў кампаніі сяброўак, якім можна выказаць душу. — Я не ведаю, што яму ад мяне трэба.

І раптам ледзь не расплакалася сама. Ды хіба яна вінавата, што не любіць дзяцей, што не ведае, як сябе з імі паводзіць! Яна марыла пра мужчыну, які яе пакахае, і пра дзяцей — як вынік, як абавязковы элемент сям'і на свя-

точных фотакартках, а не як пра выпрабаванне, праз якое трэба прайсці, каб даказаць, што яна вартая шлюбу.

— Прыгожыя валасы, — з незразумелым для Лёлі шкадаваннем у голасе заўважыла дзяўчынка з бантамі, праводзячы сваёй маленькай далонькай уздоўж Лёлінай пышнай шавялюры.

Лёля разгублена падзякавала і, відаць, тым самым падштурхнула малое да больш сур'ёзных дзеянняў. На хвіліну дзяўчынка знікла, а вярнулася ўжо з вялікім драўляным грэбенем і дзвюма заколкамі з намаляванымі на іх жукамі.

— Гэта для мяне? — здзівілася Лёля, але адмаўляцца было і позна, і небяспечна: а раптам малое зноў заплача і Слава заўважыць? Не, лепш перацярпець.

— Ты толькі пастарайся, — папрасіла Лёля. — Каб яму спадабалася.

Банты сур'ёзна кіўнулі, а дзяўчынкі за сталом для малявання фыркнулі і абмяняліся паміж сабой ціхай думкай, якую Лёля праз агульны шум у пакоі не пачула. Мабыць, гэта і да лепшага.

Праз некалькі гадзін выпрабаванняў Лёлінай цярплівасці акт міласэрнасці, нарэшце, падышоў да канца. Слава сардэчна развітаўся з дзецьмі. Лёля таксама памахала ручкай.

Апынуўшыся зноў на свежым паветры, яна ледзь чутна выдыхнула.

— Не спадабалася табе ў інтэрнаце? — спытаў Слава.

— Своеасаблівая атмасфера, — асцярожна заўважыла Лёля. — Мы зараз вяртаемся дамоў?

— Так, — суха адказаў Слава.

У машыне яны доўга маўчалі. Лёля марыла, каб дарога хутчэй скончылася, каб хутчэй паздымаць недарэчных жукоў з валасоў, расплесці няроўныя косы, пазбавіцца сукенкі — яшчэ адной сведкі яе чарговай сардэчнай няўдачы.

— Я толькі аднаго не разумею, — нарэшце парушыў цішыню Слава. — Сям'я, дзеці — ці гэта была не твая мара?

— Мая сям'я, — удакладніла Лёля. — Мае дзеці.

— Для пачатку нядрэнна папрактыкавацца і на чужых — а раптам зразумееш, што гэта не тваё.

Лёля, якая дагэтуль глядзела ў акно, рэзка павярнулася:

— Што не маё? Нармальнае жыццё? Чым я горшая за іншых?

— Гэта не пытанне, хто горшы. Проста не кожнаму трэба сям'я і асабліва дзеці. І важна гэта добра зразумець пра сябе раней, чым зробіш кагосьці нешчаслівым.

Слава палез у кішэню, выцягнуў адтуль гаманец, а з яго — невялікую фотакартку.

— Мае бацькі, — паказаў ён пальцам на поўнага мужчыну з залысінамі і жанчыну са строгай гулькай на галаве. — Яшчэ з дзяцінства я зразумеў, што яны ажаніліся, бо так было трэба. Мы ніколі не былі сапраўднай сям'ёй. Маці глядзела на мяне, як ты сёння на тую маляўку з банцікамі: быццам не ведала, што са мной рабіць, быццам не разумела, адкуль я ўзяўся і ў чым мая функцыя. Мыйны пыласос — гэта зразумела. Чубаты падлетак-забіяка — гэта па-за межамі звычайнай схемы. Другая справа — малодшы брацік. Вось на каго вылілася ўся бацькоўская любоў, вось з кім паняньчаліся, гадуючы ідэальнага прадстаўніка грамадства! Напэўна, баяліся, што вырасце яшчэ адзін, падобны да мяне. А лепш быў бы, як я, чым паслухмяны баязлівец.

— Але ў цябе была яшчэ і сястра, — заўважыла Лёля, маючы на ўвазе маленькую дзяўчынку ў жоўтым касцюмчыку, з дзіркай каля ключыцы, якая трымала Славу за руку і глядзела на іх з фотакарткі напужанымі дзіцячымі вачыма.

— Гэта не сястра, — усміхнуўся Слава. — Суседка. Мы сябравалі. Але ты маеш рацыю: у нейкім сэнсе яна і была маёй адзінай сям'ёй. Пакуль таксама мне не здрадзіла.

## Частка пятая, у якой адны паляць купальскія вогнішчы, а другія цярпліва вісяць на дрэвах

Напрыканцы другога тыдня Яська заўважыла за сабой, што паступова губляе тое пачуццё часу, што так старанна заточвала да вастрыні ляза ўсё сваё дарослае жыццё да праекта. Іншы раз яна спускалася ўніз да толькі што накрытай вячэры, на хвілінку выпадала з дыялогу з дзяўчатамі, задумаўшыся ці проста папраўляючы вопратку, а потым, вярнуўшыся ў рэчаіснасць, заўважала, што дзяўчаты даўно павячэралі і разышліся, і яна сядзіць адна за сталом перад талеркай з астылай кашай. І, наадварот, прачнуўшыся сярод ночы, каб праверыць, што дзверы ў пакой па-ранейшаму адчыняюцца, а праз акно бачны месяц, а не цагляны мур, яна доўга варочалася, шукаючы спосаб вярнуцца ў ратавальны сон, ганяючы па коле адны і тыя ж думкі, а потым, глянуўшы на гадзіннік, разумела, што ўвесь працэс заняў толькі пяць хвілін.

Апошнім пунктам апоры, за які Яська трымалася, што сімвалізаваў хоць і нязначны, але наяўны кантроль над часам, былі пад'ёмы а шостай раніцы дзеля штодзённай прабежкі. З кожным днём падымацца было ўсё цяжэй: вочы пасля пакутлівых начэй зліпаліся, цела, здавалася, пазбавілі неабходных мышцаў, адказных за пад'ёмы, але Яська мужна змагалася, нават калі, каб падняцца, ёй прыходзілася спачатку, закруціўшыся ў коўдру, скаціцца з ложка, каб хоць крыху прачнуцца і апрытомнець ад удару аб падлогу.

Прывыклая з дзяцінства да выбрыкаў памяці, Яська яшчэ магла дараваць сабе адсутнасць кантролю над ёю. Але адсутнасць кантролю над часам пужала яе. Яна пачала

весці дзённік, у якім старанна выводзіла дакладны час і свае дзеянні. Самым страшным было глянуць у дзённік а трэцяй гадзіне і зразумець, што апошні запіс меў месца ў 9.53, пасля чаго ні Ясьчына памяць, ні папера не захавалі прыкмет дзейнасці.

У гэтым жа дзённіку Яська пазначала вынікі сваіх назіранняў. Напрыклад, што васямнаццатага, дваццатага і дваццаць другога дня бачыла Лёлю каля катэджа, дзе жыў псіхолаг са здымачнай групай. Адзначыла, што вечарам дваццаць першага выпадкова застукала Кацю, якая перадавала ў рукі псіхолага складзены на манер ліста аркуш. Ноччу Яська вярталася думкамі да гэтых падзей, напружвала памяць, стараючыся аднавіць убачанае, спадзеючыся, што калі ўзгадаць усё верна, зможа супаставіць факты і ўсё зразумець. Здаецца, Лёля была разгубленай і збянтэжанай, а Каця, як заўсёды, пагардлівай і ганарыстай. Здаецца, Лёля кранала час ад часу вусны, а Каця правярала, ці чыстыя ў псіхолага рукі, перад тым, як перадаць яму аркуш. Але сутнасць убачанага хавалася ад Яські. У адзін момант ёй падалося, што ў гэтай прыгожа выбудаванай схеме яна адзіны лішні элемент, што ўсе так добра павязаны, і толькі яна, Яська, як заўсёды не справілася з задачай, не ўлілася ў калектыў, не счытала шыфраў. Яна засынала перакананай, што на наступны дзень пакіне праект, што дазволіць сабе адступіць, але прачыналася з думкай, што гэта прыгожая схема пабудавана дрэннымі людзьмі, з якімі Яська павінна змагацца і ад якіх яна не мае права збегчы.

Яшчэ адной прычынай, чаму Яська па-ранейшаму заставалася на праекце, была Соня. Як ні старалася, Яська не магла пазбавіцца пачуцця віны, не магла даравать сабе, што ў тую ноч, пачуўшы крык у лесе, не перакапала псіхолага, каб адчыніў браму, не прыйшла на дапамогу таму, хто на яе спадзяваўся. Гэта нагадала ёй выпадак з дзяцін-

ства, калі яна, маленькая, гуляючы з сяброўкай у бадмінтон, выпадкова закінула валанчык на дрэва і прапанавала сяброўцы падсадзіць яе, каб тая дастала з дрэва валанчык.

— А ты мяне не скінеш? — спытала тады сяброўка, і Яська, запэўніўшы яе, што будзе трымаць як трэба, усё ж такі паваліліся, не вытрымаўшы вагі, разам з сяброўкай на асфальт. Усіх страт было, што разбітае калена і пакінуты на дрэве валанчык, але ўвесь наступны тыдзень кожную сустрэчу з сяброўкай Яська пачынала з «даруй, я не хацела, я не ведала, што гэтак адбудзецца», чым раззлавала сяброўку настолькі, што тая паабяцала спыніць сваё сяброўства, калі яшчэ хоць раз пачуе ад Яські словы прабачэння. Здаецца, яна тады паскардзілася на недарэчны выпадак Вадзіку, чым неверагодна яе насмяшыла.

Зараз Яська адчувала, што разбітымі каленамі не абыдзецца, а прасіць прабачэння не было ў каго.

— Сёння купальская ноч.

Яська тузанулася, агледзелася. Здзівілася, заўважыўшы сябе за сталом побач з Лёляй і Кацяй.

Ці даўно яны тут сядзяць? І дзе нататнік?

Нататнік знайшоўся побач з талеркай. Апошні запіс у 7.30 раніцы асцярожна намякаў, што Яська зноў прапусціла некалькі гадзін свайго жыцця.

— Сёння купальская ноч, — паўтарыла Лёля.

Навошта яна гэта кажа? Яны абмяркоўвалі святы?

— Сказаў чалавек з крыжыкам на шыі, — падала голас Каця. — Я думала, Валодзя пакончыў з язычніцкімі святамі стагоддзяў дзесяць назад.

— Які Валодзя? — не зразумела Лёля, але адказ чакаць не стала. — Тут размова не пра Валодзяў. Я падумала... падумала... чаму б нам не зладзіць для сябе свята? Як у фільмах. Пойдзем вечарам у лес, напляцём вянкоў, распалім вогнішча.

«У лес!» — Яська і спужалася, і абрадавалася. З мінулага разу, калі яна безвынікова шукала Соню, Яська ў лес больш не вярталася. А раптам трэба, раптам выйдзе карысць!

— Браму на ноч зачыняюць, — заўважыла Яська ўслых. Стараючыся не паказваць, як моцна расхвалявалася, яна пацягнулася па салату, але лыжка ў яе руках па-здрадніцку падрыгвала.

— О, — абрадавалася Лёля такому лёгкаму аргументу. — За гэта не хвалюйся, я дамоўлюся з Віцем, ён дасць нам ключы.

«А мне не даў», — з крыўдай падумала Яська.

— Можа, лепш ты дамовішся з Віцем, каб ён даў нам ключы ад Слаўкавага катэджа? Вы пойдзеце ў лес (дарэчы, Яську даўно туды цягне, так, Яся?), я да Славачкі. І ўсе будуць задаволеныя.

Яська зірнула на Кацю. Некалькі імгненняў памаўчала, шукаючы правільны адказ. Трэба адказаць так, каб адначасова і адбіць ахвоту здзекавацца, і пераканаць Кацю, што ў лес ісці трэба. «Скажу — схадзі з намі, а раптам пацягне і цябе? Не, занадта груба. Лепш нешта простае, амаль чэснае. Скажу — я ўсё роўна дрэнна сплю апошнія ночы, чаму б і не схадзіць. Таксама нельга, Лёля і без таго перакананая, што ў Яські з галавой нешта не тое. Можа, што-небудзь банальна мілае? Па тыпу — утраіх будзе весялей, паваражым, пашукаем папараць-кветку...

— Я ўсё роўна дрэнна сплю апошнія ночы. Чаму б і не схадзіць.

Здаецца, яна хацела выбраць іншы варыянт.

— З гэтым трэба да Вікі Віка, а не ў лес. Хай выпіша табе кропелькі ад панічных атак.

— А табе — ад прыпадкаў з'едлівасці! — не раздумваючы, выпаліла Яська.

— Дзевачкі! — узмалілася Лёля. — Каця! Ну падумай, мы сядзім тут другі тыдзень, замест яскравых спатканняў у

нас дзіцячыя інтэрнаты і паходы на возера, замест цікавых спаборніцтваў — псіхалагічныя эксперыменты. Няўжо табе не хочацца трошкі абстрагавацца і весела правесці час? Я ж не прашу даваць прысягу на крыві ў вечным сяброўстве! Адзін вечар. І можаш далей кідацца здзеклівымі жартачкамі і намі пагарджаць.

«Вось, як трэба было сказаць! — захапілася Яська. — Не, ніколі, ніколі мне не навучыцца».

— Я так разумею, гэта падрыхтаваная прамова... Добра-добра, не трэба на мяне так глядзець. Хочаце ў лес — пойдзем у лес. Калі тут нехта ведае, як плесці вянкі і раскладаць вогнішчы. Асабіста маё дзяцінства абышлося без намётавай рамантыкі.

«Як цудоўна, што ўзяла з сабой запалкі!»

— Палкі-галінкі-запалкі, — сказала Яська, — і будзе табе вогнішча.

— А я магу ўсім траім вяночкі сплесці! — абрадавалася Лёля. — Каця, табе вельмі падыдзе вянок!

— Гучыць пагражальна, — заўважыла Каця, падымаючыся з-за стала. — Добра. Збіраемся ў восем. Яся, не праспі. Апошнім часам ты як быццам не з намі.

Яська міргнула раз, другі, а пасля трэцяга за сталом нікога не апынулася. Яна адсунула амаль поўную талерку, паднялася, каб пайсці да сябе. На паўдарозе ўзгадаўшы, што забылася на дзённік, вярнулася, сунула яго падпаху, кінула хуткі позірк у акно, на сад.

У садзе цвілі жоўтыя ружы. Хуткі ўспамін пранёсся перад вачыма і тут жа загінуў у небыцці. Здаецца, яны яшчэ нешта абмяркоўвалі за сталом. Нешта, звязанае з ружамі. Лёля распавядала пра сваё спатканне і згадала ружы. Ці не ружы. Чорт яго разбярэ. Трэба паспаць. Трэба вечарам быць падрыхтаванай і ўважлівай.

У пакоі, зашмаргнуўшы шторы і засунуўшы вату ў вушы, Яська ўрэшце заснула. Замест сноў яна бачыла

свае думкі. Дзіўныя, дакучлівыя, яны мітусіліся перад Ясьчынымі вачыма, патрабуючы ўвагі: на мяне паглядзі, не, на мяне! Яська круціла галавой, выхопліваючы кароценькія кавалачкі тэксту, складала з іх бессэнсоўныя фразы, выкідвала, хапала іншыя кавалачкі і нарэшце расставіла іх у правільным парадку. «Дык вось што!» — нарэшце ўцяміла яна. І прачнулася. У галаве было пуста. Ці забыўся правільны адказ. Ці забылася правільнае пытанне. Гадзіннік падказваў, што хутка час выходзіць. Яна гатова. Яна адчувае, што на гэты раз проста так з лесу не вернецца.

Яська спусцілася. На канапе сядзела, чакаючы, Лёля. Яська далучылася да яе.

— Можа, яна не прыйдзе? — з незразумелым жахам у голасе спытала Лёля. — Можа, яна несур'ёзна пагадзілася... Ты не заўважыла? Сур'ёзна ці не сур'ёзна?

— Сур'ёзна, — супакоіла яе Яська, якая да гэтага моманту ўвогуле забыла, якая ў Каці была інтанацыя. — Гэта ж Каця. Яна заўсёды доўга збіраецца.

Праз дваццаць хвілін чакання (і на гэты раз Ясьчын гадзіннік і ўнутранае пачуццё часу сінхранізаваліся, што Яська адзначыла для сябе як невялічкую, але важную перамогу) Лёля не вытрымала і пабегла наверх. Зверху пачулася незадаволенае:

— Ды іду я, іду, мы ж не ў краме ў чорную пятніцу — не разбяруць тvae папараць-кветкі!

І хутка на лесвіцы з'явіўся рэзкі, узбуджальны водар, які, па Ясьчыных назіраннях, заўсёды выбіраюць такія дзяўчыны, як Каця (сама Яська парфумай не карысталася — ад рэзкіх, касметычных пахаў ёй нярэдка станавілася млосна), за водарам з'явілася яго ўладальніца, Каця, а за ёй, расчырванелая, але задаволеная Лёля.

— І распачнецца свята! — з пафасам сказала Лёля, выходзячы апошняй з катэджа і замыкаючы дзверы.

— Спадзяюся, вернемся ўсе жывыя і без апёкаў ад скокаў цераз вогнішча. У мяне вымалёўваецца няхілая кар’ера на тэлебачанні, не хацелася б псаваць яе дэфектамі скуры.

«Спадзяюся, што вернемся ўсе», — падумала Яська пра іх чатырох.

У лесе амаль сцямнела. Сцежка была занадта вузкая для траіх, таму Яська час ад часу аказвалася ззаду, за спінамі дзяўчат. Дагэтуль яна не так часта бывала ў лесе па вечарах, і зараз здзівілася, што бліжэй да ночы лес не засынае, што ён жывы, ён стракоча, пахруствае, уздыхае і рэагуе на кожны крок няпрошаных гасцей.

Наперадзе Лёля з Кацяй вялі звычайную пікіроўку, і Яська ўсё старалася пасунуцца бліжэй, каб лепш чуць і менш думаць пра лес, але нават Кацiны жартачкі не дапамагалі Ясьцы пазбавіцца адчування, што за ёй нехта цікуе. Яна ішла, пастаянна азіраючыся, часам спынялася, калі бачыла непадалёку размыты сілуэт, прыжмурвала вочы ў марным спадзяванні ўбачыць больш, потым заўважала, што дзяўчаты адышлі значна наперад, кідала гэты безнадзейны занятак і паскарала крок.

Такім чынам яны выйшлі на паляну каля возера.

— Знаёмая палянка, — заўважыла Каця. — Здаецца, мы тут нядаўна нядрэнна са Слаўкам паплавалі.

— Так, — згадзілася Лёля, — бо вельмі зручнае месца для... Вельмі зручнае месца, каб добра правесці час.

— Вам не падаецца, што тут нечым смярдзіць?

Яська агледзелася. У час мінулага візіту яна паспела наведаць гэтую паляну, але зараз, у цемры, усё выглядала інакш. Быццам прастора звузілася, а возера, наадварот, працягнулася, і межы яго расплыліся. Гэтай ноччу ўсё ў лесе здавалася жывым, разумным і небяспечным, а возера — асабліва. Днём яно быццам знарок скурчвалася, уціскала галаву ў плечы, як няўпэўненая ў сабе асоба («Глядзі, чалавеча, я прызнаю тваю ўладу над сабой»),

затое ноччу плечы распраўляліся, няісны падбародак задзіраўся ўверх, і возера прымала выгляд істоты, гатовай дыктаваць свае ўмовы. І хай пасцеражэцца чалавек, які захоча яму пярэчыць.

— Трэба падсабраць вецце, — занялася арганізацыяй Лёля. — Яська, дапаможаш?

— І мы пакінем Кацю адну тут? — здзівілася Яська.

— О, маленькая, не хвалюйся, — адказала Каця, — усе лясныя пачвары прываблены толькі табой, мяне ніхто не кране. Тым больш, Лёля абяцала мне вянок. Якраз падсабяру кветак.

— Ну, як ведаеш, — паціснула плячыма Яська, старанна падаўляючы зайздрасць ад пачуцця гэтакай упэўненасці ў сабе.

— Я збіраю маленькае вецце для распальвання, — інструктавала Яська Лёлю па дарозе. — А ты буйнейшае, каб даўжэй гарэла.

— Дзякуй табе, Яся, — шчыра адказала Лёля, — што адразу падтрымала. Ведаеш, Віця прасіў нікому не гаварыць, але табе скажу, гэта вогнішча...

У гэты момант Яська ўбачыла пару жоўтых вачэй, што глядзелі на яе з цемры. Яна закрыла твар рукамі і закрычала.

— Што ты, што ты, дурная! — збілася са шчырага тону Лёля. — Ты чаго спужалася!

— Там! Вочы! Назіраюць! З самага пачатку! Я чула!

— Там нікога няма, Ясечка, — паспрабавала супакоіць яе Лёля. — Ты проста стамілася. Гэта нармальна. Многім людзям цяжка на тэлепраектах.

Яська думала, што ёй не цяжка на міфічных тэлепраектах, ёй цяжка на адным канкрэтным тэлепраекце, дзе знікаюць жанчыны і неспадзявана зачыняюцца дзверы, і далоні ад твару не ўбірала, пакуль не падышла Лёля і мякка не адвяла яе рукі ў бакі.

— Бачыш? Нікога няма. Гэта добры лес. Самы добры, самы бяспечны лес у свеце. Ты збіраеш маленькае вецце. Я — буйнейшае.

Яська схапіла Лёлю за руку і не расціскала яе, пакуль яны не вярнуліся на паляну. І маленькае, і буйнейшае вецце назбірала ў выніку Лёля, а Яська толькі падстаўляла сваю цішотку ў якасці кошыка. «Шкада цішотачку, — уздыхнула Лёля. — Можа, усё ж у рукі?», але Яська на гэта хітала галавой і толькі мацней сціскала далонь.

— Я чула, у лесе нехта крычаў, — заўважыла Каця па іх вяртанні. — Калі ў гэты час і цвілі папараць-кветкі, то ад такога крыку яны ўсе звялі.

— Я спужалася, — прабачлівым тонам растлумачыла Яська. — Мне падалося... Не важна. Мне нешта падалося.

— Гогаль на маім месцы сказаў бы: «Так-так, з гэтага моманту падрабязней», але не хочаш — не расказвай. У гэтым свеце і так занадта многа напісана, новая гісторыя можа стаць лішняй.

— Тады будзем проста скакаць цераз вогнішча, — прымірыцельна падагульніла Лёля. — Бяздумна і без усялякіх гісторый. Зараз Яська нам усё арганізуе.

Яська, удзячная, што больш не трэба апраўдвацца і растлумачваць, з ахвотай занялася арганізацыяй, паралельна прыслухоўваючыся да размовы.

— Не, ну тут насамрэч чымсьці смярдзіць, — не супакойвалася Каця. — У мінулы раз гэтага паху не было. Можа, так смярдзяць папараць-кветкі, каб іх хутчэй адшукалі? Не памятаеш, што пра гэта пісалі класікі?

— Не блюзнер, — строгім голасам папрасіла Лёля, чым выклікала толькі чарговы прыступ Кацінага смеху і новую порцыю жартачкаў.

Тым часам вогнішча пачало прыемна патрэскваць, у неба паляцелі маленькія іскрынкі. Яська адышла на пару крокаў палюбавацца сваёй справай. Ад цеплыні і святла

адразу стала ўтульней, так што Ясьцы і самой падаліся дурнымі і дзіцячымі яе папярэднія страхі і ўяўленні. Моцная радасць ад раптоўнага пачуцця сувязі з прыродай, з продкамі, з гісторыяй усяго свету нахлынула на яе. Як і стагоддзі назад, яна, дзяўчына, разам з іншымі дзяўчатамі здзяйсняе таямнічы рытуал, не ведаючы яго сэнсу, але верачы, што сэнс ёсць, што ён большы і шырэйшы за яе веды пра свет, і што варта толькі трымацца правілаў, і продкі самі прывядуць цябе туды, куды трэба, нават калі гэта «туды» хаваецца не знадворку, а ўнутры.

— Што, вось так возьмем і будзем скакаць? — спытала з сумневам Каця, у якой, відаць, сувязь з продкамі была значна слабейшай. — Нешта высакаватае полымя.

— Трэба разагнацца, — незнаёмым, нізкім голасам адказала Яська. — З разгону лягчэй узяць вышыню.

Але і Яська з месца не сыходзіла.

Лёля паглядзела на нерухома застылых дзяўчат, уздыхнула, падняла руку, быццам збіралася перахрысціцца, але на сярэдзіне шляху рука спынілася і абарвала жэст.

— Ну, у добры шлях! — разагнаўшыся і пацешна прыціснуўшы ногі, Лёля праляцела цераз вогнішча і прызямлілася з непрыемным хрустам.

— Ты ў парадку? — захвалявалася Яська, але па зазіхацеўшых вачах Лёлі прачытала, што і тая праніклася незвычайнасцю моманту.

— Выглядае дзікавата, але весела, — заўважыла Каця. — А ну-ка пасуньцеся, дзевачкі.

Каця скокнула з лёгкасцю, як птушка, быццам косткі яе былі лягчэй за паветра, і так жа прыгожа і лёгка кранулася зямлі.

Мабыць, упершыню Яська не падумала, як гэта несправядліва, што адны людзі вечна ўсё робяць недарэчна, а іншыя, за што ні возьмуцца, атрымліваецца прыгожа і добра, а толькі зачаравалася разнастайнасцю чалавечай прыроды.

— Ну, Яська, чаго ты чакаеш! — падбадзёрыла яе Лёля, якая, напэўна, памылкова вырашыла, што Яська баіцца.

А Яська не баялася, не, Яська расцягвала момант. Бо было адчуванне, што гэты скачок нясе ў сабе чарадзейства, што, магчыма, менавіта дзеля яго Яська і прыйшла на праект, што гэты скачок стане адказам на ўсе пытанні.

Быў у яе адзін сябра, які казаў, што, калі высока падскокваеш, быццам дакранаешся да Нябёс. Менавіта так, з вялікай літары.

Яна разагналася, з лёгкасцю падскочыла, вышэй, чым трэба было, каб проста не апячыся, і амаль даляцела да той самай вялікай літары. Падчас скоку з дрэва насупраць нешта паляцела ўніз. Напэўна, пасыпаліся шышкі.

Усё яшчэ натхнёная сваім палётам, яна зірнула на дзяўчат, ці заўважылі, ці ацанілі вышыню, але тыя глядзелі не на Яську. Дзяўчаты напружана ўглядаліся ў траву, куды, напэўна, звалілася з глухім шумам шышка.

Каця першай варухнулася, пашоргала рукой па траве, але вывудзіла адтуль зусім не шышку.

— Здаецца, гэта чаравік, — працягнула яна. — Што гэта за дрэва, на якім растуць чаравікі...

На гэтай фразе ўсе ўтрох адначасова паднялі галовы. Крыху вышэй за іх рост, на галінцы дрэва насупраць іх вогнішча вісела Соня і моўчкі глядзела кожнай роўна ў вочы. Летні ветрык лёгка калыхаў яе сукенку, у якой амаль два тыдні назад яна накіравалася на сваё спатканне са Славам. На адной назе па-ранейшаму апрануты чаравік. Другая, распранутая, падсвечвала сіняй пяткай.

— Вось табе і крыніца смуроду, — працягнула Каця.

Лёля разгублена, ашалела пераводзіла позірк з Каці на Соню. Вусны задрыжэлі ў незразумелым пачуцці ці то агіды, ці то крыўды.

— Гэта ўсё Віця, гэта ён, — залямантавала яна. — Я не сама. Ён сказаў, збяры дзяўчат! Ён сказаў, зробім здымкі

схаванай камерай. Не пра Соню! Пра Соню нічога не было! Ён сказаў, я разумная, у мяне атрымаецца. Я не ведала, чэснае слова, я не ведала!

Яська назірала за Соняй, за яе роўным калыханнем. Гэта ўсё мрок. Гэта сон. Як заўсёды ў сне, трэба прачнуцца. Трэба рэзка рвануць, каб падхапіцца на ложку, мокрай ад поту, але пазбаўленай неабходнасці шукаць тлумачэнняў ці выхадаў.

Яська рванула, пабегла з паляны, чуючы, як за спінай нехта крычыць: «Яська, стой!», але іх нельга слухацца, яны частка сну, які хоча працягвацца як мага даўжэй.

З разгону яна ўткнулася ў нешта цёплае.

— Злавіў, — сказаў чалавек у цемры. — Усё такая ж пужліўка. Я сумаваў.

— Вадзік?! — спытала Яська, падымаючы вочы.

## Частка шостая,
## у якой мужчына выбірае, а шоу працягваецца

Яны сядзелі на першым паверсе катэджа, у якім, на Ясьчыну думку, увесь час пражываў і выбіраў сабе нарачоную Уладзіслаў Зайцаў. Журналіст, галоўны рэдактар часопіса «Мужчынская праўда». Што за бязглуздае прозвішча ён сабе прыдумаў? Калісьці ён насіў прыгожае, высакароднае «Крапівін». Вадзік Крапівін быў Ясьчыным сябрам, каханым, незабівальным болем і начным жахам. Уладзіслаў Зайцаў апынуўся пластмасавай маскай тыгра, за якой хаваўся той, каго сапраўды варта было асцерагацца.

Вадзік клапатліва запарыў ёй гарбаты, сам прыладзіўся насупраць і паглядаў на яе дрыжачыя пальцы з дрэнна схаваным задавальненнем.

Ясьцы ніяк не хапала мужнасці разгледзець яго як мае быць. Тады, у лесе, яна пазнала яго за адно імгненне, як сабака: па паху, па руках, якімі ён гладзіў яе па галаве. Яна ледзь стрымалася, каб не пацалаваць гэтыя рукі, не прыціснуцца шчакой да шчакі. Ён быў такі жывы, такі жартаўлівы, як калісьці раней, і Яська забылася, чаму яны рассталіся на такі доўгі тэрмін, пацягнулася да яго, як да абаронцы, як цягнулася раней, і толькі наблізіўшы свой твар да яго, заўважыла агрубелую скуру, зморшчынкі каля рота. Гэта быў не той хлопец, з якім яны гуляліся ў калідоры ў дзяцінстве. Гэты быў чужы, незнаёмы мужчына, які падманліва пахнуў і абдымаў, як нехта добра знаёмы. Яна адхілілася рэзка, і з лесу яны вярталіся на адлегласці. Яська ішла наперадзе і спінай адчувала Вадзікаву крыўду. Няўжо ён думаў, што яна кінецца яму на шыю? Але ж амаль і кінулася, што хаваць.

— Зноў аблілася. Хаця б падзякавала, што гарбату я табе падаў не гарачую. Падлічыў.

— Ты падлічыў, — механічна паўтарыла Яська, вяртаючыся ў рэчаіснасць. Сустрэўшы Вадзіка, яна быццам забылася нешта важнае. — Соня! Што ты зрабіў з Соняй? Яна там, на дрэве! Навошта?

— Вось дурная башка, — расчаравана адказаў Вадзік, якому, відаць, надакучыла паўтараць адно і тое ж. — Ды я табе гэта ўсю дарогу тлумачыў: не чапаў я тваю Соню, жывая яна. Гэта розыгрыш, ну! Як тады, з сякерай у спіне. Жартачкі.

— А як жа, — разгублена паўтарала Яська, — я бачыла: сіняя пятка, вяроўка.

— Спецыяльная канструкцыя, — горда адзначыў Вадзік. — Знайшоў у адной кніжцы. Дзякуй пісьменнікам, якія дасканала апісваюць інжынерныя прылады, і наглядчыкам, што дрэнна фільтруюць літаратуру ў бібліятэцы. Ну, пра гэта потым. Што датычыцца Соні: у яе за спінай заплечнік. У зямлю ўваткнуты калок з вяроўкай. Яна там ціхенька вісела і чакала вас. Ты, праўда, зноў замест таго, каб дапамагчы чалавеку злезці, збегла, ну, на Сонiна шчасце ёсць Каця. Гэтая дакладна не ўцячэ.

Яська, нарэшце ўцяміўшы, што можа гэта і не сон, але і Соня не памерла, таму баяцца няма чаго, замаўчала і ўпершыню з моманту сустрэчы прыгледзелася да Вадзіка.

Пад электрычным святлом ён выглядаў значна старэйшым, чым ёй падалося ў лесе. Лютасць, якая раней толькі часам наплывала на вочы, як брудная вада пасля шторму, зараз трывала ўладкавалася ў позірку. Здаецца, апошнія сем год не былі найлепшымі ў яго жыцці.

— Значыць, ты вярнуўся, — нарэшце прамовіла Яська.

— Рады, што ты адзначыла, — пакрыўджана адказаў Вадзік. — Шчыра кажучы, я спадзяваўся на больш цёплы прыём.

— Значыць, гэта ўсё ты, так? Соня, пагражальныя запісачкі, дзіўныя конкурсы, зачыненыя дзверы? — Ясьчын голас задрыжаў, адмаўляючыся працягваць думку, але яна сабралася і скончыла: — Ты здзекаваўся з мяне два тыдні?

— Маленькая мая, ты адправіла мяне ў турму на сем год. Я не злуюся, але пагадзіся, ты заслугоўвала пакарання. Затое цяпер — квітыя, і можам пачынаць нашыя адносіны з чыстага ліста.

— Хапіла мне нашых адносін! — не сцярпела Яська. — Ты хворы, Вадзік, хворы на галаву, і гэта твае хворыя гульні давялі цябе да турмы, а не я!

— Нашыя гульні, Ясечка, нашыя, — паправіў яе Вадзік. — Не трэба зараз так шчыра адмаўляцца ад сваёй ролі.

Яська не зразумела, пра якую ролю ён казаў, але ўдакладняць не стала: досыць наслухалася хлусні і да гэтага.

Раззлаваная, як калісьці раней (здаецца, толькі Вадзік так на яе дзейнічаў), яна падскочыла да дзвярэй.

— Давай я адразу папярэджу, што дзверы зачыненыя, добра? І на вокнах у мяне краты. Так што мы зараз добра пагутарым, даруем мінулыя крыўды і накіруемся шчаслівыя і задаволеныя ў вясельнае падарожжа. Нездарма ж мы тут здымалі перадачу пра каханне?

Яська ці то з дзіцячай упартасці, ці то з дзіцячай надзеяй усё-такі патузала ручку: дзверы насамрэч былі зачыненыя. Выхад ёсць заўсёды, трэба толькі супакоіцца. Яна больш не маленькая. Яна не будзе весціся на Вадзікавы пужалкі.

Прыняўшы самы абыякавы выгляд, на які хапіла няшчырасці, яна вярнулася, села ў крэсла.

— Твае выбрыкі пачынаюць паўтарацца. За сем гадоў можна было б прыдумаць і лепш.

— Цяжка прыдумляць, калі трое гвалтуюць цябе ў душавой.

Яська збялела, і Вадзік хуценька рассмяяўся:

— Жартачкі, жартачкі, даражэнькая. Турэмны гумар.

— Зараз вернуцца дзяўчаты, возьмуць псіхолага, прыйдуць да нас і зламаюць дзверы. Калі ты хацеў нешта сказаць мне, пасьпяшайся, бо ў нас мала часу.

— Ну, па-першае, — пачаў Вадзік, расслаблена расцягнуўшыся на канапе, — з так названым псіхолагам мы разам сядзелі, і ён мне крыху абавязаны... Па-другое, я вырашыў напаследак пакінуць тваім сяброўкам падарунак, таму ім будзе не да цябе. Такім чынам, часу ў нас нават зашмат. Не жадаеш да таты на каленачкі? — ён запрашальна папляскаў рукой па нагавіцах. — Я не схлусіў, калі казаў, як моцна я сумаваў.

Нейкая частка Яські, пачуўшы запрашэнне-загад, пакінула крэсла, матыльком пырхнула на канапу, прымасціўшыся акурат на каленачках, абвіла рукамі шыю, прыцягнула да сабе. Але сама яна засталася сядзець і толькі схапілася за падлакотнікі, як за выратавальныя буйкі.

— Значыць, не зараз, — уздыхнуў Вадзік. — Шкада. Табе так не спадабаўся праект? Здаецца, гэта была твая дзіцячая мара. Памятаеш, ты расказвала? Ты ідзеш з сяброўкамі пасярод вуліцы незнаёмага горада, да вас падлятае хлопец і кажа, што ў цябе закахаўся галоўны разбойнік на раёне. І ты такая: у мяне, дакладна? Не ў сяброўак? — тут Вадзік так падобна перакрыўляў Яську, што тая нават пакрыўдзілася, як недарэчна і як пазнавальна выйшла. — Ты развітваешся з сяброўкамі і прыходзіш да яго. Тут, напэўна, дзіцячыя мары заканчваліся, але, дзякуй Богу, мы даўно дарослыя.

Яська сядзела моўчкі, спрабуючы ўзгадаць, калі яна расказвала Вадзіку пра гэта. Чым яна думала?

Вадзік пачынаў злавацца.

— Што, нават і не спытаеш, чаму ўсё так? Я столькі грошай убухаў у арганізацыю гэтага спектакля, а ты нават не запытаеш, у чым быў яго сэнс?

— Ты маньяк, Вадзік. Вось у чым увесь сэнс. Трэба было звярнуцца да псіхіятра. Можа, ты дарма сядзеў. Можа, трэба было ў іншым месцы паляжаць.

Вадзік падскочыў, схапіў Яську за локаць. Яна адразу забылася на свае вострыя словы, збялела, паглядзела на яго запужанымі вачыма.

— Так лепш, маленькая. Я не супраць таго, што ты трошкі панабралася Кацінага нахабства, але трэба ведаць меру. Памятаць, хто твой гаспадар.

Яська тузанула рукой, і Вадзік неахвотна адпусціў локаць.

— Што далей, Вадзік? Я гатова выканаць сваю ролю хутчэй і паехаць дамоў. Я не хачу цябе бачыць.

— Я дарую табе гэтыя злыя словы, Ясечка, — ціха сказаў Вадзік, — бо ведаю, што яны няшчырыя. Ніхто не чакае цябе дома, так? Ты прыехала сюды, хаваючыся ад адзіноцтва, бо ты ні з кім не магла зблізіцца, бо ты пазбягала хлопцаў, амаль парвала адносіны з бацькамі, і гэта ўсё таму, што твой адзіны блізкі чалавек быў далёка, і ты сумавала па ім, як і ён сумаваў па табе.

Яська слухала так зачаравана, што нават не адразу заўважыла, як Вадзікава рука пралезла ёй пад майку і цяпер ласкава вадзіла па грудзях, прыемна казычучы шурпатымі пальцамі. А заўважыўшы, схапіла гэтую руку сваёй у кулак і моцна сціснула, стрымліваючы яе рух.

— А што б, калі не? Што б, калі я не прыйшла сама?

— Я не стаў бы ламаць табе жыццё, калі б зразумеў, што ты добра ўладкавалася і без мяне. Я не маньяк, Ясечка. Я крыху пакрыўджаны каханы. — Другая, яшчэ свабодная рука правяла пяшчотна па яе твары. — Я ведаю, як табе было дрэнна без мяне, маленькая. Твае бацькі, яны ніколі цябе не слухалі, так? Ніколі не пыталіся пра жаданні. Толькі патрабавалі: не хныч, трэба есці, трэба вучыцца. Ніхто не гуляў з табой: занадта занятыя, занадта незаці-

каўленыя. Я ведаю гэта добра, я сам такі ж. І нам трэба трымацца побач, мы з табой, Ясечка, сям'я, самыя блізкія людзі адно для аднаго, нягледзячы ні на што.

Тая частка Яські, што нядаўна выпырхнула з крэсла, толькі б сесці бліжэй да Вадзіка, раптам разраслася і запаланіла сабой усё Ясьчына цела. Павольна, нават крыху затарможана яна павярнулася ў бок, дзе ляжала, чакаючы, Вадзікава рука, і пацалавала гэтую руку.

Вадзікавы вочы бліснулі задаволена.

— З вяртаннем, дарагая. Зараз нам трэба спяшацца, але ў нас будзе час.

## *Каця выбірае*

Некалькі хвілін Каця яшчэ стаяла нерухома і глядзела ў цемру, у якую толькі што з шалёнымі, пустымі вачыма збегла Яська. Лес, здавалася, замоўк і, стаіўшы дыханне, з цікавасцю назіраў за дзяўчатамі, быццам чакаючы ўбачыць, што яны распачнуць, як яны выкруцяцца з сітуацыі. Шчыра кажучы, гэта было цікава і Каці.

Павольна яна перавяла позірк на Лёлю. Тая сядзела на траве, закрыўшы вочы рукамі, і падвывала, як выюць вясковыя бабулі на пахаваннях:

— Не, гэта не ён, не можа быць ён, ён бы так не зрабіў, гэта памылка...

Чамусьці гэтае мармытанне было такім смешным, што Каціны вусны, не вытрымаўшы, расцягнуліся ў недарэчнай усмешцы. Адкульсьці са страўніка падступаў смех і прасіўся наверх, як непераваранаяшаўрма, купленая ў забягалаўцы каля метро. Каця абхапіла рукамі жывот, нахілілася ўніз і дазволіла сабе высмеяцца, выблевацца гэтым сапсаваным смехам. Пасля яна выпрасталася, выцерла рукой вусны і падышла да Лёлі.

— Паўтары, калі ласка, што ты казала пра нашага псіхолага?

Лёля, не чуючы, не бачачы нікога праз заплюшчаныя вочы, працягвала выць і мармытаць сваё, пакуль Каця не адарвала ёй рукі ад твару і, убачыўшы вар’яцкія вочы, не лупцанула з усёй сілы па шчацэ.

Бязглузда-драматычны, кіношны жэст на дзіва дапамог: Лёля замоўкла і сфакусавалася на Каці.

— Думаеш, гэта ён?.. — спытала яна з жахам, кінуўшы хуткі позірк уверх, дзе па-ранейшаму павольна і прыгожа калыхалася Соніна сукенка, і адразу адвёўшы вочы.

— Думаю, што ў гэтым лесе занадта многа дрэваў, якіх хопіць на нас усіх, калі мы зараз не прыйдзем у сябе і не зразумеем, што нам рабіць.

— Мы? — здзівілася Лёля. — Не... Віця быў вельмі добры да мяне, не, ён не стане, ён і Соню не стаў бы...

— Добра, значыць, яна сама павесілася. Вавёрачкай забралася на дрэва і павесілася. А мы выпадкова апынуліся тут і ўбачылі. Так, Лёля? Мы выпадкова апынуліся тут?

Лёля схіліла галаву, нібыта баючыся, што Каця не вытрымае і ўдарыць.

У гэты момант нехта поруч чхнуў.

— Будзь здарова, — сказала Лёля, не падымаючы галавы.

— Я не чхала, — напружана адказала Каця, азіраючыся, шукаючы вачыма галінку пабуйней, якой можна было б абараніцца, калі прыйдзецца.

— Дзякуй, — пачуўся зверху Сонін голас. — Халаднавата тут, вядома.

Кацю страсянула, як ад дакранання да аголенага провада. Яна нязграбна павалілася, закапаўшыся далонямі ў зямлю, разадраўшы калена да крыві дробнай галінкай, якая несвоечасова, быццам абараняючыся, выставіла насустрач Кацінаму калену вострыя сучкі.

Некалькі хвілін Каця сядзела, пераводзячы дух, чакаючы, пакуль да яе вернуцца слых, нюх, смеласць падняцца. Яна не глядзела па баках, але адчувала нейкім адзіным пачуццём, якое не аднялася, што Лёля побач і Лёля ім не дапаможа. Лес чакаў, пакуль устане Каця. Чакала недзе ўверсе Соня. І Каця паднялася.

Паднялася і з роспачнай мужнасцю паглядзела ўверх: Соня, якая ў гэты момант мярзлява пацірала адну ступню аб другую, сарамліва-прывітальна ёй усміхнулася, не спыняючы пры гэтым асноўнае дзейства.

— Цудоўнае ўваскрашэнне, значыць, — прамовіла Каця рэзка ахрыплым голасам. — Цудоўнае ўваскрашэнне ў купальскую ноч. Суцяшальны падарунак тым, хто не знайшоў папараць-кветку.

— Я і была жывая, — заўважыла Соня. — З чаго мне паміраць? Дапамажыце лепш злезці. Не хапала яшчэ зваліцца з запаленнем лёгкіх.

— А па паху і не скажаш, — працягнула Каця, не варухнуўшыся. Страх павольна пакідаў яе, і на яго месца прыходзіў гнеў. — Ты ведаеш, што ты смярдзіш?

— Гэта спецыяльная мазь, — зморшчылася Соня. — Ён сказаў, патрэбна абавязкова для... Вы дапаможаце ці не? Знізу гутарыць будзе зручней.

Каця хвіліну вагалася, прыкідваючы, ці па сваёй волі Соня апынулася на дрэве, бо, калі па сваёй, то хай там і вісіць, пакуль не адаб'ецца цяга да дурных розыгрышаў. Але сумненне, што Соня змагла б адна такое правярнуць, перамагло, і таму, пасля доўгіх і падрабязных Соніных інструкцый, Каця дапамагла ўяўнай нябожчыцы спусціцца ўніз.

Ногі знямелі, і Соня, відавочна, не ўстаяла б, калі б не Каця, якая хуценька падхапіла яе ў момант падзення.

— Не-не, — сказала Каця, асцярожна ўсаджваючы Соню пад дрэва, — я ўжо настроілася, што сёння абыдзецца без трупаў. Просьба трымацца выбранага курсу.

— Дзякуй, — шчыра сказала Соня, расціраючы ногі. — У мяне шкарпэткі ў заплечніку. Дастаньце, калі ласка.

Каця зазірнула ў заплечнік і выцягнула адтуль акуратна складзеную пару шарсцяных шкарпэтак і гумовыя пантофлі.

— Нядрэнная падрыхтовачка, — заўважыла яна, перадаючы знойдзенае Соні. — Як табе такое, Лёля?

Тут толькі Каця заўважыла, што Лёля так і стаіць з адкрытым ротам і моўчкі пераводзіць позірк з дрэва на Соню. Праз дрыжачыя губы спрабаваў прабіцца ці то гук, ці то енк, але дарогу адолеў пакуль што толькі тоненькі цурчок сліны.

— Лёля? — занепакоена спытала Каця. — Ты ў парадку? Соня жывая, расследаванне адмяняецца. Зараз мы пагутарым і паедзем адсюль дамоў.

— Віця, — нарэшце прамовіла Лёля, — мне трэба пагаварыць з Віцем, — і накіравалася да лесу.

— Э, Лёля, стой, стой, куды ты пайшла! — закрычала ёй услед Каця. — Які Віця, ты што дурная, не бачыш, гэта шоу, яны зрабілі з нас шоу! Соня, скажы ёй!

— Хай ідзе, — мудра заўважыла Соня. — Нічога ёй Віця не зробіць. Гэта карысна. Зразумець, што такое — мужчыны.

— Госпадзі ты Божа! — схапілася за галаву Каця. — Да вы тут усе паехаўшыя, ці што? Лёля, вяртайся, не будзь дурніцай!

Лёля ў адказ толькі паскорыла хаду і хутка таксама знікла ў цемры, як да яе — Яська.

— Што далей? — спытала стомлена Каця. — Ты таксама збяжыш? На нас выскачаць лясныя пачвары? Падзяліцеся сцэнарыем, калі ласка. Я павінна ведаць, якая мне адведзена роля. І ці прадугледжаны ганарар.

— Ён сказаў, што ўсім заплаціць, — адказала Соня, падымаючыся з зямлі. — Ён шчодры, не хвалюйся. Мне заплаціў загадзя, больш, чым я зарабіла б за год у нашым тэатры. Магла б і не прыязджаць, але справа гонару. І табе заплаціць, калі папросіш.

— Ды хто?! — раззлавалася Каця. — Хто табе заплаціў?! Псіхолаг? Гэта псіхалагічны эксперымент? Навошта гэта ўсё?

— Не, — здзівілася Соня, — адкуль у Віцькі такія грошы? Гэта Слава. Прыехаў да мяне ў тэатр. Сказаў, хоча зрабіць прапазіцыю сваёй каханай. Нечаканым манерам. План, вядома, вар'яцкі, але ў багатых свае дзівацтвы.

— Слава, — ціха прамовіла Каця. — Слава. І яго каханая...

— Яська, вядома, — скончыла за яе сказ Соня. — Бачу, цябе засмуціла гэта навіна. Але вы дзеўкі таксама дурныя: адна закахалася ў Віцьку запойнага, другая — у незразуме-

лага багацея-арыгінала. Будзе вам навука. Нікому нельга давяраць.

— Ён цалаваў мяне, — сказала Каця больш для сябе, чым для Соні. — Навошта ён мяне цалаваў? Калі гэта ўсё для іншай.

— Дакладна не ведаю, Кацечка, — заўважыла Соня, падымаючыся з зямлі. — Але мне падалося, што ён лічыць сябе накшталт настаўніка. Вучыць дурніц. Яську — не пужацца, Лёлю — не пражываць чужое жыццё, цябе — напэўна, зняць карону і зразумець, што свет не круціцца вакол адной тваёй асобы. Напэўна, так, Кацечка. Напэўна, так.

Каця скрывілася, сілячыся не заплакаць, не пакінуць Слаўку гэтакай радасці, што яму пашанцавала давесці яе да слёз. Настаўнік, значыць. Гэта якая ж дзяржаўная ўстанова выпускае такіх настаўнікаў!

— Ну добра, — сказала Соня, уважліва назіраючы за рэакцыямі, якія хваля за хваляй змяняліся на Каціным твары. — Я думаю, час выбірацца з лесу і ехаць дамоў. Мяне дачка зачакалася. Я, вядома, пакінула бабулі ўсе грошы, што мне заплаціў Слава, але маці яны не заменяць. Здымкі завершаны. Дзякуй усім за ўвагу.

— Нас усё ж такі здымалі? — спытала Каця.

— Шчыра кажучы, я не ведаю. Нават калі і так, мне за сваю акцёрскую працу не сорамна. Не Афелія, вядома, але сёе-тое па суках развесіла. «Нарабіўшы карон з пустазельных раслін, узняла яна рукі над полагам хісткім», — на гэтых словах яна нават хіхікнула, але, убачыўшы Кацін твар, усмешку прыбрала. — Хадзем, Каця. Ну, вышэй галаву. Мужык, што з яго возьмеш. Не апраўдаў даверу. Упершыню заўсёды цяжка. А потым нічога, прывыкнеш. Калі захочаш.

— Гэта не толькі мужык, — заўважыла Каця. — Але і ты. Без цябе не абышлося.

— А што я? — здзівілася Соня. — Я вас кожную прымусіла закахацца ў ідыётаў? Не. Вось што напужала — да-

руй. Але ў мяне прафесія такая. Вы ж калі ў кінатэатр на жудзік ходзіце, не злуяцеся пасля на акцёраў. Чым я горш?

— Мы не ведалі, што гэта кіно!

— Ну вас жа папярэдзілі — тэлебачанне! — засмяялася Соня. — На тэлебачанні здымаюць кіно, нават калі падносяць як рэаліці. Хто-хто, а ты павінна была зразумець. Дык мы ідзем?

Каця, якая так і сядзела на зямлі без руху, падняла галаву і адказала незацікаўлена:

— Ідзі, куды табе трэба. Я застаюся. Мне трэба пагаварыць са Славам.

— Так ужо і трэба?

Каця кіўнула.

— І без гэтага дамоў не паедзеш?

Каця пахітала галавой.

— І чаму ён заўсёды ўсё ведае наперад? — расчаравана запытала Соня. — Што ж, тады прыйдзецца завярнуць у маю лясную хатку.

— На курыных ножках, — скончыла за яе Каця. — Дзівацтвы купальскай ночы працягваюцца. Навошта нам у тваю хатку? Хочаш пахваліцца дэкорам? Там чакае Слава?

— Ну, Слава там можа і не чакае, затое ёсць ліст ад яго. Ён так мне сказаў: маўляў, прапануй Каці адразу ехаць дамоў, а калі не захоча, вядзі да хаты і перадай ёй ліст.

— І што ў гэтым лісце? — стомлена спытала Каця. — Шчыра кажучы, мне б хапіла проста даць яму па мордзе. Не выслухоўваючы доўгіх тлумачэнняў.

— Вось і прачытаеш. Хадзем.

Соня ўпэўнена пайшла першай, Каця, крыху счакаўшы, усё-такі пацягнулася за ёй. Прабірацца да хаткі прыйшлося цераз зараснікі, відаць, яе спецыяльна ўладкавалі так, каб нельга было натрапіць, проста гуляючы па лесе.

— Ты жыла там увесь час пасля знікнення? — спытала Каця, каб нешта спытаць і не ісці па начным лесе моўчкі.

— Ну, не ўвесь, — адказала Соня. — Часам, калі патрэбна было маё з'яўленне, я заставалася ў Славы. Дарэчы, у час вашага спаткання я сядзела ў пакоі за зачыненымі дзвярыма.

— Гучыць даволі брыдка, — адгукнулася Каця. — Не вельмі добра ведаю пра акцёраў, але нешта не чула, каб яны давалі клятву бессарамлівасці.

— А як жа, Кацечка, — Соня так здзівілася, што нават абярнулася. — Сарамлівым у любой прафесіі цяжка, а ў акцёрскай — адразу выкінуць за профнепрыдатнасць. Вось мы і прыйшлі.

Каця падняла галаву. Соня вывела іх на невялічкую палянку, у канцы якой стаяла хатка, падобная да тых, што малююць у мультыках у якасці жытла Бабы Ягі. Невысокая, драўляная, пасярэдзіне — акенца, збоку — блакітная паштовая скрынка.

Каця хіхікнула.

— Паштовую скрынку спецыяльна павесілі, дзеля аднаго Слававага ліста? Якая неверагодная ўважлівасць да дэталяў. Яму б фільмы здымаць, а не прапазіцыі аленянятам рабіць.

— Не, ліст у хаце, — адказала Соня. — Я, шчыра кажучы, і не ведаю, навошта гэтая скрынка. Ну, павесілі і ладна. Зойдзеш?

Соня стаяла на парозе, Каця — у некалькі кроках ад яе. Павагаўшыся з хвіліну, Каця адказала:

— У купальскую ноч у хатку Бабы Ягі? Калі я пачынаю верна разумець Слаўкава пачуццё гумару, я лепш тут пастаю.

— Ну, як ведаеш.

Соня пакінула дзверы адчыненымі, з разліку, што Каця зацікавіцца і перадумае. Каця не перадумала, але падышла бліжэй. Падыдзі яна яшчэ крыху, напэўна, кроплі крыві даляцелі б і да яе твару.

А так яна толькі ўбачыла, як цяжкія жалезныя краты апусціліся аднекуль з вышыні і зачынілі дзвярную пройму.

Краты стукнуліся аб падлогу з ляскатам, на які Соня абярнулася і паспела толькі пачаць фразу «Што за...», а скончыць не паспела, бо са сцяны выехала на добрай хуткасці вялізнае лязо, якое праз імгненне акуратна і дакладна зрэзала Соні галаву. Цела рухнула, а галава пакацілася і выкацілася б з хаткі, але сутыкнулася з кратамі і вырашыла на гэтым спыніцца. Праз краты на Кацю глядзелі шырока адчыненыя ў жаху Соніны вочы.

У гэты самы момант пачуўся задзірысты «Трэньк!», з якім звычайна выключаецца мікрахвалёўка, і з блакітнай скрынкі на зямлю выпаў белы канверт.

Каця не ўскрыкнула ні калі апускаліся краты, ні калі Соні адрэзала галаву. Толькі пабачыўшы белы канверт, яна здрыганулася, бо ёй падалося, што яна так сабе гэта і ўяўляла, з таго самага імгнення, як заўважыла блакітную скрынку, так недарэчна прымацаваную да ляснога жытла. Ёй падалося, што яна ведала, ведала, што будзе, за імгненне да таго, як усё адбылося, і не затрымала Соню, бо сама ўцягнулася ў гэтую гульню, бо хацела праверыць, як далёка гульня можа зайсці. Высветлілася, што гульня не ведае межаў.

Яшчэ некаторы час яна павагалася, ці ісці па канверт. Ці не схаваны ў зямлі другі механізм, клапатліва прымацаваны, каб у няменшай ступені яскрава і кінематаграфічна парубіць Кацю на шматкі? У той жа час, ці зможа Каця ўсцерагчыся, калі і так? Здаецца, Слава заўсёды наперадзе, і, калі ён так вырашыў, Каці не выйсці з лесу жывой. Тады і вагацца няма чаго.

Хуценька яна падышла да блакітнай скрынкі, схапіла канверт і ў тое ж імгненне, як заяц, адскочыла назад. Нічога не адбылося.

Каця дастала ліст з канверта, трошкі прайшлася, шукаючы месца, дзе святло месяца падала больш шчодра, нарэшце запынілася і разгарнула аркуш.

«Дарагая Кэт,

Даруй, што не адказваў раней на твае лісты (але ж усе чытаў і ўсе нюхаў і быў прыемна ўсцешаны тваім парфумным густам і літаратурным талентам). Ці спадабалася табе ў ролі маніпулятара, вырашальніка лёсаў? Магу сказаць шчыра, жыццё Соні было ў тваіх руках. Варта было толькі адмовіцца захадзіць і забіраць лісты (Кіці-Кэт, *чаго ты чакала, я ж табе казаў, я тут самы дрэнны), варта было толькі накіравацца адразу на цягнік* — і Соня была б жывая. Але не шкадуй моцна — здраднікаў заўсёды так ці інакш спасцігае гвалтоўная смерць, пра гэта табе павінны былі паведаміць твае разумныя кніжкі.

На адваротным баку ліста — карта, яна табе дапаможа выбрацца з лесу. Можаш мне давяраць, у мяне не падымецца рука на жанчыну, якая так шчыра мяне цалавала. Моцна не спяшайся — мы з Яськай паспеем з'ехаць раней. Але, калі па-ранейшаму хочаш мне нешта сказаць (ці даць у морду, ведаючы цябе, гэтага табе, *відаць,* хочацца больш), ніжэй адрас месца, куды мы накіроўваемся. Буду рады цябе пабачыць (і прыемна ўражаны, калі надзенеш тую ж спадніцу, у якой распавядала пра хамячка, я, здаецца, тады ўсё праслухаў, даючы каманду аператару, каб здымаў паўважлівей ногі.) Калі не захочаш, справа твая. Абяцаю, што на гэтым гульня будзе для цябе завершана.

З надзеяй чакаю на сустрэчу, Уладзіслаў»

Ніжэй быў прыпісаны адрас. Тальяці. Здаецца, усіх бандытаў там перабілі ў дзевяностыя. Едзе папаўняць рэзерв.

«Мне там рабіць няма чаго, — вырашыла Каця. — Выберуся з лесу, пазваню Жорыку, каб забраў, і забуду гэты праект як страшны сон».

А між іншым яна ўжо прыкідвала, колькі кіламетраў да Тальяці і ці пагодзіцца Жорык яе падкінуць.

## Частка сёмая,
## праўдзівасць якой можа пацвердзіць
## толькі адміністратар прыдарожнай гасцініцы,
## але паспрабуйце яе разгаварыць

Дваццацідвухгадзінная паездка з каханым — гэта так рамантычна. Тым больш, што перад адпраўкай Вадзік з сарамлівым смяшком дастаў з багажніка свайго чорнага «Хёндай Салярыс» таблічку «Just married» і прымацаваў яе ззаду над нумарам.

— Навошта? — не зразумела Яська.

— Ну а як жа, — ледзь не пакрыўдзіўся Вадзік. — Выбары жонкі адбыліся? Адбыліся. Хай народ святкуе.

— Толькі гэтыя выбары не маюць юрыдычнай сілы. У нас нават і пярсцёнкаў няма.

— О, маленькая, — здзівіўся Вадзік. — Такія выбары — самыя надзейныя. А што датычыцца пярсцёнкаў, я проста чакаў моманту.

Адкашляўшыся ў плячо футболкі, ён стаў на калена, выцягнуў руку з заціснутай у кулак скрыначкай. Рука ледзь падрыгвала. Ці то шмат п'е, ці то хвалюецца.

— Перад Богам і людзьмі, — пачаў Вадзік, потым збіўся і пачырванеў. — А, к чорту!

Выпрастаўся і проста надзеў пярсцёнак. Той сеў добранька, як трэба, тоненькім белым золатам абвіў Ясьчын безыменны палец. Але Ясьцы, якая ніколі да гэтага не насіла ўпрыгожанняў, тым больш такіх — упрыгожанняў-сігналаў, падалося, што ён занадта яркі, занадта кідкі, і галоўнае, цяпер кожны, нават не ведаючы Яську, можа зрабіць адназначныя высновы па адным гэтым пярсцёнку. Цікава, як гэта ў людзей атрымліваецца адначасова верыць

у Бога, інтэрнэт і старажытнагрэцкія рытуалы. Нешта павінна быць лішнім.

— Ты нават не спытаў, ці згодна я!

— Гэта частка мне заўсёды падавалася лішняй.

Яська рассмяялася, але не стала тлумачыць чаму. Можа, Вадзік меў рацыю, калі казаў, што яны падобныя.

Першыя некалькі гадзін дарогі Яська з захапленнем збірала кампліменты свайму новаму статусу.

Машына, якая імчала побач, спецыяльна прытармазіла, каб даць магчымасць кіроўцу апусціць шкло, бліснуць у іх бок зубамі і на імгненне падняць у паветра вялікія пальцы рук. Потым, праўда, машыну гайданула ўбок, кіроўца хуценька вярнуў рукі на стырно, закрыўся шклом і ўдарыў па газах.

На аўтазапраўцы прадавец, у якога Яська набывала бутэрброды і ваду, спытаў, зацікаўлена ўглядаючыся ў фігуру Вадзіка каля машыны.

— Вясельнае падарожжа? Куды?

Яська ветліва кіўнула, хаця і сумнявалася, што некалі бандыцкі горад Расіі можна назваць месцам вясельнага падарожжа.

— Дакладна не ведаю, — шчыра прызналася Яська. — Муж сказаў, — «муж» прамовілася на дзіва лёгка, мабыць, гэта толькі падаецца, што прыкідвацца кімсьці іншым цяжка. — Цудоўная гасцініца ў ціхім месцы ў лесе побач з берагам Волгі.

На гэтых словах у краму зайшоў Вадзік. Паглядзеў з дрэнна прыхаванай падазронасцю на прадаўца.

— Здаецца, у Беларусі таксама хапае ціхіх лясоў, — добразычліва звярнуўся прадавец да абаіх маладых. — Можна не марнаваць час на дарогу.

— У беларускіх пакінулі трупы. Які там цяпер спакой! Яшчэ чыпсы, калі ласка.

Прадавец няўпэўнена хіхікнуў. Вадзік яго не падтрымаў. Ясьчын вясельны настрой развеяўся і змяніўся страхам. Ціхае месца ў лесе больш не падавалася рамантычным, затое небяспечным — у поўнай меры.

— Навошта ты напужаў таго хлопца ў краме? — спытала Яська, ужо седзячы ў машыне.

— Ён заляцаўся да цябе. Я праз шкло бачыў, як блішчэла яго морда.

— Няпраўда. Ён шчыра павіншаваў мяне з замужжам. Напэўна, цяпер шкадуе.

— Калі ён не разумее жарты, трэба шкадаваць яго самога.

— А гэта быў жарт? — напружана спытала Яська. — Мы збеглі так хутка. Не развіталіся ні з дзяўчатамі, ні з Віктарам Віктаравічам. Мне было б спакайней, калі б я ведала, што з імі ўсё ў парадку.

— О, за гэта не хвалюйся. Можа, Каця яшчэ завітае да нас у госці... Ды што ты на мяне так глядзіш? Жартачкі, дарагая, жартачкі. Быць такой сур'ёзнай шкодна для здароўя.

Наступныя паўгадзіны яны ехалі моўчкі. Што ім рабіць у Тальяцці? Гэта думка круцілася ў Ясьчынай галаве без усякага развіцця, з манатоннай тупасцю, у такт маркотнай, аднолькавай трасе. Наўрад ці ў Вадзіка там схавана вясковая хатка, у якой яны будуць жыць, весці гаспадарку і песціць ката да канца дзён сваіх (ці ката). Занадта недарэчны фінал для такой гісторыі.

— Там, у Тальяцці, ты заб'еш мяне? — спытала Яська з лёгкім уздыхам, нават не паварочваючы галавы ў бок кіроўцы і быццам не асабліва і цікавячыся адказам.

— Пачалося, — пачуўся спакойны Вадзікаў голас. І пасля невялікай паўзы дадаў. — Ведаеш, табе трэба нешта рабіць са сваёй звычкай дадумваць гісторыі. Накіраваць у карыснае рэчышча. Можа, апавяданні пісаць для часопісаў? А то і на сцэнарый размахнуцца. Глядзіш, і грошай

заробім! Нам бы не перашкодзіла: маім бацькам, здаецца, больш няма чаго прадаваць.

— Ты пра што? — здзівілася Яська. Нават павярнулася, каб убачыць Вадзікаў твар. Твар быў сур'ёзны і нават занепакоены, але не выяўляў ні прыкмет гумару, ні падказак.

— Праехалі, Ясечка. Я сказаў — мы квітыя. Я ўсё разумею: маленькая, спужалася. Нішто так не пужае, як лютасць, выяўленая ў самім сабе. Мне і самому першыя часы было страшна. А потым звыкаешся. Ты тут самы дрэнны, такі расклад, не ты яго выбіраў. І становіцца лягчэй. Дзіўна, што табе яшчэ не стала.

Вадзікаў зноў гаварыў намёкамі, загадкамі, і Яська супраць волі пачынала нервавацца. Можа, такім быў яго план. Ніякіх забойстваў. Павольнае, поўнае асалоды давядзенне да вар'яцтва. Яська ўжо бачыла, як яе забіраюць дактары, як яна спрабуе вырвацца, крычыць: «Гэта ўсё мой муж!», а дактары толькі спачувальна ківаюць галовамі, і адзін, самы спачувальны, кажа:

— Ды няма ж у вас ніякага мужа. Вы ў пашпарт паглядзіце.

Каб абстрагавацца, Яська пераключыла ўвагу на дарогу, але траса мала што дае шукальнаму позірку. Адны палі пераходзілі ў іншыя, і, здаецца, калі б Вадзік вырашыў пажартаваць і вазіць яе па крузе, Яська заўважыла б гэта добра калі на другія суткі. Мабыць, таму назвы вёсак на паказальніках у Беларусі такія дасціпныя: нешта павінна будзіць кіроўцу на трасе. Усе гэтыя Шэйкі і Пузікі, Бухалі і Рыгалі, Новыя і Старыя Чамаданы — што калі насамрэч ўсе яны носяць іншыя, тыповыя назвы, нешта накшталт Мікалаевак ці Прудкоў, і перайменаваны толькі з мэтай павышэння пільнасці на дарогах? Напрыклад, месца, дзе адбываецца найбольшая колькасць аварый, назваць Раем. Каці спадабаўся б гэты жарт.

Дарэчы, апошнія хвілін дваццаць у бакавым шкле разпораз то з’яўлялася, то знікала пафарбаваная ў вульгарны, вырві-вока сіні колер машына. Гэта было дзіўна, бо яны самі ехалі на найменшай хуткасці з дазволеных, Вадзік не спяшаўся, плануючы заначаваць у гасцініцы па дарозе. Навошта камусьці ехаць яшчэ павольней?

— Табе не падаецца, што гэта машына спецыяльна едзе за намі? — усё ж такі вырашылася спытаць Яська, хоць і разумела, што выклікае толькі шэраг новых Вадзікавых здзекаў.

— Безумоўна, Ясечка, — сур’ёзна адказаў Вадзік, паглядзеўшы ў шкло. — Гэта ў цябе яшчэ дурны зрок. Калі прыгледзішся, заўважыш за стырном Кацінага сябра.

— Жорыка! — усхапілася Яська. — Ты бачыш, дакладна бачыш? Чорненькі такі? — і толькі пачуўшы, што Вадзік не вытрымаў і булькае здушаным смехам, Яська расчаравана адкінулася на сядзенне. — Вельмі смешна, так.

— Не думаў, што ты так палюбіла гэтых дзяўчат. А то маглі б паехаць усе разам — як табе такая фіналачка для шоу? Паб’ем усе рэйтынгі. З Соняй, праўда, выйшла б накладка.

— Гэта чаму? — напружылася Яська.

— Ну ты ведаеш, яна такая безгаловая. Нажылі б сабе праблем толькі.

Яська ў адказ прамаўчала. Соня здавалася ёй разумнейшай за ўсіх, але які сэнс спрачацца?

Сцямнела. Да гэтага часу Яська пакінула сачыць за сіняй машынай, кіруючыся сваёй дзіцячай веры: калі забыць пра нешта, гэта нешта знікне само па сабе.

У гасцініцы, дзе яны спыніліся, марафон прывітання маладых нечакана прыняў супрацьлеглы напрамак.

— Пашпарты, — коратка загадала жанчына за стойкай адміністратара. Вельмі шырокая жанчына. Не такая шырокая, як неіснуючае дрэва з Ясьчынага няіснага дзіцячага

ўспаміну, але ж дастаткова, каб уявіць, што абхапіць яе ад краю да краю можна толькі разам з памочнікамі.

— Асобныя нумары? — паўсцвярджальна спытала жанчына, відавочна, супаставіўшы пярсцёнкі на патрэбных месцах і розныя прозвішчы ў пашпартах.

— Хопіць аднаго, — на той жа кароткі манер адказаў Вадзік.

Жанчына нават не зірнула ў яго бок, але акінула доўгім, дакорлівым позіркам Яську. Яська пад гэтым позіркам збялела і ледзь не адпрасілася начаваць у машыне, але ў гэта імгненне жанчына шматсэнсоўна цмокнула губамі і адвяла вочы. На стойку з грукатам упалі ключы. — Дваццаць чацвёрты.

Адыходзячы, Вадзік наўмысна інтымна абхапіў Яську за талію, і Ясьцы запякло скуру пад Вадзікавай рукой: ці то ад самога жэста, ад якога яна адвыкла, ці то ад позірку жанчыны ім у спіну.

Нумар быў маленькі — ні крэслаў, ні стала — і пах кіслым. Яська асцярожна села на краёчак ложка і склала рукі на каленях. Вадзік заваліўся на ложак з разгону, адзеты, дзякуй, што красоўкі зняў.

— Брыдкае месца, але, здаецца, мы з табой спалі і ў горшых.

Яська паглядзела на яго здзіўлена.

— Пра што ты гаворыш?

— Ох, Ясечка, здаецца, тут няма ні тваіх бацькоў, ні міліцыі — ад каго ты хаваешся?

Хваля дрыжыкаў прайшла па Ясьчынай спіне. Яна паднялася з ложка, стала ў дзвярах.

— Прабач, я хацела б прайсціся.

— Я з табой.

Яны выйшлі, на шчасце, не сутыкнуўшыся з ахоўніцай маралі. Яська павольна пайшла ўздоўж зараснікаў, Вадзік, моцна схапіўшы Ясьчыну руку, крочыў побач.

— Памятаеш апошняга хлопца? Была падобная ноч. Ціхая. Амаль без месяца.

Яська стомлена ўздыхнула.

— Я не ведаю, чаго ты дамагаешся. Я не разумею палову тваіх слоў: ні пра ноч, ні пра абставіны, з-за якіх я быццам павінна была сустракаць цябе зусім інакш. Ты пужаеш мяне. Гэта твая мэта? Калі справа толькі ў гэтым, я лепш вярнуся дамоў.

Вадзік спыніўся і рукой затрымаў Яську, якая спыняцца не хацела. Павярнуў яе за плечы тварам да сябе, доўга ўглядаўся ў вочы. Яська глядзела на яго адкрыта, са шчырай злосцю: ты можаш глядзець, колькі ўлезе, але мне няма чаго хаваць. Праз доўгі час Вадзік адгукнуўся, у голасе праслізнулі дакладна прафесарскія ноткі:

— Ці-ка-а-ва. «У яго маразм, а значыць, кожны раз у нас як першы раз». Я табе пакажу зараз адну рэч. Можна сказаць, падарунак. Было няпроста захоўваць яго ўвесь гэты час. Хацеў аддаць яго потым, але бачу, трэба зараз. — З гэтымі словамі ён дастаў невялічкую рэч з кішэні і паклаў яе ў Ясьчыну далонь.

Акуратны прамавугольнік з мяккімі вугламі, пластык, пафарбаваны пад сталь. І тады, калі ён з’явіўся ўпершыню, і зараз, калі ён даўно зняты з вытворчасці, ён здаваўся Ясьцы ўвасабленнем дасканаласці. Ідэальная ў сваім функцыянальным і дызайнерскім мінімалізме рэч.

— «Nokia 6070», — пракаменціраваў Вадзік, з задавальненнем назіраючы за Ясьчыным захапленнем. — Забаўна, тады хлопец так не хацеў расставацца са сваім тэлефонам, што ахвяраваў цэлым носам, а зараз гэта штучка амаль нічога не каштуе. З-за якой дурасці часам пакутуюць людзі.

Ясьчына рука з тэлефонам здрыганулася. Нешта заказытала за вушамі, запякло ў патыліцы. Непазнавальныя, размытыя малюнкі прайшлі перад вачыма, і толькі адзін вы-

разны, дакладны: Яська, надзвычайна задаволеная, трымае ў руках новенькі «Nokia 6070» і прапануе камусьці побач:

— Сэлфі пераможцаў?

У паніцы Яська паспрабавала ўключыць тэлефон, але Вадзік спыніў яе, паклаўшы сваю далонь на яе, з тэлефонам.

— Ён ужо не ўключыцца, Яська. Ніякіх доказаў, будзь спакойна. Зараз гэта толькі рарытэт. Успамін пра наша вясёлае мінулае. Але ён добра працаваў тады, калі ты мяне выдавала. Думаў, ты будзеш удзячнай. Хто ж ведаў, што ты так акуратненька на ўсё забудзешся. Хітры крок нават для мяне.

Яська стаяла ў цемры, звыкла амаль сляпая, але нязвыкла не адчуваючы ні паветра, ні свайго цела. Усё, што яна лічыла сабой, на імгненне рассыпалася: зніклі вочы, вушы, нос і скура, застаўся толькі бясформенны камяк бруду, гатовы прымаць любыя формы, апранаць любое аблічча. Камяк засмяяўся, засмяялася і Яська: глядзіце, я вясёлая дзяўчынка, я смяюся да самых дзяснаў. Камяк выцягнуўся ў струнку, расправіла плечы і Яська: дысцыпліна, дысцыпліна і яшчэ раз дысцыпліна, я жыву па графіку, у мяне ўсё пралічана. Камяк расцёкся па дарозе, і Яська ледзь не рушыла ўслед: Вадзік у час падставіў плячо.

— Здаецца, успамінаў на сёння досыць, — занепакоена заўважыў ён. — Працягнем пасля.

— Не, — папрасіла Яська глухім голасам, бо сіл адарваць твар ад пляча не было. — Раскажы мне зараз усё. Тых людзей… мы рабавалі разам? І… і білі таксама?

— Не перабольшвай, Яська, — папрасіў Вадзік. — Які з цябе бандыт? Ты проста дапамагала планаваць. Брат, што прыехаў да тваёй сяброўкі. Госці з Кіева. Ты сама мяне вучыла: ніколі не чапаць мясцовых: рана ці позна пазнаюць.

— Але ж «Нокіа», «Нокіа» Віцькава. Ён вучыўся з намі ў школе!

— Так. І ты з такім запалам расказвала мне пра гэтую «Нокію». Я здзівіўся, ніколі ты так не цікавілася тэхнікай. А потым зразумеў, да чаго ты вядзеш. Таму і кажу, падарунак. Павінен быў быць падарунак дзяўчыне, але вось, прыйшлося адцягнуць да вяселля, — усміхнуўся Вадзік.

— Прыйшлося адцягнуць да вяселля, — манатонна паўтарыла Яська. Потым рэзка адарвалася ад пляча, пацягнула Вадзіка за руку: — Я змерзла, вернемся ў пакой.

Каля дзвярэй, пакуль Вадзік вазіўся з дапатопным ключом, Яська ў адно імгненне сцягнула з сябе кашулю. Дробненька стукнулі аб падлогу гузікі.

Вадзік павярнуўся на гук і на момант завіс з ключом у руцэ.

— Ці-ка-ва, — паўтарыў ён са знаёмай прафесарскай інтанацыяй. — Ну заходзь.

Яська зайшла, па дарозе амаль выскачыўшы з шортаў. Падышла да Вадзіка, які заняў пазіцыю ў дзвярах пакоя, склаў рукі на грудзях і зачаравана, з дзіцячай дапытлівасцю глядзеў на Яську.

— Мне распранацца? — з жартаўлівай няёмкасцю спытаў Вадзік. — Ці гэта тэатр аднаго акцёра?

Яська паднялася на пальчыкі, прыблізіла свой твар да яго.

— Я хачу, каб ты мяне біў. Так балюча, як зможаш. Я хачу, каб мне было балюча.

Вадзік ўжо адкрыў рот, відавочна, каб адмовіцца, але ў гэты момант Яська схапіла яго далонь і са ўсёй сілы залупіла ёй па сваёй шчацэ.

Другой далонню кіраваць не прыйшлося.

Раніцай, пакідаючы гасцініцу, Яська надзела сонечныя акуляры на паўтвару і, як магла, зашпіліла кашулю на астатнія гузікі. На жаль, шорты ніяк не спраўляліся са сваёй новай функцыяй і выставілі свету серыю сінякоў і кровападцёкаў на Ясьчыных нагах у поўнай красе.

Ахоўніца маральнасці так навісла над стойкай, каб лепш разгледзець сваіх дзіўных начных гасцей, што тая цудам не трэснула.

— Калі вы там нешта зламалі з мэблі, то ведайце, у мяне вашы пашпартныя даныя! Ненармальныя, ненармальныя, — жанчына пашукала прыдатнае слова ў сваім слоўніку, але, відаць, ён не быў разлічаны на такія шаленствы, таму яна дадала агульнае, прыдатнае для ўсяго чалавецтва: — Ненармальныя ідыёты!

Яська гучна рассмяялася, звярнулася да Вадзіка:

— Глядзі, яна можа казаць поўнымі сказамі, — і пакрочыла да машыны.

Ёй была лёгка, так лёгка! Цяжка толькі не ведаць, хто ты ёсць. Блытацца ва ўспамінах. Блытацца, прымяраючы тыя ці іншыя цэтлікі, накшталт тых, што пытаўся павесіць на яе Вадзік з псіхолагам. «Бегае восем кіламетраў». «Цнатлівая». «Не дачакалася хлопца з турмы». Не тое, гэта ўсё не тое. Кожны цэтлік, які ўпарадкоўвае чыёсьці разуменне цябе, — хлуслівы. Веды не ўпарадкоўваюць, веды разбураюць. Яська адчувала сябе разбуранай амаль поўнасцю. Прыкладна так, напэўна, адчуваецца нірвана.

— Хачу ехаць хутка, — прапанавала яна Вадзіку. — Наколькі хутка можа ехаць гэта машына?

— Кіламетраў пад дзвесце, — адказаў Вадзік, заводзячы матор. — Але лепш не правяраць. Хто ў цябе ўсяліўся? Здаецца, учора мы ехалі на соценцы, і табе ўсё падабалася.

Замест адказу Яська пяшчотна правяла рукой па яго правай назе, ад бядра да калена. А потым рэзка націснула на яе дзвюма рукамі. На імгненне Яську трошкі штурханула назад. Палі за акном паляцелі з падвоенай хуткасцю.

— Яська, не дуры, прыбяры рукі, — скрозь зубы працадзіў Вадзік. — Хочаш, каб за намі зараз гаёвыя пацягнуліся? Такі табе патрэбны картэж на вяселле?

— Калі ласка, — папрасіла Яська ўмольным голасам. — Табе спадабаецца.

Не прыбіраючы рук з калена, яна дацягнулася да Вадзікавай шыі і пакінула там найпяшчотнейшы, найдалікатнейшы пацалунак.

Вадзік, заўважна нервуючыся, усё ж не стаў вырываць калена.

— Я такое толькі ў фільмах бачыў, — прызнаўся ён з нечакана дзіцячым, шчырым захапленнем.

— Пра Боні і Клайда? — спытала Яська.

Вадзік нервова хіхікнуў.

— Спадзяюся, нас чакае іншы канец.

— Іншы. Зразумела, іншы.

Прамчаўшыся міма паказальніка «Рай», Яська адарвала рукі ад калена, схапілася за стырно і, што было сіл, крутанула яго ўправа. На адно кароткае імгненне лёгкасць, якую яна адчувала, дасягнула рэкорднай вышыні, душа скочыла вышэй, чым калісьці сама Яська падчас купальскіх падзей, і яна нават раскрыла вусны, каб закрычаць «Прывіта-а-а-анне, Го-оспадзі!», але ў той самы час машына перавярнулася, Яська адчула моцны боль у грудзях, і момант, як калісьці каля вогнішча, быў загублены.

## Частка восьмая,
## у якой добры хлопец нарэшце прыйшоў

Доктар сказаў, што я нарадзілася ў кашулі. Я дадала: у кашулі з адарванымі гузікамі. Падаецца, някепскі жарт, дзіўна, што доктар не ацаніў, толькі кінуў у мой бок незразумелы позірк, поўны ці то дакору, ці то жалю. Каб патлумачыць гэты позірк правільна, трэба спачатку вызначыцца, хто я ў спрадвечным трохвугольніку Карпмана: пераследнік, выратавальнік ці ахвяра — а яшчэ не скончыла са сваімі летапісамі, каб рабіць высновы.

Насамрэч у мяне амаль усё гатова, і я наўмысна адцягваю фіналачку, не жадаючы развітвацца з апошнім героем. Не тое, каб я не шкадавала іншых: шкадавала, асабліва Соню, якую ніколі цяпер не дачакаецца ў Магілёве дачка Тонечка. Нешчаслівая жаночая доля выпала Соні: першы не абараняў, другі і зусім забіў.

Але з гэтым, апошнім героем, не атрымліваецца знайсці патрэбнага тону: колькі пераведзена паперы на юрыдычна сухія, празмерна пафасныя, занадта жаласлівыя словы.

На трасе Мінск — Тальяці разбіўся насмерць малады мужчына. Магчымая прычына аварыі — неасцярожныя паводзіны за стырном. Пасажырка на пярэднім сядзенні з лёгкімі траўмамі дастаўлена ў бальніцу.

Спачатку было слова, і слова было ў доктара, і доктар сказаў, што кіроўца не выжыў. І пасля хацеў то нешта спытаць, то нешта дадаць, і ўсё лішняе, лішняе, я толькі паказвала рукой: замаўчы, не зараз, мне трэба падумаць. І чым больш я думала, тым больш уся мая гісторыя, гісторыя дзяўчат, з якімі я была, падавалася несапраўднай, далёкай, чужой. І гэта было так страшна, зноў згубіць сябе: страшней за смерць Вадзіка, страшней за жыццё з паста-

янным усведамленнем таго, наколькі я дрэнны чалавек. Я хацела памятаць, і каб памятаць, трэба было дзейнічаць неадкладна: мне патрэбны былі сшыткі і асадка. Я ўсхапілася з ложка, і доктар нешта залапатаў пра тое, што ён разумее, пра шок і паніку, я толькі адмахнулася, называй, як хочаш, у цябе прафесія такая, кідацца назвамі, а мне патрэбны сшыткі, патрэбна запісаць падзеі апошніх дзён, настолькі падрабязна і нестаронна, наколькі гэта магчыма, каб потым звяртацца ўсё астатняе жыццё да напісанага, як папы да Бібліі, як хатнія гаспадыні да «Гатуем дома». Гэта будзе мой дапаможнік, мой павадыр, мой тлумачальны слоўнік.

І я пісала некалькі тыдняў, збіраючы па закутках памяці, што гаварылі дзяўчаты, у чым прызнаваўся Вадзік. Пісала і шкадавала, што няма настаўніка гісторыі, каб праверыць, каб перакрэсліць тое, дзе наблытана, каб паправіць на верныя словы, верныя адказы. Пісала і адчувала, як з кожнай хвілінай мая гісторыя адыходзіць ад мяне ўсё далей, размываецца, знікае, і, напужаная гэтым, у апошні дзень пісала не спыняючыся, не выходзячы на абед, каб паспець, пакуль усё не сцерлася.

Нарэшце вось яны, два сшыткі, я захоўваю іх пад падушкай і звяраю з імі кожную раніцу. Так спакайней.

Доктар сказаў, што кіроўца не выжыў, але доўга не мучыўся, бо памёр імгненна. «Імгненна» павінна было мяне супакоіць, калі не суцешыць — калі імгненна, тады не так і страшна, не так і шкада. Для мяне «імгненна» было крыўдным: я ўпэўніла сябе, што гэта хуткая смерць была яго ўласным выбарам, што ён наўмысна пакінуў мяне тут, у бясконцых блуканнях па маёй галаве, а сам сышоў і такім чынам быццам навечна выйграў без магчымасці наладзіць рэванш і адыграцца. «Імгненна» было амаль што подла, і я дзівілася, як доктар не разумее такія простыя рэчы.

На восьмы тыдзень мяне павінны былі выпісаць. Я прачнулася раненька, першай справай праверыла сшыткі — ці на месцы, прагарнула пару старонак — ці верна ўсё памятаецца. І калі пераканалася, што сшыткі на месцы і памятаецца верна, у дзверы пакоя пагрукалі, і зайшла Соня.

Гэта было занадта. Я не жадала Соні смерці, я шкадавала яе больш за іншых дзяўчат, я плакала, калі пісала пра яе смерць, але я не жадала бачыць яе жывой. Сур'ёзна, патрэбны нейкія межы. У адрозненне ад доктара, выраз Сонінага твару цалкам дакладна адлюстроўваў жаль і сорам.

— Як ты тут? — пачала яна, прысеўшы на краёчак ложка. І, не чакаючы адказу (які насамрэч я і не збіралася даваць), працягнула: — Я даведалася... Мне вельмі шкада. Такая незвычайная, рамантычная гісторыя. Хто б мог падумаць, што так скончыцца! Я была ўпэўнена, што мы разам яшчэ збяромся на ваша вяселле.

А я была ўпэўнена, што твая галава больш ніколі не злучыцца з целам. Чаму я была так упэўнена, калі гэта адбылося не на маіх вачах? Бо ўсё да таго вяло. Бо з першага тыдня, з таго самага моманту, калі Соня знікла, я не разглядала магчымасці, што можа быць інакш. Людзі не знікаюць, каб зноў паявіцца. Такія законы жанру. Бо Вадзік сказаў, што Соня безгаловая. Ці дадаў ён дэталяў, ці іх прыдумала я сама? Не да месца ўзгадалася Вадзікава раздражнёнае: «Ты занадта любіш усё дадумваць!». Так, часам я прыдумляла, калі не памятала сапраўдных падзей, але гэта былі ўсё бяскрыўдныя прыдумкі. Ці яны толькі падаваліся бяскрыўднымі?

Соня замітусілася на ложку. Напэўна, на яе думку, мы занадта доўга маўчалі для людзей, якія не трымаюць адно на аднаго зла. А я трымала, яшчэ як, але зусім не па тых прычынах, пра якія думала Соня.

«Я думала, ты памерла, — хацела сказаць я. — Я думала, гэта вельмі ў Вадзікавым духу зрабіць цябе мёртвай. І калі ты зараз жывая, калі ты прыйшла да мяне абуральна здаровая і цэлая, гэта значыць, што зрабіць цябе мёртвай было зусім не ў Вадзікавым духу, а ў маім, і дзіўна, калі ты лічыла, што гэта адкрыццё мне спадабаецца».

— Як там дзевачкі? — спытала я асцярожна.

Соні яўна палепшала ад магчымасці перайсці на бяспечную тэму.

— Ну, Віцька нарэшце паклікаў Лёлю замуж! Зразумела, не лепшая пара для нашай Лёлі, але яна ходзіць такая шчаслівая, што ў мяне язык не паварочваецца спытаць, ці добра яна падумала.

— Віцька? Віктар Віктаравіч? І яна пагадзілася? Ды ён проста ёю карыстаўся! — вырвалася ў мяне. Дурная-дурная Лёля. Дзеля такіх і прыдумалі граблі. Раней, чым зразумелі, што яны карысныя і ў сельскай гаспадарцы.

— Ну, пакуль што нашымі думкамі па гэтым пытанні ніхто не цікавіўся, — уздыхнула Соня. — Але, прынамсі, мы па-ранейшаму з чыстым сумленнем можам хадзіць да яго на сеансы. А ты сама гаварыла, што баішся іх пазбавіцца.

Я? Баюся пазбавіцца сеансаў несапраўднага псіхолага? Якая бязглуздзіца!

— А Каця? Я бачыла іх з Жорыкам на трасе! Яны ехалі за намі. Дакладна, як прапанаваў Вадзік у сваёй цыдулцы. Яны спрабавалі мяне выратаваць?

Ну вось, зноў пачала круціцца на ложку.

— Ясечка, дарагая, — залапатала Соня, — чаму ж адразу выратаваць? Хіба табе патрэбна было гэта ратаванне? Ведаеш, калі Вадзік прыйшоў да мяне, ён так шчыра распавядаў пра сваё каханне да цябе, пра ваша дзяцінства, як ты расла на яго вачах, як ён заўсёды ведаў, што вы будзеце разам. Ён мне пакляўся, што не трымае на цябе зла за

турму, што ён усвядоміў сваю віну. Ды і хто ў юнацтве не памыляецца!

Відаць, пра маю ролю ў юнацкіх памылках Вадзік галантна прамаўчаў.

— Шчыра распавядаў пра каханне, а сам пакінуў Каці ў цыдулцы наш адрас! — настойвала я. — А той хапіла сумлення яшчэ і Жорыка сюды ўцягнуць! Ведае, што ён бегае за ёй, як сабака, і робіць усё, што яна папросіць!

Чарговы цень прабег па Соніным твары. Гэтыя яе рэакцыі пачыналі раздражняць.

— Што ты такое гаворыш, Яся! — з дакорам сказала яна. — Навошта Жорыку за Кацяй бегаць? Што за зайздрасць такая беспадстаўная? Ніколі твой Жорык Кацяй не цікавіўся, а, можа, і дарма, бо гаварыла табе і гавару, не шкадуеш ты хлопца, не шкадуеш і не кахаеш!

Ды што яна ўвогуле нясе?! Я моўчкі дастала з-пад падушкі свае сшыткі, пачала гартаць старонкі, шукаючы, што яшчэ засталося некранутым Сонінымі бязглуздымі словамі. Літары расплываліся перад вачыма, і ніяк не атрымвалася выхапіць патрэбнае.

— Ну, не трэба плакаць! — зусім засмуцілася Соня. — Прабач, прабач, Ясечка, дурная ў цябе сяброўка, выбрала час, калі натацыі чытаць! Давай лепш пра Кацю раскажу, добрыя навіны: дайшла наша Каця да фіналу, і нешта мне падказвае, што вернецца яна да нас з перамогай! Дарэчы, абяцала, як толькі вернецца, адразу цябе праведае! Ты не думай, што яна бессардэчная, але ты ж ведаеш Кацю, як яна гарэла тымі здымкамі!

— Якія яшчэ здымкі? — зусім збянтэжылася я. — Адных здымкаў ёй, значыць, не хапіла!

Соня відавочна спужалася, але тут жа, засаромеўшыся свайго страху, паклала рукі мне на плечы, быццам з самага пачатку хацела зрабіць гэты сяброўскі, пяшчотны жэст.

— Яська, даражэнькая!.. Доктар папярэдзіў, што ты трохі блытаешся, вынікі аварыі, але хто б на тваім месцы не блытаўся, такая страшная трагедыя! Я бачыла ў навінах фота той машыны, у якой вы ехалі. Гэта цуд, проста цуд, што ты выжыла. Трэба толькі час, ты адпачнеш, і ўсё стане на свае месцы.

— Якія яшчэ здымкі? — я павольна, па складах паўтарыла сваё пытанне.

— «Халасцяк» з Ягорам Крыдам, — Соня і сама ледзь не плакала, гледзячы на мяне. — Дарэчы, твая гісторыя зайшла гледачам, пасля яе Каціны рэйтынгі і падняліся...

Слухаць далей было немагчыма. Соніны словы раздражнялі, злавалі сваёй складнасцю, у той час як мае сшыткі, мая праўда, правісалі, як дрэнна падагнаныя штаны. На хвілінку з'явілася дурная ідэя паказаць сшыткі Соні, папрасіць прачытаць, выкрасліць няправільнае, пабыць тым самым настаўнікам гісторыі, якога мне так не хапала. Але ці дапаможа Соня зразумець, насамрэч мы калісьці з Вадзікам разам планавалі злачынствы? Ці гэта я выкруціла стырно так, што Вадзік загінуў, а я засталася без апошняга сведкі мяне сапраўднай, ці бесцялесная, некаральная «неасцярожнасць за стырном»?

Соня можа выкрасліць Вадзікавы цыдулкі, тэлепраект «Мужчына выбірае», нават сваю смерць, але Соня не адкажа, дзе я нахлусіла пра сябе. Ніхто не адкажа. Кожны наступны момант да самага канца жыцця я буду сумнявацца ў тым, кім я была да гэтага. Усё, што застаецца — толькі глядзець па баках, чытаць у чужых вачах, добры я чалавек ці злы, сацыялізаваны ці дзікі. Толькі і застаецца, што збіраць па гэтых позірках, па кароткіх рэпліках тое, што з'яўляецца мной.

Можа, гэта нармальна. Можа, так жывуць усе людзі. І я пражыву.

У дзверы пагрукалі. Соня павярнулася да мяне, усміхнулася першы раз за сустрэчу.

— Гэта табе сюрпрыз. Ледзь угаварыла пачакаць некалькі хвілін, — прашаптала яна, а потым крыкнула ў голас. — Адчынена!

У дзвярах з'явілася мужчынская постаць. Я напружыла зрок. Можа, уся справа ў вачах. Можа, акуляры зробяць гэты свет больш рэальным і праўдзівым. Постаць наблізілася. Памыліцца было немагчыма.

— Жорык, — выдыхнула я, — як ты тут...

— Здароў, малая, — сказаў Жорык. А вочы дадалі: «Я ўсё зразумеў. Мы не будзем да гэтага вяртацца».

## Напярэдадні катастрофы
*Лібрэта*

Яны сядзелі ўчатырох моўчкі. Паўгадзіны таму яны нанава пазнаёміліся, ледзь стрымліваючы ўсмешкі, каб не пакрыўдзіць Віцьку.

Бо ідэя была менавіта Віцькава. Даведаўшыся, што праз месяц Кацю чакаюць здымкі на тэлебачанні, Віцька ўпэўнена заявіў, што без падрыхтоўкі нельга: трэба адрэпеціраваць прамову, каб нехта дасведчаны паназіраў з боку, растлумачыў непазбежныя памылкі, падказаў, як сябе трымаць, што гаварыць і як глядзець. У жаночым пытанні Віцька справядліва лічыўся выдатным спецыялістам — нездарма яны ўсім аддзелам бухгалтэрыі некалькі гадоў хадзілі да яго на масаж, хаця масажыст з яго быў даволі млявы. Затое ўмеў слухаць і назіраць і часцяком даваў нядрэнныя парады. Дзяўчыны, жартуючы, часам нават называлі Віцьку не масажыстам, а псіхолагам, чым відавочна цешылі яго самалюбства. Вось і нацешылі на сваю галаву — сядзі цяпер перад Віцькавым «Canon» і распавядай пра свой гаротны лёс.

— Гатовая? — спытаў Віцька ў Соні.

Паназіраць за паводзінамі сяброўак таксама было часткай Віцькавага плану. «Лепш вучыцца на чужых памылках», — пераконваў ён Кацю. Доўга ўгаворваць дзяўчат не прыйшлося: Лёля, закаханая ў Віцьку амаль што з першага сеансу псеўдамасажу, была гатовая падтрымаць любую яго прапанову. А Яська з Соняй прыдумалі, што нядрэнна было б сумясціць рэпетыцыі да здымкаў з адпачынкам на прыродзе: з гэтай мэтай яны арандавалі невялікі катэдж у маляўнічай мясцовасці пад Мінскам.

Рэпетыцыя насамрэч выявілася карыснай: Каця, згодна з Віцькавай парадай, старалася глядзець на дзяўчат так, быццам бачыць іх упершыню, і гэты чужы, бязлітасны позірк дазволіў ёй заўважыць шмат чаго, на што заплюшчваліся яе сяброўскія вочы. Пакуль Віцька задаваў дзяўчатам правакацыйныя пытанні, Каця пазначала для сябе:

Не выварочваць душу перад няўдзячнай публікай: ніякіх гісторый пра няўдалыя адносіны, дзіцячыя крыўды і разбітае сэрца — гэта глядзіцца нікчэмна;

Не намагацца выглядаць занадта станоўчай — гэта глядзіцца сумна;

Не быць, як Лёля — інакш табой будуць карыстацца нават масажысты;

Ніколі не расказваць Лёлі, якія вывады Каця зрабіла ў час яе інтэрв'ю.

Такім чынам, калі чарга спавядацца дайшла да Каці, тая добра ведала, як рабіць не трэба. Праўда, высветлілася, што гэтых ведаў для добрай прамовы недастаткова.

— І што мне казаць? — незадаволена спытала яна ў Віцькі. — Калі ты забракаваў усе гісторыі!

— Ну, не ўсе, — не засмуціўся Віцька. — Ясьчына гісторыя была добрая.

— Гэта пра тое, як Яська пацалавала Жорыка, пасля некалькі гадоў марудзіла, пакуль не дазволіла яму зноў цягацца паблізу? Ціха, Яська, я разумею, у вас каханне, не пра тое гаворка! Чым, цікава, гэта гісторыйка лепшая за Соніну, напрыклад?

— Ну, пра цягацца паблізу гаварыць і, праўда, не варта: ты ж у нас павінна быць свабоднай як вецер для новых адносін з халасцяком! А вось пра сяброўскі пацалунак — гэта пікантна. І хлопцы, і гледачы любяць падлюкаватых... Даруй, Ясечка, зразумела, гэта не пра цябе!

На тым і вырашылі. Каця, як запомніла, паўтарыла Ясьчыну гісторыю, Віцька пахваліў і паабяцаў Каці выслаць запіс здымкаў.

— Дарагія дзяўчаты! — шырока пасміхаючыся, сказаў Віцька, нарэшце схаваўшы свой «Canon». — Рады вітаць вас на першым на беларускім тэлебачанні рамантычным праекце, дзе кожная дзяўчына мае шанц знайсці свой лёс — «Мужчына выбірае» на БТБ! Наступныя некалькі тыдняў мы правядзём у гэтым цудоўным месцы, так бы мовіць, на ўлонні прыроды!

— Ой, ды хопіць! — спыніла яго Каця. — Здымкі на сёння завершаны. Тут ёсць невялікае возера ў лесе. Пойдзем, нарэшце, купацца!

Па дарозе яны захапілі Жорыка і Соніну дачку, Тонечку, якія цярпліва чакалі ў катэджы, пакуль дзяўчаты з Віцькам нагуляюцца ў тэлебачанне. Жорык адразу падскочыў да Яські, узяў за руку, нешта вясёлае замармытаў ёй на вуха, час ад часу спыняючыся, каб выбухнуць бязглузда-шчаслівым смехам закаханага.

Соня назірала за ім з жалем. Колькі разоў яна размаўляла з Яськай, прасіла: не мардуй хлопца, калі не кахаеш, адпусці, ну, балюча ж глядзець, як ён да цябе лашчыцца, а ў цябе вочы халодныя. Яська толькі адмахвалася: якое там адпусці, яны са школы разам, усё жыццё правялі на адной лесвічнай пляцоўцы. А што датычыцца вачэй, так у яе тэмперамент такі, нізкатэмпературны, што цяпер зробіш! Але Соня ведала Ясьчыну тайну, што быў на той пляцоўцы яшчэ адзін хлопец, Жорыкаў брат, містар Хайд, пра адносіны з якім Яська расказвала пару разоў у час прыпадкаў алкагольнай шчырасці. І вочы яе пры гэтым гарэлі, што тыя факелы.

— А мы з дзядзькам Жорыкам не сумавалі! — дакладвала малое маці, пакуль яны рушылі да возера. — Ён

падарыў мне фламастары, і мы разам сёе-тое намалявалі, але гэта сюрпрыз!

— Добра, дзетка, увечары пакажаш, — пагаджалася Соня, упэўненая, што атрымае чарговы свой партрэт.

Апынуўшыся на возеры, яны падзяліліся па інтарэсах. Яська з Лёляй, якія плаваць не ўмелі, возерам асабіста не зацікавіліся: адразу паслалі покрыўку і расцягнуліся на ёй, нават не здымаючы шортаў.

Каця, кінуўшы ў іх бок пагардлівае: «Цюлені», наадварот, першай справай пераапранулася. Купальнік быў цэльны, але моцна адкрыты наперадзе, у такім не купацца ў лясным возеры, а валяцца на прыватным пляжы прыватнага вострава, пацягваючы кактэйльчык коштам у тыднёвы беларускі заробак.

Бомбачкай яна ўляцела ў ваду, дзе ўжо плёскаўся, са звычайнай радасцю чалавека на пачатку новага купальнага сезона, Жорык.

— Наганяй! — крыкнула яна Жорыку. Жорык хутка падхапіў гульню, але нагнаць было не так і проста: адзываўся і Кацін КМС па плаванні, і Жорыкава прыхільнасць да слоек з цынамонам. Нарэшце ён вырашыў сфальшаваць, схапіўшы Кацю за пятку, за што і атрымаў той самай пяткай па носе.

Яська незадаволена назірала за гэтымі гульнямі з берага. Магла б Каця прыберагчы свае купальнікі да сапраўдных здымкаў, а не фарсіць паўголай перад чужымі жаніхамі. Яшчэ і яе гісторыю сабе забрала! Было нешта ў гэтым запазычанні крыўднае, Яська ледзь стрымалася, каб не сказаць: не за табой Жорык бегаў, а за мной, няма чаго тут хваліцца! Але прамаўчала: яшчэ падумаюць, што ёй шкада нейкай недарэчнай гісторыі. А Яська заўсёды намагалася выглядаць добрай.

— Ты мяне слухаеш, не? — незадаволена спытала Лёля, і Яська нарэшце вынырнула са сваіх раўнівых думак.

Лёліны скаргі былі ёй добра вядомыя: Віцька, атрымаўшы свабодны доступ да Лёліных пірагоў, кватэры і сэрца, жаніцца тым часам не спяшаўся, спасылаўся на першы няўдалы шлюб, на малое, якое цяпер бачыць бацьку толькі па выхадных. «Трэба ўсё ўзважыць, — паўтараў ён з канапы, прыхільна назіраючы, як Лёля прасуе яго белыя рабочыя штаны. — Спешка ў такіх справах да дабра не прыводзіць».

— Галоўнае, дачка яго гэта, Хрысцінка, не ведаю, што з ёй рабіць! — дзялілася набалелым Лёля. — Яна толькі глядзіць на мяне сваімі спуджанымі вачыма і не кажа нічога. І раве без перапынку. А Віця ўсё бачыць! Здаецца, таму ён мяне замуж і не бярэ: каму патрэбна такая жонка, якая з дзіцём управіцца не можа?

На Ясьчыну думку, справа тут была зусім не ў дзецях, але з Лёляй сваімі назіраннямі яна не дзялілася: калі Лёля з Віцькам палаюцца, прападуць Ясьчыны масажы, а знайсці іншага такога масажыста, які табе ў нагрузку яшчэ і сеанс псіхатэрапіі правядзе, задачка не з простых.

— Можа, вам у інтэрнат разам з’ездзіць? — прапанавала Яська. — Хай пабачыць, што ты ладзіш з дзецьмі, калі гэта не дзеці ад былой жонкі?

Лёля паглядзела на яе з сумневам, але адказаць не паспела, бо да іх вярнулася Соня.

— А ты дзе была? — пераключылася на яе Лёля. — Здаецца, хвілін дваццаць цябе не бачыла. Віця вунь ужо стаміўся за Тонечкай бегаць.

— Нічога, яму карысна! — заўважыла Соня. Віцю яна справядліва недалюблівала. — Званілі з працы, нічога цікавага.

Хлусіць Соні было сорамна, не такі яна чалавек. Але вера, што ўсё дзеля добрай справы, перамагла.

Калі некалькі тыдняў таму яна ўпершыню сустрэлася з Вадзікам, гэта вера была слабейшай. Тады Соня недавер-

ліва выслухала яго гісторыю: ад Яські яна ведала, у якой установе бавіў свой час Вадзік апошнія гады, і ведала, за што. Вадзік мог бы бясконца пераконваць Соню, што ён змяніўся, што намеры ў яго зараз самыя прыстойныя, і Соня ўсё роўна не пагадзілася б яму дапамагаць, калі б не сама Яська і яе стаўленне да Жорыка.

Дзіўна, але ў Жорыкавым захапленні Яськай яна пазнавала сваё былое захапленне мужам. Тое ж загляданне ў рот, страх не дагадзіць, няспынная барацьба за кожны заахвочвальны позірк, кожнае добрае слова. Колькі разоў Соня стрымлівала сябе, каб не сказаць Жорыку: дурны, паслухай мяне, я старэйшая, я ўсё гэта праходзіла, не бывае каханне з удзячнасці, і за выслугу гадоў таксама не бывае!

Замест Жорыка яна спрабавала пераканаць Яську. Асабліва пасля таго, як тая аднойчы прызналася, што сумуе па сваім мінулым хлопцы, што бачыць яго часам у снах. «Гэта былі хваравітыя адносіны, — прызнавалася Яська, седзячы на падлозе Сонінай кухні, падпіраючы спінай батарэю, з напалову пустым “Джонні Уокерам” пад бокам. — Але, ведаеш, бывае і дрэнна лепш, чым пуста». Соня тады пакрыўдзілася за Жорыка, як за роднага. Глядзіце, чалавек вакол яе толькі што карагоды не водзіць, а ёй пуста.

Таму, абдумваючы Вадзікаў план, Соня паступова схілялася да таго, каб пагадзіцца. Не пакрыўдзіў Вадзік Яську тады, не пакрыўдзіць і зараз, а Жорыка яна тым часам уратуе. Зноў-такі, хаця ў змену Вадзікавых маральных прынцыпаў Соня паверыла і не надта, але ж агонь у вачах пры ўспаміне пра Яську не заўважыць было немагчыма.

План, тым не менш, быў вар'яцкім. Даведаўшыся ад Соні пра арандаваны на выхадныя катэдж, Вадзік палічыў, што лепшага моманту для сустрэчы з Яськай нельга і прыдумаць. «У горадзе яна і слухаць мяне не будзе, — пераканана гаварыў ён. — Тым больш, што за ёй усюды цягаецца

Жорык. Падмітусіўся, браток, пакуль мяне не было, што тут скажаш! Трэба неяк вывесці Жорыка з гульні».

І гэта першае, што не падабалася Соні, — неабходнасць травіць Жорыка.

«Вось вы, жанчыны, любіце гучнымі словамі кідацца! — супакойваў яе Вадзік. — Што значыць травіць, звычайны паслабляльны сродак, пасядзіць ваш Жорык трохі лішняга ў пакоі роздуму, ну так яму яшчэ і на карысць пойдзе».

Другое — абавязковае патрабаванне, што Яську спачатку трэба добра напужаць.

«Ты мне павер, — угаворваў яе Вадзік. — Яську я ведаю даўжэй за цябе. Мы з ёй у пужалкі з дзяцінства гулялі. Яна, пакуль яе не напужаеш як трэба, што мёртвая. Толку будзе мёртвай пра свае пачуцці распавядаць! Не, мне патрэбна Яська жывая, жывей за ўсіх жывых, толькі тады ўсё атрымаецца».

«Хваравітыя адносіны, — прыгадвала Соня Ясьчыны словы. — Хто іх ведае, можа, так і трэба».

Такім чынам, Соня, хоць і без асаблівай ахвоты, але пагадзілася.

Вячэра ў катэджы прайшла, як трэба. Соніну прапазіцыю зладзіць Купалле, як калісьці раней, палячы вогнішчы ў лесе, дзяўчаты прынялі з нечаканым энтузіязмам. Жорык, пакутуючы на жывот, чакана адмовіўся. Віцьку Соня ўпрасіла таксама застацца дома, каб даглядаць Тонечку, але той асабліва і не пярэчыў: над скокамі праз купальскае вогнішча Віцька адназначна аддаваў перавагу ўтульнаму вечару на канапе перад тэлевізарам.

Учатырох яны трапілі ў начны лес. Соня, кіруючыся Вадзікавымі інструкцыямі, вывела іх на патрэбную палянку, прапанавала месца для вогнішча — якраз насупраць патрэбнага дрэва. Праўда, план ледзь не рухнуў, калі Каця захацела скокнуць першай: Вадзік вельмі строга папярэ-

дзіў, што першай скакаць павінна Яська, каб менавіта яна пабачыла прымацаванае да суседняга дрэва пудзіла.

— А раптам яна не спужаецца і не пабяжыць? — недаверліва пыталася Соня.

— Яська? — смяяўся Вадзік. — Вы сяброўкі ці не, нешта ты яе дрэнна ведаеш! Яна заўсёды пужаецца. Пужаецца і бяжыць. Такая Ясьчына сутнасць.

Каця ўсё-такі пралезла першай, але нейкім цудам пудзіла не заўважыла. За ёй скокнула Соня: праверыць, ці не памылілася яна з дрэвам.

Прызямліўшыся, ледзь стрымалася, каб самой не кінуцца на ўцёкі — Вадзік прычапіў на пудзіла маску, якая з часоў выхаду жудзіка «Крык» не страціла свайго эфекту.

Трэцяй скокнула Яська. Соня назірала за ёй, да болю счапіўшы рукі. Зараз альбо спрацуе, альбо не. Столькі спадзяванняў стаяла на коне!

Але Соня дарма хвалявалася: усё прайшло, як трэба.

Яська спужалася і пабегла, куды вочы глядзяць.

З разгону яна ўткнулася ў нешта цёплае.

— Злавіў, — сказаў чалавек у цемры. — Усё такая ж пугліўка. Я сумаваў.

— Вадзік?! — спытала Яська, падымаючы вочы.

Заставаўся адзін дзень да катастрофы. І калі Соня будзе вінаваціць сябе за сваё рашэнне да канца жыцця, то перадайце ёй, што гэты дзень быў добры.

## Змест

**Карытка, Т.**
К21 Чаму ўсё так? / Таццяна Карытка. — Мінск : Кнігазбор, 2020. — 152 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Пункт адліку).

ISBN 978-985-7227-69-3.

Чатыры маладыя жанчыны прыходзяць на рэаліці-шоу «Мужчына выбірае», каб знайсці каханне і праслаўіцца. Але знікненне адной з удзельніц, ананімныя запіскі з перасцярогамі і дзівацкія конкурсы красамоўна падказваюць, што рэжысёр праекта ставіць свой, небяспечны эксперымент, мэта якога зусім не каханне. Дэбютная кніга Таццяны Карыткі пачынаецца як вясёлая пародыя на вядомы тэлепраект, а па сутнасці становіцца выказваннем пра ненадзейнасць памяці і немагчымасць зафіксаваць мінулае як нязменную велічыню.

**УДК 821.161.3-3**
**ББК 84(4Беи)**

Аўтар фота на вокладцы Таццяна Карытка.

16+

Літаратурна-мастацкае выданне

Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка»

Падсерыя «Пункт адліку»

**Карытка** Таццяна

**ЧАМУ ЎСЁ ТАК?**

Рэдактар Ганна Бутырчык
Вёрстка Ларысы Гарадзецкай
Карэктар Віка Трэнас

Падпісана да друку 18.08.2020. Фармат 84×108 1/32.
Папера афсетная. Друк лічбавы.
Ум. друк. арк. 7,98. Ул.-выд. арк. 5,57.
Наклад 150 ас. Замова № 286.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 249-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.